# Крыніца

5(65)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Крыніца № 5 (65)
2001

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:**
калектыў рэдакцыі,
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630
ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Званіце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 08.05.2001. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 845 экз. Зак. 1094.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# Алег Мінкін

*...Ад той пары прачынаюся ў хаце прапаснай,*
*Што б ні чыніў і куды б не кідаў мяне лёс.*
*І ўсё часцей я праседжваю тут невылазна,*
*Гледзячы ў шыбу, забітую дошкай наўскос.*

Алег МІНКІН

# З Алегам Мінкіным *гутарыць* Зміцер Вішнёў

Сама сітуацыя падрыхтоўкі гэтай размовы выглядае, як нешта фантастычнае. І справа не ў тым, што рабілася яна год таму ва ўтульнай віленскай "Польскай галерэі" і нешта магло змяніцца ў жыцці літаратуры, паэта. Справа ў іншым. Запісвалася гутарка ў шыкоўны канцэптуальны блакнот, падораны адным літоўскім літаратарам. Вокладка чырвонага па колеры блакнота абвяшчала, што тут знаходзяцца ўспаміны Войцэха Ярузэльскага. Таму знікненне гэтай кніжыцы выглядала пэўнай містыкай. І знойдзена яна была... пад труною, якую Зміцер Вішнёў захоўваў ва ўласнай кватэры для перформанса.

Алег Мінкін – паэт-містык. Ён як вецер, як шэпт мора, як аповед лесу. І неістотна, апавяданні гэта ці вершы, – гэта паэзія. І галоўная містыфікацыя, па прызнанні самога Мінкіна, – гэта Хведар Ніцка. Народжаны невядома дзе, выхаваны невядома на чым, ён тым не менш знаходзіцца пад уважлівым разглядам віленскіх паэтаў. Часам падаецца, што Ніцка – гэта брат Мінкіна. Часам – што сын. А можа, паэт Ніцка – бацька паэта Мінкіна? Містыфікацыя закручвае ўсё ў паэтычную завіруху. І тады раптам паўстае зусім нечаканае пытанне: дык, можа, ва ўсёй гэтай цьмянай кругаверці вінаваты Ніцшэ?

І радкі з верша "Вятрак" набываюць таксама новае гучанне:

*Махаюць прывіды магутнымі рукамі.*
*Згатовіўся да бойкі Дон Кіхот.*

**Зміцер ВІШНЁЎ:** *Алег, ты не адчуваеш сябе адарваным ад радзімы?*

**Алег МІНКІН:** Нельга сказаць, што я адарваны ад Беларусі. Адлегласць ад Брэста да Мінска, дзе я жыў, нашмат большая. Ёсць такая думка, што ўсе дарогі вядуць у Рым. На Беларусі сапраўдны культурны цэнтр – Мінск. І сёння мне патрапіць да яго прасцей, чым у старыя часы. Прыгадваючы літаратурнае жыццё Берасцейшчыны, магу сказаць, што яно вылучалася пэўнай правінцыйнасцю. З Вільняй усё інакш – тут добры літаратурны асяродак. Я штодня адчуваю творчую завіруху. Прычым і сам горад прасякнуты беларускім паветрам. Дарэчы, што датычыцца Берасцейшчыны, дык пасля майго ад'езду адтуль я згубіў з ёй усе кантакты, таму зусім не ведаю, што цяпер адбываецца ў тамтэйшых літаратурных колах. А сваё жыццё я палепшыў ва ўсім – і ў побытавым плане, і ў творчым. Іншая справа, чаму я з'ехаў? У Брэсце мяне нічога не трымала. А тут раптам Сяргей Дубавец кінуў кліч: “Зробім беларускую “Нашу Ніву!” Гэта была сапраўдная хваля нацыянальнай ідэі. Я падтрымаў гэты кліч і апынуўся тут. У першых пятнаццаці нумарах я быў дастаткова шырока прадстаўлены і артыкуламі, і вершамі. Але, на жаль, пасля пераезду рэдакцыі ”Нашай Нівы” ў Мінск згубілася нешта рамантычнае. На маю думку, было дастаткова штомесячнага віленскага нумара “Нашай Нівы”. Хаця я прадчуваю з гэтым выданнем сітуацыю вяртання. Бо інакш немагчыма. А ўвогуле, Зміцер, ты сюды прыязджаеш, сядзіш у "Польскай галерэі", п'еш каву. Прыгожы старажытны горад – Вільня. Таму я разумею карэнных мінчукоў, якія імкнуцца ўсімі праўдамі і няпраўдамі сюды патрапіць.

**Зм. В.:** *І ўсё ж ходзяць чуткі, што ты амаль не пішаш...*

**А. М.:** Гэта не так. Я проста мала друкуюся. Для мяне стала зразумелым, што з узростам губляеш жаданне патрапіць са сваімі творамі на вочы чытача. Мне ўжо 47 гадоў, і таму заносіць кудысьці і штосьці я лянуюся. Ды і не зусім усё задавальняе ў нашых раскручаных літаратурных часопісах.

Маё асабістае жыццё насычанае. Я недзе ўнутрана ні да чаго не належу. Каларыт паэзіі нараджаецца і сплывае. У прынцыпе мая творчасць не прывязаная да геаграфіі, да часу. Так некалі аб маёй

# З Алегам Мінкіным *гутарыць* Зміцер Вішнёў

Сама сітуацыя падрыхтоўкі гэтай размовы выглядае, як нешта фантастычнае. І справа не ў тым, што рабілася яна год таму ва ўтульнай віленскай "Польскай галерэі" і нешта магло змяніцца ў жыцці літаратуры, паэта. Справа ў іншым. Запісвалася гутарка ў шыкоўны канцэптуальны блакнот, падораны адным літоўскім літаратарам. Вокладка чырвонага па колеры блакнота абвяшчала, што тут знаходзяцца ўспаміны Война Ярузэльскага. Таму знікненне гэтай кніжыцы выглядала пэўнай містыкай. І знойдзена яна была... пад труною, якую Зміцер Вішнёў захоўваў ва ўласнай кватэры для перформанса.

Алег Мінкін – паэт-містык. Ён як вецер, як шэпт мора, як аповед лесу. І неістотна, апавяданні гэта ці вершы, – гэта паэзія. І галоўная містыфікацыя, па прызнанні самога Мінкіна, – гэта Хведар Ніцка. Народжаны невядома дзе, выхаваны невядома на чым, ён тым не менш знаходзіцца пад уважлівым разглядам віленскіх паэтаў. Часам падаецца, што Ніцка – гэта брат Мінкіна. Часам – што сын. А можа, паэт Ніцка – бацька паэта Мінкіна? Містыфікацыя закручвае ўсё ў паэтычную завіруху. І тады раптам паўстае зусім нечаканае пытанне: дык, можа, ва ўсёй гэтай цьмянай кругаверці вінаваты Ніцшэ?

І радкі з верша "Вятрак" набываюць таксама новае гучанне:

*Махаюць прывіды магутнымі рукамі.*
*Згатовіўся да бойкі Дон Кіхот.*

**Зміцер ВІШНЁЎ:** *Алег, ты не адчуваеш сябе адарваным ад радзімы?*

**Алег МІНКІН:** Нельга сказаць, што я адарваны ад Беларусі. Адлегласць ад Брэста да Мінска, дзе я жыў, нашмат большая. Ёсць такая думка, што ўсе дарогі вядуць у Рым. На Беларусі сапраўдны культурны цэнтр – Мінск. І сёння мне патрапіць да яго прасцей, чым у старыя часы. Прыгадваючы літаратурнае жыццё Берасцейшчыны, магу сказаць, што яно вылучалася пэўнай правінцыйнасцю. З Вільняй усё інакш – тут добры літаратурны асяродак. Я штодня адчуваю творчую завіруху. Прычым і сам горад прасякнуты беларускім паветрам. Дарэчы, што датычыцца Берасцейшчыны, дык пасля майго ад'езду адтуль я згубіў з ёй усе кантакты, таму зусім не ведаю, што цяпер адбываецца ў тамтэйшых літаратурных колах. А сваё жыццё я палепшыў ва ўсім – і ў побытавым плане, і ў творчым. Іншая справа, чаму я з'ехаў? У Брэсце мяне нічога не трымала. А тут раптам Сяргей Дубавец кінуў кліч: "Зробім беларускую "Нашу Ніву!" Гэта была сапраўдная хваля нацыянальнай ідэі. Я падтрымаў гэты кліч і апынуўся тут. У першых пятнаццаці нумарах я быў дастаткова шырока прадстаўлены і артыкуламі, і вершамі. Але, на жаль, пасля пераезду рэдакцыі "Нашай Нівы" ў Мінск згубілася нешта рамантычнае. На маю думку, было дастаткова штомесячнага віленскага нумара "Нашай Нівы". Хаця я прадчуваю з гэтым выданнем сітуацыю вяртання. Бо інакш немагчыма. А ўвогуле, Зміцер, ты сюды прыязджаеш, сядзіш у "Польскай галерэі", п'еш каву. Прыгожы старажытны горад – Вільня. Таму я разумею карэнных мінчукоў, якія імкнуцца ўсімі праўдамі і няпраўдамі сюды патрапіць.

**Зм. В.:** *І ўсё ж ходзяць чуткі, што ты амаль не пішаш...*

**А. М.:** Гэта не так. Я проста мала друкуюся. Для мяне стала зразумелым, што з узростам губляеш жаданне патрапіць са сваімі творамі на вочы чытача. Мне ўжо 47 гадоў, і таму заносіць кудысьці і штосьці я лянуюся. Ды і не зусім усё задавальняе ў нашых раскручаных літаратурных часопісах.

Маё асабістае жыццё насычанае. Я недзе ўнутрана ні да чаго не належу. Каларыт паэзіі нараджаецца і сплывае. У прынцыпе мая творчасць не прывязаная да геаграфіі, да часу. Так некалі аб маёй

ўвайшоў у кнігу "Тазік беларускі", у ім адчуваецца іронія.І гэта як бы перасцярога наконт той самай, роднай, беларускай... Іншая справа, у якім стане пішуцца гэтыя вершы. Прыведзеныя толькі што паэты – не тыя людзі, калі можна рабіць скідку на маладосць. Бо па ўсім бачна, што яны сфармаваныя.

Дарэчы, калі браць Бум-Бам-Літ, я ўсё ж рады, што ён ёсць. І так не бывае, каб час ішоў, а новага нічога не ўзнікала. Проста я раблю выснову, што ёсць розныя літаратурныя асяродкі. Але трэба рабіць нешта большае, чым проста тусоўку. Вось Аркуш арганізаваў Таварыства Вольных Літаратараў. І ўсе чакаюць ад іх твораў.

**Зм. В.:** *Творчая суполка "Вулей" з'явілася.*

**А. М.:** Ёсць мае даўнія сябры, творчасць якіх я прыняў і нясу праз усё жыццё, – гэта абойма вядомых літаратараў. Але, паўтаруся, самае істотнае – не тусоўка, а яе вынікі.

**Зм. В.:** *А як уплывае сям'я на тваю творчасць?*

**А. М.:** Сям'я ў мяне вялікая – некалькі прыгажунь, і з іх ніхто не працуе. Цалкам натуральна, што прыходзіцца здабываць сродкі на існаванне. Вымаганні вялікія, бо паралельна за кошт пэўных датацый выдаю газету – яна, як дадатковае дзіця. Пасля ўсяго гэтага я лічу сябе чалавекам шматгранным. Але гэта не перашкаджае творчасці, а хутчэй наадварот.

Алег МІНКІН

# *Вершы баладнага складу*

## 1. Нясвіжскія партрэты

По зале халоднай з блішчастым паркетам
Іду я праз шыхт старасвецкіх партрэтаў,
Паміж срэбратканых каптанаў, сукенак
І твараў уладных паноў і паненак.
Дзіўлюся на пыху ў паставах васковых,
На жорсткія вусны, на тонкія бровы.

Святло на эфесах і спражках мігціцца,
На поўсці сабак паляўнічых ільсніцца,
На пацерках, на ланцужках, на маністах
І на завушніцах зіхціць прамяніста...
Здавалася, гэтыя людзі ніколі
Не ведалі палкіх жаданняў і болю.

І раптам уразіў загадкавы позірк
Жанчыны ў манерна-абражанай позе,
І доўга глядзеў я ў маўчанні маўклівым
У бездань вачэй прыцягальных і кплівых,
І губы... знаёмыя прагныя губы –
Такія ж мяне сцалавалі да згубы!

## 2. Адысеі і Сірэны

Да скал зачарованых зносіць нас, Зеўсам заклятых,
На востраў Сірэн, чарапамі абсыпаны востраў,
Хай кожны з вас вушы залепіць размякчаным воскам,
Мяне ж прывяжыце да мачты надзейным канатам.

Вяслуйце паўз востраў: даўно я ўжо маю ахвоту
Паслухаць дзівосныя спевы... Сірэны, гавораць,
Не раз прымушалі кідацца ў сцюдзёнае мора
Нат самых трывалых, салёных наскрозь мараходаў.

Так, чую ўжо іх... Невыказныя слодыч і скруха...
Спяваць гэтак могуць адны неўміручыя Музы.
Каб толькі да Мачты сябе прывязаць не прымусіў –
Спыніць карабель загадаў бы і слухаў.

Пусціце мяне! Па сваёй паплыву я ахвоце
На спеў нетутэйшы, бліжэй да Сірэн яснапёрых!
Ітаку маю, камяністую выспу над морам,
Шукаю даўно я ў варожай прасторы – ды годзе!

Дакуль Акіян, сівагрывы, раз'юшаны волат,
Насіць мяне будзе, як трэску, па хвалях магутных?!
Хутчэй жа сарвіце з мяне ненавісныя путы!
Усё... Пруцянею... Па жылах расходзіцца холад.

Сыйшлі пакрыёму й здранцвенне, і холад магільны
Ад сонца, цяпла, ад бадзёрага плёскату вёслаў...
Вымайце, сябры, камячкі ратавальнага воску:
Да любай Ітакі вяслуйце – вяслуйце няўхільна!

## 3. Дуда

Гавораць, мой дзед адмысловы быў майстра
Іграць на старой самаробнай дудзе,
Гавораць, з дудой-чарадзейкай і кайстрай
Не разлучаўся мой дзед анідзе.

Гавораць, хоць голас дуда яго мела
Ціхі, не гучней ад гудзення чмяля,
Але як заплача – аж сэрца шчымела,
З-пад ног анямелых сплывала зямля.

Той голас жывы быў гаючай патоляй
Збалеламу сэрцу, і чуў хто яго –
Не ганьбіў і не выракаўся ніколі
Ні мовы, ні музыкі краю свайго.

Шчэ кажуць, дуду пасля дзедавай смерці,
Каб сумна на ёй больш ніхто не дудзеў,
На дубе высокім у зблытаным вецці
Схавалі чужынцы ад добрых людзей...

Як хочацца мне адшукаць яе ў лесе
І з дуба рукой асцярожнаю зняць,
Зайграць, каб ад згукаў счаканае песні
Сціскалася сэрца, каб слёз не суняць!

Але, пэўна, мне гэткай песні не здолець
Губамі нязвыклымі выдзьмуць з дуды,
І мо лепш галінкай у зблытаным голлі
Вячыстага дуба мне стаць назаўжды.

І слухаць, як поўніцца плачам дуброва,
Калі подых ветру дуду закране,
І бачыць, як хіляцца шаты-галовы
Расчуленых дрэў, абступіўшых мяне.

## 4. Перамога

Натоўп мяцежнікаў адрынуў,
Разбіты ўшчэнт, і на слупы
Ад слаўнай Капуі да Рыму
Распнуты дзёрзкія рабы.

Аточваюць акравак неба
Крывавых воблакаў брыжы.
О, як нясцерпна, як ганебна
Канаць, распнутым на крыжы!

На бруку крокі, крокі, крокі,
У тахт ім бразгаюць мячы.
Спартак, як сумны птах, шырока
Раскінуў рукі і маўчыць.

І бачыць гордая эліта,
Што зведала трывогі смак:
Не стогне, на крыжы прыбіты,
Закляты вораг іх, Спартак.

Не стогне й край шчаслівы бачыць,
Дзе ўсе – сябры сярод сяброў.
А па слупе ў пясок гарачы
Струменьчыкам сцякае кроў.

.......................................

Ідуць маўклівыя кагорты.
Гусцее мрок. Цямнее крыж.
І глуха б'е па твары мёртвым,
Рабом шпурнуты з цемры, глыж.

## 5. Пасланец Белабога

І ён прыстаў. Сеў на камень пляскаты.
І рукі сашчапіў. І зажмурыў вочы...
Цьмянелі і каналі за плячыма
Мільёны сонцаў, чорных ад знявагі,
Запырсканых запечанай крывёю
Настаўніка і радцы Белабога.

У цемрадзі плёскаліся хвалі,
Што вабілі змарнелага ў блуканнях
Сваёй выратавальнаю палёгкай:

Якое шчасце рынуць безразважна
У Нівеч, што прымае ўсіх зычліва
І роўна ўсіх адорвае пяшчотай.

Якое шчасце ў лёце непрытомным
Не помніць, як на крыж шасціканцовы
Лісліўцы Белабога прыбівалі,
Як два арлы кружлялі над распнутым –
Сівы арол, глюгасты і зайздросны,
І двухгаловы – удвая драпежней.

І бачыў ён сябе на тлумных пляцах
З працягнутымі да людзей рукамі,
А тыя слізгалі між рук, як цені
Бясплотныя, і ў Нівечы знікалі,
І, як пылок ад крылцаў матыльковых,
На сэрцы заставаўся горкі прысмак.

Ён быў адзін сярод ляных і сытых
Спакрэвічаў, як той самотны вецер,
Што сноўдаецца роспачна ў руінах,
Стараючыся абудзіць памерлых
І слых вярнуць глухім ад нараджэння –
Дый сам штохвілі робіцца слабейшы.

О, як яны баяліся прасторы,
Што ззяла ў кожным слове Белабога,
І ўцягвалі спалохана галовы
У ракаўкі сваіх мізэрных жыццяў –
Ім ракаўкі былі не прыніжэннем,
А ўратаваннем і адзіным скарбам.

..................................................

Расплюшчыў вочы ён. Сляпак спугнуты,
З вачмі, зацягнутымі скурай, крутануўся
На копчыку зямлі й пачаў адшукваць

Завалены атвор у сутарэнне –
Назад, з няўтульнай, вусцішнай прасторы,
Дзе не было ні блізкіх сцен, ні столі.

Цьмянелі і каналі за плячыма
Мільёны сонцаў, чорных ад знявагі.
Сляпак валтузіўся на жменьцы глебы.
А за сцяною непрагляднай цемры
Пялёскалася недзе вобліз Нівеч
І боль суняць пякучы абяцала.

## 6. Хата

*Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,*
*Не пайду да вас я, хіба у арэшце...*
**Францішак Багушэвіч**

Скуль я мог ведаць, якую таіла пагрозу
Хата агрузлая, што ацалела сярод
Пусткі асфальтавай з купкамі дрэў-хмарачосаў,
Дзе я кружляў, наталяючы смагу прыгод.
Помню, на хату я толькі зірнуў мімаходзь
І адвярнуўся, ды нехта з хаціны, здалося,
Голасам слабкім ледзь чутна шапнуў: не заходзь.

Я... увайшоў. Анікога. На сценах шпалеры
Паабдзіраныя. Смецце. Прыцяты ляжак.
Рэшткі ваконнага шкла выскаляе і шчэрыць
Шыба, забітая дошкай гнілой наўскасяк.
На павуцінні пад столлю – збой высахлых мух.
Мёртвая ціша... Я выйшаў з палёгкай за дзверы –
Як ацалеў, дзіваваўся, тут гэты катух?
Ды праз імгненне мяне падхапіў, як зазвычай,
Вір гарадскога жыцця, і ў яго гамане
Знікла дарэшты пахілай хаціны аблічча,
Што такім сумам нязвыклым кранула мяне.

Ранкам прачнуўся і бачу: чужое жытло,
Мухі пад столлю, у коміне вецер скавыча,
Ціснецца звонку мярцвянае ў шыбу святло.

Раптам дайшло: я ж вярнуўся, як гэта ні дзіўна,
У тую самую хату, куды кагадзе
Я ўжо заходзіў на шэпт “не заходзь”, – і з хаціны
Рынуў я вонкі да спраў, да людзей, да падзей...
Ранкам ачуўся: на тым жа я зноў лежаку,
Сціснуты цішай магільнаю, на павуціне
Здохлыя мухі вагаюцца на скразняку.
...Ад той пары прачынаюся ў хаце прапаснай,
Што б ні чыніў і куды б не кідаў мяне лёс.
І ўсё часцей я праседжваю тут невылазна,
Гледзячы ў шыбу, забітую дошкай наўскос.
Брыдка марнець, ды выходзіць нязмерна марней...
Пэўна ўжо хутка наступнік мой клямкаю бразне
І ў сваю пастку на хвілю, як я, зазірне:

Будзе пад столлю на павуціне ў кутку
Здохлая муха разгойдвацца на скразняку.

## 7. Прэлюдыя

Калі я губляю ў бяззорнай, бяздоннай начы
І сэнс існавання, і веру ў сваё прызначэнне,
Прыходзіць жанчына, якая заўсёды маўчыць, –
Жахлівай красы і распусная да абурэння.

Яе валасы, як гадзюкі, спадаюць з плячэй,
І ўзвышшы грудзей абмінаючы, джаляць калені,
Жаданне затоена ў зрэнках вільготных вачэй,
І прагныя вусны уздрыгваюць ад нецярпення.

Зданнём-насланнём наплывае яна на мяне,
І я абдымаю яе ненатольнае цела,

Нібыта тапелец, сціскаю мацней і мацней
І падаю ў бездань, аслеплы, глухі, звар'яцелы.

І ўсё ж у той змрок, дзе шалее пажадная плоць,
На самае дно ва ўладанні сляпой асалоды,
Усёдаравальны і поўны спагады Гасподзь
Жанчыну-анёлку прыводзіць па прывідных сходах.

Павольныя рухі. Вясёлкавы німб над чалом.
Бязважкага цела абрысы. У поглядзе – цнота...
І вось, завінуты зычліва празрыстым крылом,
Я слухаю голас, сатканы з цяпла і пяшчоты.

О, як безбалесна, як лёгка ісці, крок у крок,
З анёлкай-хавальніцай і адчуваць яе блізкасць,
І слухаць пра неба, дзе сутнасці нашай выток,
Дзе ўсё дасканаласць – да самай астатняе рыскі.

І вунь ужо выйсце. За ім – вышыня, далячынь...
І ўсё ж на апошняй прыступцы глухіх сутарэнняў
Мяне даганяе, якая заўсёды маўчыць,
Жахлівай красы і распусная да абурэння!

## 8. Балада пра чалавекаптаха

Нехта ўсімі забыты
цягнуў па бруку крылаў ашмоцце
і праклінаў жалезабетонныя пліты,
і задыхаўся ў бензінавым смуродзе.

А мерцвякі закутыя ў бляшанкі
як жамяра ў бурштын
праносіліся ля яго маланкай

слухаючы сімфонію шын.
..........................................

Лётаюць шматкі газеты над дахам
а сярод іх агністае пёрка
з крыла чалавекаптаха
закаханага ў зоркі.

Ён газету парваў на шматкі
і да зорак пайшоў напраст кі
пакінуўшы пёрка на знак
што не крыўдуе на чалавекасабак.

## 9.Досвед

Быў падазроны смак суніцы,
Быў несапраўдны пах жывіцы, –
І я, забыўшыся на ляк,
Узяў вяроўку і ліхтарык
і прачыніў на тратуары
ніколі нечапаны люк.

Гулі сталёвыя парэнчы.
Смуродам тхнула. Ґулка енчыў
Пры кожным кроку ржавы трап...
Ліхтарык высвеціў са змроку
Празрыстыя, з зялёным сокам,
Спляценні незлічоных труб.

У выніку маёй афёры
Я вызнаў тайну штучнай флоры –
І жылы ў роспачы ўспароў!
Бо жыць у свеце непамысным
Больш не хацеў... а з жылаў пырснуў
Раствор смярдзючы, а не кроў!

## 10. Лаўка ў старым садзе

Я знаю замшэлую лаўку ў старым закінутым садзе,
Нябачна яе за высокай травой і густым лісцём,
Аднак калі хто выпадкова патрапіць у сад і сядзе
На лаўку – дык перайначыць дазвання сваё жыццё.

Не тое, каб страшнае нешта здарылася, ці штосьці
Таемнае адбылося – проста ў нутро, спаняволь,
Халодная ліне пустэча, праб'юцца парасткі млосці,
А скроні сцісне нязнаны ніколі дагэтуль боль.

І можна не знаць, што прычына нязводнай хваробы –
лаўка,
І можна ведаць пра тое... ды ніякі ўжо алкаголь,
Ніякае ўжо каханне, ніякая ў свеце забаўка
Не вытруцяць той пустэчы, не змогуць суняць той боль.

Боль будзе з табой паўсюдна, пустэча будзе, як п'яўка,
Высмоктваць цябе і ў пекла тваё ператворыць жыццё...
Я знаю ў закінутым садзе адну замшэлую лаўку,
Нябачную за высокай травой і густым лісцём.

## 11. Хаўтуры

Хаўтурнае шчасце... Які незвычайны абрад!
Яшчэ пабываць на такім мне пашэнціць наўрад!
Чатыры шыкоўных жанчыны ва ўборах на модны крой
Нясуць на насілах нябожчыка пад прасцінай
Калёру мімозы – калёр улюбёны мой!

Як светла, як цёпла, хоць голле ахутала інь,

На могілкі суправаджаць гэтых юных багінь!
Замест удаванага плачу нязмушаны смех,
І рухі павольней, чым гэты няспешлівы снег...
Будзь Ноем – іх толькі і ўзяў бы з сабой на каўчэг!

Над радасным шэсцем зялёны ўзышоў маладзік.
Я ведаю: пад прасцінай мой дакладны двайнік!
Шчаслівы, ён жыў у каханні, пакуль не суціх,
Ён зведаў пяшчоту й пажаднасць усіх чацвярых!
І я, далібог, калі б мог, дык кахаў толькі іх!

Шчаслівец! Яго сярод іншых абралі яны!
Ён быў уладальнікам царсцьвеннай іх галізны!
У іхніх абдымках не раз засынаў ён без сіл...
А мне не абняць іх, бо рукі мае – пара крыл
Бязважкіх... І трэба спяшацца ўжо за небасхіл...

## 12. Кукабака і Сымон-Музыка

Гісторыю гэту кожны сабака
За костку курыную распавядзе:
Такіх сяброў, як смяцяр Кукабака
І Сымон-Музыка, не стрэнеш нідзе.

Возіць Кукабака смецце за горад
На старым грузавіку ў жалезнай скрыні,
А Сымон-Музыка развучвае творы
Баха, Бетховена й Паганіні.

Увечары Кукабака здымае ватоўку
І ў новых чаравіках і капелюшы

Ідзе да сябра з пляшкай "Зуброўкі"
Паслухаць што-колечы для душы.

Часцей за ўсё Кукабака ў Сымона
Просіць сыграць – і відаць нездарма! –
Сюіту Грыга пра край сцюдзёны,
Дзе цэлы год пануе зіма...

Збягаюцца ў купу зоркі дробныя,
Каб паглядзець, як у пройме вакна
Кукабака й Сымон, такія непадобныя,
За класікай бавяць свой час давідна.

## 13. Кукабака і бэз

Пад мурам таго самага механічнага цэху,
Дзе Кукабака вырабляў пратэзы,
Штогод у траўні зацвітаў куст бэзу,
Сарамліва затуляючы счарнелую цэглу.

Такой нязвыклай і такой сірочай
Была сярод шкла, бетону й жалеза
Ліловая квецень квітучага бэзу,
Што Кукабака адводзіў вочы.

На тэрыторыі, абнесенай дротам,
Квітучага бэзу ліловы кіпень
Здаваўся Кукабаку дзівосным выкапнем
Нейкай недарэчнай, забытай пяшчоты.

Напэўна ў Кукабакаў задушны закутак
Той, хто не церпіць ніякага лішку,
Дадаваў штогод пяшчоты крышку,
Каб яшчэ яскравей адцяніць пакуту.

# КРУМКАЧ

*З Эдгара ПО*

Нeяк змрочным часам ночы, калі я заплюшчыў вочы,
Разбіраючы прарочы сэнс старых пажоўклых кніг,
Раптам стук пачуў праз стому, ціхі стук у дзверы дому,
Быццам нехта невядомы прыпыніўся каля іх.
“Гэта нейкі госць, – я мовіў, – прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх”.

Быў, я помню, снежань слотны, у каміне неахвотна
Гаснуў жар, і цень дрымотны варушыўся ў зборках штор.
І чакаў я час світання, як збавення, бо чытанне
Не прынесла мне адхлання ў смутку вечным па Лінор,
Па святой, якой анёлы кажуць там цяпер “Лінор”, –
Безыменнай тут з тых пор.

Неакрэслены, трывожны шолах штор, іх зморшчкі кожнай,
Нейкім жахам прываротным да сябе прыкуў мой слых,
І стаяў я, спалатнелы, паўтараючы нясмела:
“Гэта нейкі госць спазнелы там, каля дзвярэй маіх,
Гэта нейкі госць спазнелы прыпыніўся каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх”.

І сябе пераканаўшы, што там госць, і страх суняўшы,
“Сэр, – я мовіў, – або людзі, выбачайце, што на міг
Я заснуў і вас, як брата, не пусціў адразу ў хату,
Дый пастукаліся надта ціха вы ў дзвярох маіх”, –
Дзверы я штурхнуў... нікога, толькі цемра каля іх,
Там, каля дзвярэй маіх.

Я ўзіраўся ў прадчуванні немажлівага спаткання
У ахутаны маўчаннем і цямрэчаю прастор
Ды пачуў у непрабуднай цішы толькі водгук скрутны,
Толькі водгук ледзьве чутны слова ціхага “Лінор?” –

Гэта я шапнуў, і цемра прашаптала мне: "Лінор?",
Прашаптала, як дакор.

І, гаруючы ад страты, я вярнуўся ў жальбе ў хату,
Як знячэўку стук зацяты зноў пачуўся і аціх.
"Так, – я мовіў, – мне не сніцца: стукнуў нехта ў аканіцу,
Трэба вызнаць таямніцу незвычайных стукаў тых.
Гэта вецер – вось разгадка таямнічых стукаў тых,
Вецер ля акон маіх".

Ды калі акно шырока я разнасцежыў – са змроку
У пакой крумкач звячэлы, быццам прывід дзён сівых,
Увайшоў хадою цвёрдай, і пратупаў з пыхай лорда
Ля мяне ў паставе гордай проста да дзвярэй маіх,
І на бюст Палады ўзбіўся там, каля дзвярэй маіх,
Сеў панура і заціх.

Чапурыстасць і паважнасць чорнай птушкі нехлямяжнай
Змусілі мяне ўсміхнуцца цераз сум: "Хоць і абдзёр
У сутычцы нейкі вораг на тваёй макушцы пёры,
Ты не страціў смелы нораў, змрочны дух начных пячор,
Як Плутон цябе мянуе ў нетрах тых начных пячор?"
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

Хоць адказ начнога птаха на душу мне ўпаў, як плаха,
Быў бы дзень – не меў бы страху, а цяпер – які выбар,
Калі ноч і бездарожжа, калі, быццам дух варожы,
Уваходзіць крук нягожы і сядае насупор
На скульптурны ўзгруд Палады, над дзвярыма, насупор,
Крук з мянушкай Nevermore.

А тым часам крук пануры знерухомеў на скульптуры,
Бы душу ўсю ўклаў у слова страшнае, як прыгавор.
"Як сябры мае, – ледзь чутна я шапнуў, –
крумкач прыблудны
Знікне заўтра ў каламутным цемрыве начных пячор,

Як мае надзеі, знікне ў цемрыве начных пячор".
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

Напалоханы адказам, я ачуўся не адразу
І прамовіў: "Несумненна, слова гэтае – паўтор
Скаргі нейкага нябогі, што пад гнётам лёсу злога
Праз усю сваю дарогу паўтараў, нібы дакор,
На хаўтурах мар, да скону, паўтараў, нібы дакор,
Толькі слова "nevermore".

Так разважыўшы, з усмешкай я на крэсла сеў без спешкі
Тварам да жудлівай птушкі, спінаю да цьмяных штор,
На падушку сеў у крэсла і задумаўся над сэнсам

Слова, што прынёс злавесны, змрочны дух начных пячор.
Што паведаміць хацеў мне змрочны дух начных пячор
Гэтым словам "nevermore"?

Так раздумваў я ў маўчанні над прароцтвам незвычайным
Птаха, што паглядам жорсткім на мяне глядзеў ва ўпор.
У святле сядзеў няісным каганца і ненаўмысна
На падушку прыхіліўся – так мяне адолеў змор.
Ах, ніколі на падушку не прыхіліцца Лінор
Ля мяне, о nevermore!

І здалося, пасмы дыму паплылі перад вачыма
І за спінай серафімы павыходзілі з-за штор.
"Хлус! – я ўсклікнуў. – Без сумнення,
дзіўнае тваё з'яўленне –
Боскі знак майго збавення ад жалобы па Лінор!
Дай мне зелля, каб забыцца, каб не помніць пра Лінор!"
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

"О вястун, – я ўсклікнуў, – птушка проста ты
ці д'яблаў служка!
Хай прыслаў цябе нячысты, хай прынёс цябе віхор

У бязрадны мой закутак, дзе пануе вечны смутак,
Ці пазбаўлюся пакутаў я ля Галаадскіх гор?
Ці знайду я панацэю там, ля Галаадскіх гор?"
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

"О вястун, – я ўсклікнуў, – птушка проста ты
ці д'яблаў служка!
Дзеля Бога, што справуе існым ад зямлі да зор,
Адкажы душы гаротнай, ці ўзляціць яна ў зіхотны
Райскі сад да бессмяротнай, што завецца там Лінор?
Да святой, якой анёлы кажуць там цяпер "Лінор"?
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

"Хай жа гэта слова стане знакам нашага расстання! –
Крыкнуў я. – Туды вяртайся, скуль прынёс цябе віхор!
І не ўздумай неўзаметку скінуць мне пяро, як сведку
Злой хлусні сваіх адведкаў, і не трэба так ва ўпор
Мне ў душу глядзець,
і з бюста прэч нясі свой чорны ўбор!"
Крук пракрумкаў: "Nevermore!"

З той пары крумкач закляты, з бюста бледнага Палады
Не злятаючы ніколі, прымасціўся насупор,
Ён вачыма патарочы, соннымі, за мною сочыць
І пад лямпай цень свой змрочны, на падлозе, распасцёр,
І душой я з таго ценю нізашто цяпер да зор
Не ўзлячу, о nevermore!

# З НЯБЫТАМ ВЕЧНАСЦІ ЗМАГАЦЦА

Алег МІНКІН

Алег Мінкін – з ліку тых творцаў, што найперш здзіўляюць дарам пераўвасаблення. Пра гэта сведчыць непрыхаваная адрознасць вобразна-інтанацыйнага гучання лірычных зборнікаў паэта “Сурма” (1985) і “Расколіна” (1991), кнігі сацыяльна-фарсавай прозы “Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў” (1994), вершаў і казак для дзяцей “За месяцам месяц” (1994). Варта адзначыць таксама арганічную знітаванасць пісьменніка з творамі і асобамі тых аўтараў, якіх ён перакладае. Найперш гэта тычыцца тэкстаў і творчых індывідуальнасцяў Цыпрыяна Норвіда і Баляслава Лесьмяна. Лёгкасць рукі, угадванне духу таленавітых папярэднікаў прасочваецца і ў стылізацыях, наследаваннях А.Мінкіна вялікім Дантэ, Купалу, Багдановічу, што ўспрымаюцца нашым сучаснікам як вяршынныя арыенціры ва ўласных эстэтычна-мастацкіх пошуках. На здольнасць пісьменніка прадстаўляць самыя розныя сацыяльна-грамадскія з’явы і тыпы ўказвае і вершаваная нізка “Партрэты”, сярод якіх – тыраны і рабы, свінні і лялькі, ілжэтрыбуны і пракрокі-пакутнікі.

Ужо першы зборнік творцы “Сурма” дазволіў пераканацца ў наступным. Не жадаючы “цурацца // пачуццяў, што да нас імчацца// з вясною вольным статкам крыг”[1], душа паэта аднолькава нястомна б’ецца знясіленай птушкай “над акіянам бязлітаснай развагі”. Гэта робіцца з тым, каб у чарадзе шэрых дзён, “мітульзе пылінак”, мы не страцілі саміх сябе, не згубілі здольнасці, падобна восеньскаму лісцю, вяртацца “да цёмных карэнняў”, не сталі адшчапенцамі (“Над цёмным карэннем высока ў сінечы...”).

Як чалавек, што глыбока прафесійна засвоіў законы электрычнасці, паэт здольны ўяўляць кожную – жывую і нежывую – з'яву навакольнага свету ў няспынным знешнім і ўнутраным, лінейным і рознаскіраваным руху, адзначаць як упарадкаванасць яе арганізацыі, так і хаатычнасць. Пры гэтым аўтар-лірык, асабліва ў першым зборніку, часта аддае перавагу не зыркаму знешне, а някідкаму, малапрыкметнаму, што мігціць "так квола, так няісна"[2]. Як, скажам, раскіданыя па пожні абрыўкі апошняга павуціння. Але ён аднолькава бачыць і тое, што парушае суворую выверанасць ліній ці мелодыі, углядаецца ў дзіўныя "выпукліны рэчаў", услухоўваецца ў зыкі "перакуленых гукаў".

Зразумела, што звычка творцы-рамантыка максімальна суперажываць і заўсёды імкнуцца да сугучнасці з рытмамі ўцягнутых у кола творчага асэнсавання праблемных з'яў не магла не прайсціся расколінаю праз яго сэрца, а тым больш не дадаць трывожных інтанацый і драматызму яго паэтычным радкам. Ды і якое сэрца не затрымціць, не надарвецца, калі ў разуменні яго ўладара сапраўдная творчасць выключае магчымасць спакойнага, звычайнага чалавечага жыцця, а сам ён пакутуе ў пошуках адказу на пытанне, для яго ўжо адпачатку невырашальнага: "адзінае-адно: пісаць ці жыць?"[3]. Наўрад ці маюць рацыю даследчыкі, перакананыя ў тым, што рамантызм А.Мінкіна цалкам увасобіўся ў першай паэтычнай кнізе і выяўляе сябе далей хіба толькі водгуллем "Сурмы". Проста ўласцівая дадзенай творчай сістэме здзіўленасць, адначасовая захопленасць асобы аўтара дасканаласцю і **трагізмам** свету па прычынах духоўнага росту, набыткаў жыццёвага вопыту, у тым ліку і горкіх расчараванняў, абрання ў вечныя спадарожнікі адчаю ("Вандроўнік"), у апошні час больш выразна змясціла акцэнт на другой вылучанай намі адзнацы пісьменніцкага ўспрымання і роздуму над размаітасцю з'яў існага. Анталагічнасць праблем заканамерна выводзіць думку мастака на абсягі асэнсавання небыцця, падштурхоўвае да стварэння ўласнай краіны **Нівечы**, якая кожнаму абяцае супакаенне і бясследна паглынае ўсё. Скразная прысутнасць вобраза гэтай жахлівай у сваёй маўклівасці краіны ў творчасці пісьменніка толькі падмацоўвае цвёрдасць рамантычных пазіцый яе будаўніка. У "Пасланцы Белабога" яны выяўляюцца наступным чынам:

*Якое шчасце рынуць безразважна*
*У Нівеч, што прымае ўсіх зычліва*
*І роўна ўсіх адорвае пяшчотай.*

*Якое шчасце ў лёсе непрытомным*
*Не помніць, як на крыж шасціканцовы*
*Ліслiўцы Белабога прыбівалі...(18)*

Адкрыта сцвярджаючы ідэалы грамадскай актыўнасці, дзейснага і нацыянальна-свядомага пачатку ў асобе, выступаючы супраць удаўненых глухаты і прыніжанасці тутэйшых, што хаваюць "спалохана галовы//у ракаўкі сваіх мізэрных жыццяў" (19), герой-рамантык А.Мінкіна перажывае ўзмоцненыя адпаведным катастрафічным прыродным малюнкам адзіноту, глыбокае расчараванне, уласную бездапаможнасць. У звязку з гэтым выбар за сабою пасланцом Белабога жыцця ўяўляецца больш мужным учынкам, чым стаўся б для яго выратавальны ад немачы існавання сыход у нябыт:

***Цьмянелі і каналі** за плячыма*
***Мільёны сонцаў, чорных** ад знявагі.*
***Сляпак** валтузіўся на жменьцы глебы.*
*А за сцяною **непрагляднай цемры***
*Пялёскалася недзе воблiз **Нівеч***
*І боль суняць пякучы абяцала. (19)*

Наогул нябыт, непераадольнасць яго заварожваюць, неадступна прыцягваюць А.Мінкіна мёртвай цішынёй закінутай хаты-пасткі ("Хата"), шэрым змрокам ці зусім густой цемрай, у якіх асабліва выразна чутно падзенне пражытых чалавекам гадоў і дзе "заміж гасцей цені-здані..." ("У шарым прыцемку", "Цемра ў хаце гусцей і гусцей"). Містыцызм аўтара выяўляецца і ва ўгадванні свайго падабенства да крумкача, гэтага чорнага знака журбы, у параўнанні сябе з дажджавым чарвяком, што звіваецца "ў бляшанцы будняў" ("Знаёмым бальшаком...", "Рака маленства"). У некаторых выпадках атаясамліванне чалавека з той ці іншай з'явай прыроднага свету набывае большую

паэтычнасць, перадаецца лірычна-ўсхвалявана, што зусім не значыць лёгка, бяздумна. Так, "хлапякі-матылькі" з верша "Цераз мрок напрасткі" ўяўляюцца пісьменніку зусім не бесклапотнымі сняжынкамі. Ён нікольki не сумняваецца:

*Гэта мы ападаем*
*За мяжою журбы,*
*За прадоннем адчаю. (28)*

Гэтак жа несумненна і тое, што толькі творца рамантычнага складу мог паставіць у аснову сваёй паэтычнай сістэмы ***небыццё***, звярнуцца да вобраза каня Апошняга Кахання, разрывацца паміж жанчынай, распуснай да абурэння, і цнатліўкай, самой дасканаласцю, аддаючы ў рэшце рэшт перавагу першай ("Мы – шолах задумны нябачнага ў змроку лісця...", "Конь вараны, скасавурыўшы вочы..." і інш.). Толькі яго герой, дыхаючы каханнем, не беражэ і баіцца яго, хоць, здавалася б, здольны ў звычайным згасанні дня, заходзе сонца заўважыць ***агонію*** ўсяго жывога, а апошні вячэрні прамень на шыбе ўспрыняць адзіным незбаёданым дукатам ("Божа, адбяры суладнасць душ...", "О, не запальвай, горад сонны...", "Эцюд"(11). І калі ў "Баладзе пераўтварэння" гэты дзівак паўстае невідзімкам, што "звар'яцелы ад тугі" (48), то ў "Баладзе пра чалавекаптаха" высокая рамантычная місія "закаханага ў зоркі" (47) героя відавочная. Задыхаючыся на зямлі ад бензінавага смуроду, ён "да зорак пайшоў напрасткі" (47), прымiраючы тым самым (ці сцвярджаючы магчымасць прымірыць) дольняе і горняе, натуру і дух-крылле асобы, пры гэтым нікольki не крыўдуючы на чалавекасабак, якім не дадзена яго зразумець.

Прыкметнай сімволіка-алегарычнай закадзіраванасці пісьма А.Мінкіна, яго лапідарнасці надзвычай дапамагае ўмелае карыстанне не толькі міфалагемамі, але і такімі мастацкімі тропамі-сцяжэннямі, як метафары, перыфразы, самыя розныя формы метанімій. Жалезабетон, машыны-бляшанкі, пасткі блакітных экранаў, іржа думак і пачуццяў, сэрцы з металу, панцыр асфальту, пустка-Радзіма – усё гэта надзвычай узмацняе адчуванне, набліжэнне прышлага ***Нікуды***, таксама самастойнага і

 





невыпадковага вобраза ў творчай сістэме пісьменніка. Справа ў тым, што якраз праз сутнаснае спасціжэнне ***Нівечы, Нікуды, Краіны Цемры***, праз прыманне і адмаўленне іх А.Мінкін уздымаецца да ідэі аб заўсёдным жаданні чалавека і ўсяго жывога "з вечнасцю прагнуць зліцця" (31), няўхільна прабіраецца "да ядра светабудовы" (60), адкрывае яе сапраўднае аблічча:

*Народжаны пад сонцам знаць павінен,*
*Хто хоча ўратавацца, той загіне,*
*А хто загіне, той у паслясмерці*
*Сябе праз роспач і пакуты сцвердзіць! (65-66)*

Кантрастнасць свету, несупыннае змаганне ў кожнай праяве яго светлага і змрочнага пачаткаў даводзіцца паэтам у "Апошнім казанні Белабога". Звароты і дакоры яго людзям, вострыя, балюча-крыўдлівыя, але заслужаныя, без "хлуслівага плачу па Радзіме" (72), робяцца выключна з мэтаю абуджэння, з жаданнем выклікаць рух сярод люду ў кірунку да самавыратавання праз барацьбу за волю і годнасць: "Калі жахнешся, адчуўшы трагічнасць свайго становішча? Калі?" (69).

Але, як паказвае вопыт, Хлудзію і хлудаў не так ужо і лёгка абудзіць. Абнесеная высокім квадратным парканам, яна жыве па сваіх непарушных законах; "аніякіх сапраўдных пачуццяў у гэтай краіне няма і быць не можа"[4]. Тут ёсць свае смецяры, мастакі, народныя пісьменнікі, апошнія з рамантыкаў і геніяў пакуты, дыктатары і рухавыя. Кожны з іх лічыць сябе спружынай гісторыі, з аглядкай, як бы не заўважаючы кратаў з бакоў і зверху, прамаўляе высокія словы. Праўда, іншаземец Шампанскі перакананы, што для шчасця хлудам трэба толькі "трохі кахання, жменька зорак над галавою, кропля спагады..."[5].

У "Праўдзівай гісторыі..." і кароткіх антыутопіях пісьменнік звяртаецца да пераасэнсавання некаторых устойліва станоўчых якасцей нацыянальнага менталітэту. Да прыкладу, у "Куфары" ён высмейвае нашы заўсёдныя шкадаванне і апеку слабейшых, якія ў гіпертрафіраванай форме робяцца роўнымі самазабойству. У "Партрэце" аб'ектам крытыкі з'яўляецца прыніжанасць перад дутымі аўтарытэтамі; у "Вялікім магістры" – крайнасць



 

знаходжання ці то ў фазе Пагалоўнага п'янства, ці то ва Усеагульнай цвярозасці. І гэта пры тым, што "сапраўдны свет тоіцца ў нас у сярэдзіне, а тое, што звонку – відмо, пракцыя, тэатр ценяў, пантаміма пантамімаў..."[6]. А яшчэ творца перакананы, што ў кожнага чалавека ёсць свае месцы, зыходныя пункты духоўных пошукаў, пачаткі пачаткаў, што нейкай невытлумачальнай повяззю лучаць нас са светам і "дзе ўсё раздробленае і разарванае сыходзіцца ў адно і набывае сапраўдны сэнс"[7].

Для самога пісьменніка такім сімвалічным і, разам з тым, рэальным фокусам перасячэння прасторы і часу з'яўляецца "Стары дом". А яшчэ – створаная фантазіяй незвычайная Краіна Грыбонія з кампаніяй наіўных і адначасова знаходлівых Грыбасея, Грыбаўца, Пыха, гарэзлівых Хохліка і Валошкі, пагрозлівых Рапухі і Невядома Каго (казка "Лета ў Грыбоніі"). Або запаветны край дванаццаці месяцаў-асілкаў, за кожным з якіх хаваюцца пэўная прыродная з'ява, канкрэтныя пейзажныя малюнкі, дзе гучыць чароўны голас скрыпкі (вершаваны цыкл "За месяцам месяц"). Ён ніколькі не псуе ранейшага гучання старажытнай сурмы, трывожнай віяланчэлі, не парушае "зорак спеў, яшчэ нікім няўчуты" (7). Наадварот, суладна адпавядае памкненням людзей наблізіцца да разгадкі прыроды і самой Вечнасці.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

---

[1] Мінкін Алег. Сурма. Мн.: Маст.літ., 1985. С.6.

[2] Тамсама. С.34.

[3] Мінкін Алег. Расколіна. Вершы і паэма. Мн.: Маст.літ., 1991. С.24. (Далей спасылкі на гэтым выданні падаюцца ў тэксце ў дужках з указаннем старонкі.)

[4] Мінкін Алег. Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў: Кароткія антыутопіі. Мн.: Маст.літ., 1994. С.13.

[5] Тамсама. С.36.

[6] Тамсама. С.80.

# НАСТАЎНІК

Алег МІНКІН

Кожны паэт прыходзіць у літаратуру з нейкай кнігай. Як з падручнікам. Для мяне такой кнігай сталася “Сурма” Алега Мінкіна. Неверагодна... Але, прызнаюся, менавіта так і было. Ні “Вянок” Багдановіча, ні “Шлях-360” Разанава, ні зборнікі Купалы, Коласа, Куляшова... А маленечкая, дэбютная, вучнёўская кніжачка Мінкіна.

“Сурма” пабачыла свет якраз у той час (1985 г.), як мяне ахапіў неадольны паэтычны “сверб”. Я наведваў розныя літаб’яднанні і рэдакцыі, багата чытаў паэзіі і ўпарта спрабаваў нешта крамзоліць самастойна. Тут мне й патрапіў у рукі сціплы зборнічак Мінкіна. Я быў уражаны. Вершы Мінкіна мне падаліся гэтак жа цікавымі (асабліва на тле тагачаснай беларускай савецкай паэзіі), як творы Купера, Рыда ды Скота. У іх былі выкшталцонасць, гжэчнасць, маляўнічасць, сучасны меладызм (амаль “Бітлз”), казачнасць, юначы запал, разняволеная вобразнасць і пачуццёвасць, прыгожая мастацкасць, узнёслы рамантызм. Радкі вершаў затрымліваліся і круціліся ў галаве, як словы з песенных шлягераў. “Калі прачнемся мы, калі мы//Убачым снежныя кілімы,//Што ноч паслала за акном://На сэрцы радасць заіскрыцца//І на старой маленькай скрыпцы//Зайграе раптам хохлік-гном”. Або: “Скажы, навошта нам цурацца// Пачуццяў, што да нас імчацца//З вясною вольным статкам крыг?//Навошта нам ад іх хавацца//У слоў хлусню, у жартаў панцыр,//Калі жыццё – чароўны міг?” Або: “Адранку вецер вар’яцеў,//Але суцішыўся пад вечар.//Я выказаць сябе хацеў,// Пісаў – і аркушы камечыў”. Гэтыя радкі я шчодра цытаваў паўсюдна і, вядома, знаёмым дзяўчатам з наргаса, дзе вучыўся.

Балюча ўсведамляць, што без гэтага

цудоўнага паэта выхоўвалася апошняе беларускае паэтычнае пакаленне.

Ці не Мінкін паўплываў на тое, што пасля наргаса ў 1987 годзе я паехаў у Наваполацк? Праўда, Алега на берагах Дзвіны я ўжо не застаў. Разам з Мудровым ён з'ехаў на поўнач працаваць на нафтарадовішчах. Аднак уся Полаччына была яшчэ "набрынялай" нядаўняй прысутнасцю паэта: тутэйшыя літаратары апавядалі пра яго показкі і гісторыі, а ў падшыўках мясцовых газет можна было знайсці невядомыя па цэнтральным друку мінкінаўскія вершы. Вось якія перлінкі я адшукаў у шматтыражцы наваполацкага будтрэста "Знамя новостройки" (5.11.1982), у якой нейкі час сам працаваў:

## ВОБЛАКІ

*Калі праплываюць рахманыя воблакі,*
*Бязважкія здані са зменлівым воблікам,*
*Не верыцца нам у шалёныя воплескі*
*Далоняў дажджу, і ў грымоты, і ў водблескі.*

## МАДРЫГАЛ РЭСТАЎРАТАРАМ

*Хвала вам, майстры-мастакі:*
*Як цуд, пад вашымі рукамі*
*Зноў ажываюць дрэва, камень –*
*З нябыту паўстаюць вякі!*

*Мінуўшчыну і сэнс жыцця*
*Вы лучыце, і са здзіўленнем*
*Мы бачым: Спадчына, бы Фенікс,*
*Уваскрасае з Забыцця!*

Будучыя даследчыкі Мінкіна яшчэ шмат чаго змогуць знайсці ў тых пажоўклых падшыўках. Толькі не знойдуць яны нічога ні пра

партыю, ні пра Леніна, ні пра будаўнікоў камунізму. Пра Радзіму? Так, пра Радзіму пісаў. Але як пісаў! Вось "Знамя новостройки" ад 8 жніўня 1980 года:

ШТО Я БЕЗ РАДЗІМЫ

*Што я –*
*без Радзімы?*
*Лісточак паблеклы,*
*Я – цені без рэчаў,*
*Я – хворы без лекаў,*
*Без рэчышча рэчка,*
*Без кветак шыпшына,*
*Без компаса ў моры,*
*Гадзіннік*
*Са зломленай самай галоўнай*
*спружынай:*
*Ён сёння паказвае тую ж*
*гадзіну, што ўчора.*

Зноў згадалася гісторыя з "Сурмой". У савецкія часы, каб паэтычны зборнік без праблемаў пабачыў свет, трэба было пачаць кнігу нейкім "правільным" ідэалагічным вершам. Гэткі верш называлі "паравозікам". Вось і для "Сурмы" вырашылі палегчыць лёс. І пайшлі на хітрыкі. Узялі два мінкінаўскія вершы для дзяцей пра месяцы – "Кастрычнік" і "Май" – і пачалі імі зборнік. "Ад дрэва да дрэва ідзе пехатой //Кастрычнік, мастак адмысловы, //І фарбай бурштынавай і залатой//Распісвае кроны дубровы". Дасціпны пачатак! Трэба мець вычварнае ўяўленне, каб кастрычнік Мінкіна атаясаміць з ленінскім. Так паэт "рэабілітаваў" назву месяца.

Я не магу сказаць, што быў блізкі з Мінкіным. Пазней мы неаднойчы сустракаліся. У яго жыве родная сястра ў Наваполацку, і Алег, калі прыязджае да яе, заўжды завітвае ў госці. (Пасля Поўначы паэт нейкі час жыў у Берасці, а потым пераехаў на стала ў Вільню, дзе цяпер рэдагуе газету "Рунь".) Пры першай нашай

сустрэчы мяне здзівіла неадпаведнасць майго ранейшага ўяўлення аб паэце з яго сапраўдным "абліччам". Да знаёмства мне падавалася, што Мінкін – гэтакі эстэт, накшталт Дранько-Майсюка. На самай справе ён непапраўны вісус, аматар сапраўдных жыццёвых прыгод. Дранько-Майсюк, магчыма, таксама аматар. Але я сумняваюся, што да такой ступені. Колькі памятаю, мы ніколі не размаўлялі з Мінкіным пра творчасць, паэзію і паэтаў...

Пры кожнай новай сустрэчы Алег натхнёна апавядае пра свае апошнія прыгоды. А ў гэтых прыгодах падзеяў і жарсцяў – на сто жыццяў. Прычым сапраўдных жарсцяў і часам вельмі драматычных прыгодаў. Мінкін бярэ ад жыцця напоўніцу.

Яшчэ да нашага прыватнага знаёмства ён пачаў мне ўсяляк спрыяць. Узгадваў маё імя ў друку (асабліва мяне ўсцешыла ўзгадванне ў анкеце літаратуразнаўчага альманаха "Вобраз-89"), рэкамендаваў у рэдакцыях і ў культурніцкіх асяродках, карацей, шчодра хваліў вусна і пісьмова. Ці не таму, што адчуў ува мне свайго вучня? Я таксама імкнуўся падтрымліваць любімага паэта, асабліва ў ягоныя цяжкія гады (сярэдзіна 90-х). Прынамсі, друкаваў вершы ў "тэвээлаўскім" часопісе "Калосьсе" (чамусьці апошнія гады Мінкін друкаваўся пад псеўданімам Хведар Ніцка). Аднак паэт усё больш і больш аддаляўся ад Беларусі, Палаччыны і ад мяне асабіста. Яшчэ напрыканцы 80-х я старанна імкнуўся заставацца з ім у адным кантэксце, у адным дыскурсе. У той час я спрабаваў утварыць паэтычную суполку пад назваю "Унія". Вядома, даслаў ліст з прапановаю і да Алега. Аднак ён адказаў стрымана: "Атрымаў Маніхвэст "Уніі" і твой ліст з прапановаю ўступіць у гэтую сябрыну. Апошнім часам (дакладней, некалькі апошніх гадоў) нямашака ў мяне асаблівага імпэту ўступаць ані ў якія суполкі з любымі лозунгамі і маніхвэстамі, зрабіў выбар на карысць самоты, аўтаноміі і г.д." Раіўся я з ім і аб утварэнні Таварыства Вольных Літаратараў.

У 1991 годзе выйшаў другі – і апошні – паэтычны зборнік Мінкіна "Расколіна". Яго з'яўленне прайшло ў беларускай літаратуры амаль незаўважна. Шчыра кажучы, гэты зборнік мяне таксама не дужа ўсхваляваў. Ён не пераўзышоў "Сурму". Прычым я ведаў, што добрую частку "Расколіны" склалі тыя вершы, якія былі

з цэнзурных меркаванняў знятыя з “Сурмы”. Ды я й не мог ужо закахацца ў “Расколіну”: быў іншы час, стаў іншым і я.

У Вільні Мінкін актыўна пачаў супрацоўнічаць з “Нашай Нівай” Дубаўца. Паўсюдна прапагандаваў выданне і сваім аўтарытэтам шмат добрага зрабіў для газеты. Ведаю, што паміж Дубаўцом і Мінкіным неўзабаве адбыўся нейкі канфлікт, пасля чаго Мінкін знік са старонак “НН” (у той час паэт друкаваўся выключна ў “Калосьсі”). Колькі кепскага нарабілі гэтыя бясконцыя беларускія канфлікты! Здаецца, мы не выберамся з іх канчаткова... З сярэдзіны 90-х Мінкін практычна спыняе пісаць арыгінальныя вершы. Займаецца выключна перакладамі. Баляслаў Лесьмян, Цыпрыян Норвід, Леапольд Стаф... Некаторыя беларускія пісьменнікі лічаць, што Мінкін – найперш перакладчык. Сапраўды, яго пераклады цудоўныя. Але ж для мяне ён — паэт. Аўтар “Сурмы”. Мой настаўнік.

**Алесь АРКУШ**

# СТЫХІЯ КАЗКІ

“Гэта Язэп Драздовіч у літаратуры”, – вось першая думка, якая прыходзіць у галаву пасля знаёмства з вершамі і празаічнымі творамі Алега Мінкіна. Сапраўды, усё тут фантастычна-алегарычнае, поўнае дзівосаў і нечаканасцей. Нават хаця б тая ж краіна жоўтых і белых гарлачыкаў, куды ўсе імкнуцца, але ніхто не трапляе. Або Краіна Хлудаў, якая вельмі ўжо нагадвае нашу... І светапогляд пісьменніка – таксама па-драздовічаўску – змрочны, песімістычны. Аднак ёсць у А.Мінкіна і вялікае падабенства з паэтамі, празаікамі, якія належаць амаль да аднаго з ім пакалення: Л.Дранько-Майсюком, Л.Галубовічам, В.Чаропкам. Гэта выяўляецца і ў стылістыцы (калі вельмі важным становіцца тое, *як* сказаць, у адрозненне

 





ад тых пісьменнікаў, для каго першаступеннае значэнне мае менавіта сам *змест*), і ў міфалагізаванай аснове творчасці. Рэальнае, сплеценае з ідэальным, утварае ў А.Мінкіна канву аповеду. Багатая ж фантазія расквечвае твор, робіць яго шматколерным і шматфарбным.

Можа быць, так і трэба пісаць. У гэтай творчай манеры няма нічога агульнага ні з графаманіяй, ні тым больш – з журналістыкай. Міф – спрадвечны жанр вуснай народнай творчасці. Ён дапамагае многім сучасным беларускім літаратарам выказвацца аб набалелым у метафарычнай, адцягнена-абстрактнай вобразнай форме. Але ўсё ж, чаму менавіта да гэтага літаратурнага жанру звяртаецца А.Мінкін у пераважнай большасці сваіх твораў? Няўжо іншага шляху выяўлення думак і пачуццяў для яго не існуе?.. Шмат што тлумачыцца тут эпохай, калі тады яшчэ малады пісьменнік пачынаў рабіць свае першыя крокі ў сучаснай беларускай літаратуры.

Гэта была пара Адраджэння. Станавілася немагчымым гаварыць і пісаць аб тым, што раней лічылася забароненым. Паўстала пытанне: ці не лепей выкарыстаць дзеля гэтага метад не лабавой атакі, а абыходнага манеўра? Эзопавай мовай значная частка грамадства да той пары ўжо карысталася звыкла; здзіўлялі чытача тады якраз адваротныя прыёмы і формы пісьма. І вось А.Мінкін выкарыстаў такую псіхалагічную асаблівасць свайго чытацкага кантынгенту, уклаўшы ў прывычную форму новы, арыгінальны змест. З пазіцый сённяшняга дня ўздзеянне асобных твораў гэтага пісьменніка можна параўнаць з г.зв. “замбіраваннем” (выраз, які даўно стаў моўным штампам). Тыя ці іншыя ідэі, перакананні аўтара як бы ўкладваюцца ў падсвядомасць чытача ў афарыстычна-лаканічным выглядзе і... робяцца яго ўласнымі. Відаць, па гэтым жа прынцыпе дзейнічаў і славуты лекар-біяэнергатэрапеўт А.Кашпіроўскі. Праблема ў тым, як адрэагуе на спробу "замбіраваць" яго сам чытач... Напрыклад, такім выслоўем наконт свайго жыцця ў Краіне Хлудаў-Беларусі: “І нямашака, і ніколі не было і не будзе пад хлудскім небам нічога такога, чаго ўжо не было раней”. Або гэткім выказваннем, прысвечаным бясконцаму будаўніцтву, якому аддае свае час і сілы гаротны хлудскі народ: “Усе гэтыя бясконцыя збудаванні – адно толькі бессэнсоўная спроба хоць чым апраўдаць жывёльны страх перад жыццём”.



 

Аднак жа ў сатырыка-фантаста А.Мінкін ператварыўся не адразу. Пачынаў ён з паэзіі. Першы ягоны зборнік "Сурма" выйшаў у 1985 годзе і засведчыў аб з'яўленні ў беларускай літаратуры сапраўднага майстра, які з поспехам выкарыстоўвае набыткі сваіх папярэднікаў – паплечнікаў па пяру. У аднайменным гістарычным эцюдзе, што і даў назву ўсёй кніжцы, пачынае ўпэўнена гучаць тэма Айчыны – у далейшым адна з галоўных у творчасці А.Мінкіна: "Гэй, гнюсы! Паняверкі чорнай світа!//Прарочыце вы крыкам хіжым, тлумным//Засілле вечнай сцюжы і зімы,//Ды скрозь ваш гвалт// мне чуцен звон забыты//Званоў Сафіі і прызыўна-сумны,// Працяглы спеў абуджанай сурмы!" Перад намі паўстае тут паэт-рамантык, змагар за перамогу ідэалаў дабра і справядлівасці. Яго вабіць узнёслае, ён жыве ў свеце сваіх мар і летуценняў, забываючыся аб зямным і амаль не ўзгадваючы пра яго – але ўсё ж мы бачым расчараванне паэта ў магчымасці дасягнуць гэтых высокіх ідэалаў, ажыццявіць іх. Вершы класічных старадаўніх формаў (адчуваецца творчая вучоба ў М.Багдановіча) у зборніку "Сурма" А.Мінкіна чаргуюцца з вершамі ў прозе, якія нечым нагадваюць рытмізаваныя абразкі З.Бядулі. І ўжо ў пачатку свайго шляху ў літаратуры паэт А.Мінкін пераходзіць да прозы, якая для яго, відаць, вызначаецца большымі выяўленчымі рэсурсамі.

З аднаго боку, пісьменнік прызнаецца: "Каханне, грошы, славы сверб – мана://Няўмольны час завабіць імі сэрца,//Памучае, а потым пасмяецца –//Не здраджвае Радзіма нам адна". Ён прагне пераўтварыць свет па законах прыгажосці, гармоніі, піша трохрадкоўі-хоку, імкнучыся зафіксаваць імгненне, якое мае найбольшую сілу эстэтычнага ўздзеяння на лірычнага героя: "Не сумуй//белы бусел//вернецца з сонца залатым". Але, у адрозненне ад класічных паэтаў-рамантыкаў (Байрана, напрыклад), А.Мінкін, адначасова са светлым паказваючы і цёмны бок жыцця, перадае адмоўнае – нязменны спадарожнік станоўчага – у сатырычнай афарбоўцы: "І раптам расступілася імгла –//То бусел залаты ляцеў з паходняй//Над статкам пацукоў, што беглі ў споднім//І раталіся ад зыркага святла". Такім чынам, назіраецца паэтызацыя не толькі цудоўнага, прывабнага, але і брыдкага, агіднага. А.Мінкін будуе многія свае творы на кантрастах, сумяшчаючы, здавалася б,

несумяшчальнае. Гэта роднiць яго з вялiкiм iтальянскiм паэтам Дантэ, аўтарам "Боскай камедыi". Нездарма ўжо ў першым зборнiку сваiх вершаў пiсьменнiк змяшчае "наследаванне" славутаму iтальянцу. (Да гэтага трэба дадаць, што наогул успрыманне свету А.Мiнкiным – драматычнае, нават часам трагiчнае.)

Адной з крынiц натхнення для паэта з'яўляецца язычнiцкае паданне або казка. У ягоных творах дзейнiчаюць мiфiчныя персанажы: Агнявiк, Дамавiк, пугач, Белабог, Вадзянiк, хохлiк-гном, Бялун, дзядзька-Студзень. I, як ва ўсiх мiфах цi казках, пастаянна адбываюцца цуды – нават, здавалася б, звычайная з'ява пачынае ўспрымацца персанажамi, чытачамi як казачная: "...Дых стаiўшы, не зводзiць вачэй//З дзiўнай кветкi, што вырасла ў печы,//На чырвоным вуголлi трапеча,//I зiхцiць, i мiгцiць, i пячэ". Створаныя ж А.Мiнкiным вобразы Белабога i Чарнабога як бы "перарастаюць" сваю казачную прыроду i робяцца ўвасабленнем светлых i цёмных касмiчных сiл, пачынаюць адлюстроўваць фiласофскiя катэгорыi дабра i зла. Барацьба памiж iмi, на думку А.Мiнкiна, далёка не заўсёды заканчваецца перамогай добрага. Будучыя кнiгi пiсьменнiка бяруць свае вытокi з сумных радкоў верша "Вяснянка": "Глядзi: жанглiруюць паяцы//Шарамi вычварных абстракцый –//Ды марна ўсё, бо iм няўцям,//Што, ўзводзячы з пяску палацы,//Не ўбачыць можна, як скрозь пальцы//Пясчынкi сыплюцца жыцця". Значыць, усё дарэмна, усё марна... Не ратуе заняпалага духу нават зварот да прыгожых узораў мастацтва мiнулага (цыкл "Замкi").

Наступная кнiга вершаў А.Мiнкiна "Расколiна" ўбачыла свет у 1991 годзе. У ёй аўтар ужо свядома выкарыстоўвае гiстарычныя рэалii дзеля таго, каб лепей зразумець, глыбей асэнсаваць, правiльней ацанiць падзеi сучаснасцi. Тут ужо ёсць наследаваннi не толькi М.Багдановiчу, але i Я.Купалу (i мастацкi ўзровень гэтых твораў вышэйшы ў параўнаннi з вершамi, уключанымi ў першы зборнiк). Драматычнасць i трагiзм успрымання жыцця паэтам у другiм зборнiку значна ўзмацняюцца: "Як скрутна жыць: мне родны край – турма.//Забраны край... ды iншага няма.//Як звыкнуцца з аблудай i хлуснёю?//Мне снiцца возера. Маўклiвы бор.//Над цёмнаю вадою жменька зор...//Схавай мяне, о возера лясное!"

Пісьменнік спрабуе стварыць тыпажы, абагульненыя вобразы, як у вершах цыкла "Партрэты": "Тыран", "Раб", "Трыбун", "Прарок", "Лірык", "Вандроўнік", "Свінні", "Лялькі". Сарказм, іронія А.Мінкіна дасягаюць сваёй вяршыні ў вершы "Расколіна", дзе аўтар сцвярджае, што: "Направа – сябры-аднадумцы//Да зор неспазнаных ляцяць,//Налева – паскудныя людцы//У курчы смяротным хрыпяць". Прасякнуты адчаем і безвыходнасцю, поўныя горычы вершы "Насланнё", "Краіна ночы", цыкл "Кай", "Трыпціх" (назвы, між іншым, – як для жывапісных палотнаў).

Аднак паэт не пазбегнуў адраджэнцкай рыторыкі, мажліва, шукаючы ў навакольным быцці хоць колькі-небудзь значных падстаў для аптымізму. Так, няма і ценю былой змрочнай лермантаўскай рэфлексіі ў вершы "Самота", прысвечаным А.Бяляцкаму: "Чырвоны пас на белым тле Радзімы.//Ты клічаш нас за волі міг адзіны//Узняцца і загінуць без развагl" Заканамерны пераход А.Мінкіна ў ягоных паэтычных зборніках да вершаванай прозы, а ў наступнай кніжцы – і да прозы ў прамым значэнні гэтага слова, хутчэй за ўсё, і тлумачыцца жаданнем неяк адысці ад паэзіі такога кшталту: нічога новага чытачу яна ўжо не гаворыць, але ідэйна-сэнсавыя паўторы ў ёй апранаюцца ў дасканалую паэтычную форму. Ці не гэтая выяўленая намі заканамернасць – агульная для паэтаў, якія пачалі пісаць прозу?..

У 1994 годзе ў А.Мінкіна выходзяць дзве кніжкі, прычым абедзве – у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Адна з іх – пераклады з польскага пісьменніка Б.Лесьмяна, якія выйшлі пад назвай "Пан Блішчынскі". Дапамаглі надрукаваць гэтую кнігу сябры, з якімі пісьменнік разам працаваў у газеце "Наша Ніва", і першы сярод іх – С.Дубавец. Аднак не толькі талент перакладчыка (дарэчы, вершы перакладаць цяжэй, а А.Мінкін бліскуча справіўся з гэтай задачай), але і дар празаіка робяць А.Мінкіна заўважальнай фігурай у беларускім прыгожым пісьменстве. Наступную ягоную кнігу, "Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў: Кароткія антыутопіі", можна ўжо ставіць побач з лепшымі творамі вядомых сатырыкаў мінулага. Але, як і заўсёды, пісьменнік застаецца ў ёй арыгінальным і сучасным. Гэта сацыяльная фантастыка, што спалучае ў сабе рысы хронікі і палітычнага фарса. Абагульненыя сатырычныя вобразы

Цмока, Хіцера Зміцера, Гарэзіі Набіванкі, Круцеля Манцеля і іншых персанажаў характарызуюцца пазнавальнасцю, рэльефнасцю. Яны – як быццам жывыя асобы; здаецца, толькі ўчора ты сустракаўся з імі, бачыў іх на вуліцы. І як жа актуальна гучаць і цяпер многія выслоўі іх стваральніка! Ісціны, сцверджаныя ім, – сапраўды вечныя і неабвержныя. Самае цікавае, што і тут паэт застаецца паэтам: гэта стан душы...

**Святлана ЯВАР**

# Mes rencontres avec le beau mond de la Poesie

Калісьці на вуліцах Менска можна было проста так сустрэць добрага паэта.

Аднойчы я сустрэў паэта Алега Мінкіна ў шапіку ТБМ. Я спытаў пра "Нашу Ніву" і незнарок пахваліў яго пераклады Лесьмяна. Не бывае лепшага падарунка для *l'homme de lettres*, чым такая вось пахвала, да таго ж Мінкін даведаўся, што я з Бабруйска, дзе, на яго думку, не магло быць ніякай думкі на нацыянальнай мове – а ён там нібыта калісьці вучыўся ў спартыўнай школе. У пошуках кавы мы знайшлі чырвонае віно і паехалі дызелем да Вільні. Высветлілася, што мы маем агульнага знаёмага – гэта славуты бабруйскі паэт-дысідэнт Уладзімір Альховік, гісторыі пра якога я вельмі люблю распавядаць.

Калісьці на вуліцах Бабруйска можна было сустрэць жывога дысідэнта. Я сустрэў Альховіка перад будынкам гарадскога Дома культуры, дзе ён пагражаў уласнаручна павесіць члена бабруйскага ўрада Дваракова на першым суку. Гэта было вельмі камічна –

рост метр з кепкай Альховіка не зусім адпавядаў вобразу вешальніка, які ён імкнуўся стварыць у памяці сваіх суайчыннікаў, ды і Дваракоў, ростам вышэй за сто восемдзесят, не складаў уражання надта ахвярнага. Пасля я даведаўся, што дысідэнт Альховік у 1984 годзе трапіў у дурдом за тое, што патрабаваў візу ў "любую капіталістычную краіну", а цяпер працуе фатографам танка на плошчы Перамогі, калі ёсць ахвотнікі сфатаграфавацца з бабруйскім танкам. У вольны ад працы час Альховік ездзіў на спатканні з Валерыяй Навадворскай, прывозіў у Бабруйск стосы "Свабоднага слова" і прадаваў па рублю. Нехта са спрытных маладых тэбээмаўцаў прадставіў мяне дысідэнту як нібыта настолькі радыкальнага, што лепшага кандыдата для стварэння ў Бабруйску маладзёвай філіі Дэмсаюза не знайсці. Я сказаў, што ў мяне ёсць знаёмая настаўніца, якая працуе ў школе для дэбілаў, і што лепшага месца для рэкрутавання ў дысідэнцкія арганізацыі не знайсці – паколькі ўсе дысідэнты калісьці адбылі свой законны тэрмін у псіхшпіталях; для маладога дэмсаюзаўца найлепшае месца пачатку кар'еры – школа для дзяцей з псіхічнымі адхіленнямі. Дысідэнт зразумеў, што з яго здзекуюцца і, здаецца, пакрыўдзіўся. Пасля я атрымаў адзін з асобнікаў выдадзенай у Вільні кніжкі вершаў "Гласность – мое оружие", якія паэт перадаў з мяцежнай Літвы сваім суайчыннікам, якія больш не ўбачаць на сцяне драўлянай агароджы дысідэнцкай байкі "Кулік і балота" – якраз насуперак танка. Штораніцы ўлады здзіралі наклееныя на дошкі аркушык паперы, але ўначы з руплівасцю кентэрвільскага прывіду Альховік наклейваў усё тую ж байку на ўсё тое ж месца. Графаманія і паталогія гарманічна злучыліся ў адной асобе...

Калі я гэта расказваў, мы ўжо пад'язджалі да Вільні.

– А вось і тэлевізійная вежа, – сказаў Алег Мінкін, – і яе людзі добрай волі абаранілі ад амапаўцаў. І сярод іх быў маленькі мужны Альховік...

Літаратары заўсёды ставяць у такіх месцах шматкроп'е. Мне тады здалося, што найлепей выглядала б коска, і я не памыліўся: на наступны год я зноў быў у Вільні. Мне было крыху сорамна за тое, што спрабаваў груба разбураць ілюзіі жыхара неба; да таго ж, я наязджаў на прадстаўніка тусоўкі дэмакратычных паэтаў, а ідэя слушнасці большасці псіхіятрычных дыягназаў савецкім

дысідэнтам – гэта ўвогуле замах на святарную карову Перабудовы. У наступны год імя бабруйскага паэта-бунтара ў сям'і Алега Мінкіна было строга табуізавана. Усё было проста – танкавы фатограф патрабаваў да сваёй святой асобы крыху больш чалавечай цеплыні і ўвагі, чым мог сабе ўявіць перакладчык "Крумкача" Эдгара По на беларускую мову. У выніку люмпенаўская рука маленькага мужнага Альховіка накрэсліла небяспечнай брытвай знак помсты на абіўцы дзвярэй сабрата па літаратурным цэху. "Бабруйск – гэта не топас, гэта дыягназ, – думаў я, чытаючы "Краіну Хлудаў", – вось табе і Цмок-Калывок!" Я і раней падазраваў нешта пра надзвычайныя здольнасці паэтаў выцягваць з ніжняга астралу дэманічныя фігуры самай рознай ступені агіднасці. А Цмок-Калывок, які выскачыў з бруднай калюжыны дзякуючы рупліваму пяру А.Мінкіна, уцялесніўся не толькі ў асобе маленькага сяручага графамана – дэман гэтага ліха размножыўся і разросся.

Сёння мы ўсе маем права запытаць працаўнікоў мроі: калі яны навучацца бачыць у сваіх фантазіях добрыя прыгожыя казкі пра Беларусь? Далібог, гэта ж і іх саміх датычыць самым непасрэдным чынам.

**Дзмітры СЕРАБРАКОЎ**

# САМОТНЫ МІСТЫК ВЕРШАСВЕТУ

Творчы партрэт паэта малюе, на маю думку, ягоны светапогляд, адлюстраваны ў вобразнай сістэме вершаў. Чым адметны паэтычны свет А.Мінкіна? – Шматлікімі алюзіямі на творы вядомых аўтараў ("Адысею" Гамера, "Крумкача" Э.По, "Снежную каралеву" Г.Х.Андэрсэна), наследаваннямі (Дантэ, Купалу, Багдановічу), цікавасцю да персанажаў народнай дэманалогіі (Белабог, дамавік, агнявік, хохлік) і праяў містыкі (замагільны свет, здані, сімвалічныя сны, гібрыдныя істоты і г.д.). У творах

гэтага пісьменніка мяне зачараваў менавіта ягоны прачулы, трывожны і ўсеабдымны містыцызм.

Радзіма для А.Мінкіна – гэта і цэнтр Сусвету, дарагая сэрцу крыніца жыцця і думак. І турма – край тыранаў і рабоў, хлусаў-трыбунаў і прадажных свінняў-кар'ерыстаў, пасіўных, баязлівых і бязмозглых лялек-марыянетак і здраднікаў-манкуртаў. Лірычны герой вершаў упэўнены, што наш край выратуюць Пагоня, залаты бусел і родная мова. Вершнікаў Пагоні ў творах А.Мінкіна суправаджае

*...прызыўна- сумны,*
*Працяглы спеў абуджанай сурмы.*

Муза паэта любіць асенні пейзаж з яго зыркімі залатымі і агністымі фарбамі.

Пры азнаямленні з вершамі пісьменніка адчуваецца, што паэзія – гэта тое сапраўднае, што высвечвае душу творцы. Свабода, самота і пошук сэнсу жыцця ратуюць экзістэнцыю аўтара ад усяго эфемернага, другаснага, ілюзорнага. Усеўладарная самота лірычнага героя А.Мінкіна не дазваляе яму знайсці сваё шчасце з каханай жанчынай – ці яна анёлак з "вясёлкавым німбам над галавой", ці яна "жахлівай красы і распусная да абурэння". Метафізічная Муза не даруе паэту наяўнасці жывых канкурэнтак, яна адна хоча панаваць у ягоным сэрцы. Шчаслівае каханне да рэальнай Афрадыты злуе Музу. І тады раўнівая Муза ў знак помсты забівае натхненне творцы. Зразумела, чаму самыя пякучыя, самыя кранальныя вершы звычайна нараджаюцца ў паэтаў пры безадказным каханні або пры расстанні з любай. Такая дыялектыка паэзіі і кахання.

Трэба сказаць, што А.Мінкін спрабуе свае сілы ў розных паэтычных жанрах: санеце, трыялеце, вершы ў прозе, пасланні, наследаванні, баладзе, элегіі і медытацыі. А гэта сведчыць пра тое, што аўтар імкнецца адлюстраваць свой багаты духоўны космас у розных аспектах зместу і формы сваіх твораў. А сэрца паэта, праз якое прайшла расколіна свету, баліць за неўладкаваную Радзіму, за яе нацыянальна несвядомы народ, і прагне свабоды, дасканаласці і кахання.

**Таццяна БАРЫСЮК**

Алег МІНКІН

# ПАС АСТЭРОІДАЎ

Паэты прыходзяць у Сусвет, каб стварыць сваю ўласную планету. Але калі той планеце не стае ўнутранай сілы – гравітацыі, яна распадаецца на пас астэроідаў, якія выпраменьваюць у прастору адлюстраванае святло. Маленькія нябесныя целы, надзеленыя тонкім слыхам, цікуюць за рэліктавымі гукамі, імкнуцца пачуць іх у сімфоніях далёкіх магутных галактык і арыях самотных зорак...

Нябесны лёс Фаэтона, што не здолеў кіраваць сонечнай калясніцай, чамусьці прыгадаўся мне, калі я нанова – у часе і ў досведзе – перачытала “Сурму” і “Расколіну” Алега Мінкіна.

Лірычна-рамантычны каляндар (Алег прызнаваўся, што ствараў яго для дзяцей), лагодны бестыярый паганскіх істотаў, капэла музычных інструментаў, матывы з вечных кніг, некалькі гістарычных рэалій – вось тэматычны дыяпазон “Сурмы”. Вершы “з героем” натуральна ўпісваюцца ў гэты рукатворны шаўковы нерат. Банальная ісціна: мы падобныя да нашых твораў. У выпадку Мінкіна яна набывае выгляд аксіёмы. У залежнасці ад тэмы аўтар робіцца то язычніцкім боствам, то Дантавым героем, то самім сабой, фактычна не змяняючы аблічча. Мімікрыя абсалютная – гэтак матылькі носяць на крылах выявы драпежных вачэй, закліканыя ўражваць недасціпных птушак.

“Расколіна” працягвае “Сурму” і тэматычна, і стылёва, пачынаючыся “Водгуллем”. У першай кнізе адзін з вершаў называецца “Максіму Багдановічу” і ўяўляе сабой маналог, навеяны “венканосным” класікам:

*Я спыніўся*
*і моўчкі стаў слухаць мелодыю слоў*

 





*Незвычайна прываблівай,*
*напаўзабытай гаворкі,*
*І пазнаў я між кветак валошак*
*пяшчотныя зоркі,*
*І здранцвелае сэрца*
*валошкамі зноў прарасло.*

Другая кніга дорыць "Санет", пад якім пазначана "Наследаванне М.Багдановічу":

*З травінак першых я раблю выснову,*
*Што ажывае зноў наш родны кут.*

Паміж валошкамі і травінкамі і палягае, як мне здаецца, "кропка невяртання" (ёсць такі тэрмін у тэорыі касманаўтыкі) Мінкіна. Паэт заблукаў больш у часе, чым у прасторы. Ягоная арбіта імкнецца вярнуцца ў 1-ю палову XX ст. На тое паказваюць не толькі моўны пласт, у якім працуе Мінкін, але і "наведзенае", кніжнае светаадчуванне.

Творчая індывідуальнасць Мінкіна фармавалася ў застойныя сямідзесятыя. І таму скачок у іншую рэальнасць "нашаніўскай" беларушчыны цалкам зразумелы. Памятаю, як у 1983 годзе ў Караліпічавічах (тады я ўпершыню патрапіла ў асяроддзе маладых літаратараў) крыху старэйшы за большасць "семінарыстаў" Мінкін успрымаўся як прарок і духоўны бацька генерацыі. Ды так яно і было! Бо пачатак васьмідзесятых у нечым анталагічна роўны 10-м гадам таго ж XX ст. Арбіта Мінкіна тады супала з вітком літаратурнага працэсу. Прайшло амаль два дзесяцігоддзі, а пас астэроідаў, здаецца, застаўся на месцы. У яго ўцялесніўся, як сказаў бы Гегель, *Zeitgeist* – дух часу.

Наследаванні, стылізацыі... Дзе ж сам паэт? Магчыма, сярод "Партрэтаў" – стылёвага працягу "Наследаванняў Дантэ". А можа, "У шарым прыцемку", напісаным у Жылкавай манеры. Ці там, дзе "Стол. Лямпа. Крэсла зручнае...". Нічога не нагадвае? "Дом. Улица. Фонарь. Аптека". На добра падрыхтаванай глебе адбыўся натуральны сыход у пераклады. Уваходжанне ў вобразы Леапольда Стафа і Ціпрыяна Норвіда ўжо амаль матэрыяльна вяртала Мінкіна ва ўлюбёныя часы:



 

*Мы уздоўж мура ішлі, з-за якога свяціла*
*Сваёю беллю, у квецені тонучы, віла,*
*Апавітая пахам і цішай глыбокай.*

**(З Леапольда Стафа.)**

Сваім лепшым перакладам Алег, памятаю, лічыў “Крумкача” Эдгара По. Цудоўнае наша слова – крумкач! Неперакладальнае на далёкія і, тым болей, блізкія мовы! Рамантызм стапяцідзесяцігадовай вытрымкі ў разліве Мінкіна атрымаўся прывабны, як каштоўны напой. Але... неадкаркаваны. Магічнае *“Nevermore!”* не знайшло свайго беларускага адпаведніка. Неперакладальныя словы ёсць, пэўна, не толькі ў беларусаў.

Мінкін – актор у паэзіі. Ён выступае ў розных ролях, але ў пэўным амплуа. Дэкарацыя – настальгічнае рэтра ў ціхім горадзе на ўскрайку Еўропы, зграбная віла, у якой юнак ночы напралёт чытае ўзнёслыя кнігі, каб не пасталець. Нават каханне ў лірычнага героя атрымліваецца падлеткавым – прыгожым ды няспелым. Яно падвойваецца на затуманеных шыбах аконнага шкла, адлюстроўваючыся ў вобразах дзвюх жанчын, адна з якіх “заўсёды маўчыць, – жахлівай красы і распусная да абурэння”. А ў другой – “у поглядзе цнота”. Хрэстаматыйны Фрэйд! (Які жыў таксама ў пачатку мінулага стагоддзя...)

Я не пачуваюся прыхільніцай вершаў Мінкіна. Магчыма, мне проста не дадзена ўгледзець у іх тое, што бачаць іншыя. Крытыкі... Псіхааналітыкі... Астраномы...

**Галіна БУЛЫКА**

# ІСКРЫ ПРАМІНУЛАГА ЖЫЦЦЯ

*Замест уступу*

Адзін вядомы версіфікатар, прыхоўваючы ўсмешку ў куточках падцятых губ, прамовіў наступную фразу: “Ну што там Мінкін... За ўсё жыццё выдаў

толькі два зборнікі". Я кіўнуў у знак згоды і ўдакладніў: два зборнікі *паэзіі*. І ўголас працытаваў Дастаеўскага:

*"Ці ж гэта мала, хаця б і на ўсё жыццё чалавечае?"*

***

Летам 1979 года, чытаючы літаратурную старонку ў наваполацкай газеце "Химик", звярнуў увагу на падборку дзіцячых, па-руску пісаных вершаў. Вершыкі былі шчымліва-просценькія – пра чмяля-таўстуна, пра вандроўнага музыку, які "терзал" пасярод людной вуліцы "неповоротливо-печальный инструмент", пра хмелі-сунелі – каўказскія спецыі, якімі поўніліся тою парою крамныя паліцы. Некаторыя радкі ўбіліся ў памяць, і адвячоркам, зазірнуўшы ў краму і ўгледзеўшы на пустым прылаўку каўказскія спецыі, я з уздыхам прашаптаў: "Мы хмели-сунели ни разу не ели..."

Радок той апанаваў свядомасць, я безліч разоў яго паўтарыў, а наступным ранкам, змучаны бяссоннем, патэлефанаваў сябру – Уладзіміру Арлову, які на той час працаваў у "Химику" і рэдагаваў літаратурныя старонкі.

"Слухай, а што за Мінкін у цябе друкуецца?"

"Цікавы хлопец, – адказаў сябар, – жыве ў Гомлі, а сюды ў камандзіроўку прыязджае".

"Габрэй, відаць?"

"Ды не – беларус. Скончыў маскоўскі інстытут, а цяпер на нафтаправодзе працуе".

Так у маё жыццё, разам з радкамі верша пра хмелі-сунелі, уплялося вясёлае імя Алега Мінкіна.

***

Сустрэліся мы толькі праз год, на дні нараджэння ўсё таго ж Уладзіміра Арлова. Паэт прыйшоў са сваёй жонкай, з якой мы ўвесь вечар пратанчылі, і Людміла – жанчына надзвычай прывабная – распавяла пра свайго мужа.

"Мы з Алегам разам у МЭІ вучыліся, і ўсе наўкол думалі, што ён малдаванін. Саромеўся беларускасці, таму й выдаваў сябе

немаведама за каго. А цяпер, як у Полацк прыехаў, дык толькі па-беларуску і размаўляе", – у пацверджанне такіх словаў з суседняга пакоя, куды пашыліся Алег Мінкін з Сяргеем Сокалавым, вырываліся рэвалюцыйныя слоганы ўперамешку з патрыятычнымі вершамі.

Жаночыя валасы галавакружна пахлі, чарнасліўныя вочы прыцягальна блішчэлі ў паўзмроку, але ўсе мае думкі былі там, у суседнім пакоі, і калі музыка на імгненне суціхла, адтуль даляцеў пералівісты голас:

*... Ці бачыш, як вершнік нырцуе ў тумане густым*
*На белым кані, у блішчастыя латы закуты,*
*І срэбна зіхціць на шчыце яго крыж васьмікутны,*
*І меч яго ўзняты, і мантыя ўецца, як дым...*

"Паэт!" – не зусім цвярозым голасам, а таму па-пракурорску сур'ёзна выгукнуў я, і паэтава жонка панурыла вочы, пагаджаючыся з такім вердыктам.

***

На той час Мінкіны ўжо перабраліся ў Полацк і жылі ў маленькай хатцы на беразе пракаветнай Палаты. Хатка была старая, з падгнілымі падвалінамі; падлога пры хадзе небяспечна зыбалася, са столі ў дождж крапала вада, ды Алехну – так на беларускі манер стаў я называць свайго новага сябра – гэта не надта засмучала. Алехна пісаў вершы.

Вечарамі я завітваў у хатку, мы сядалі ля печы, бралі па чарцы, і сябрук чытаў мне са свайго пацёхканага, шарым пушком пакрытага блакнота кагадзе напісаныя тэксты. У куце спяваў цвыркун, за сценкай тахкалі ходзікі, сырыя дровы ціха сіпелі ў печы і, у поўным суладдзі з тымі зыкамі, у хаце гучалі вершы:

*Абрыўкі павуцін апошніх,*
*Адлётаўшы, на ржэўі віснуць*
*І бляскам слюдзяным на пожні*
*Мігцяць так квола, так няісна...*

*А помніш, помніш, як у спёку*
*Так непатрэбна, бескарысна*
*Шугала полымя высока,*
*Рассыпаўшы над намі іскры?*

Праз шмат гадоў, апавядаючы гурту маладых мінчанак, што прыехалі ў Полацк, пра тутэйшыя славутасці, я тыцнуў рукой у бок Запалоцця і паведаміў: "А вунь там, на Млынарскім завулку, калісьці жыў паэт Алехна Мінкін..."

"Дзе?! Дзе?!" – разам азваліся мінчанкі. Іхняя цікавасць была такой палкай, што давялося весці аматарак паэзіі ў Запалоцце і там, ля збуцвелай, даўно пакінутай гаспадарамі хаціны, працяцца светлаю зайздрасцю да паэта Алега Мінкіна, якога і дагэтуль любяць сталічныя дзяўчаты.

***

Напрыканцы верасня 1980 года падборку мінкінскіх вершаў надрукавала "Літаратура і мастацтва". Колькі дзён Алехна бліскаў натхнёнымі вачыма, потым паслаў свае тэксты ў "тоўстыя" часопісы і атрымаў лапідарныя адказы: "Вершы слабыя, друкаваць не можам. Жадаем творчых поспехаў". Сябрук, чыя маладосць прайшла ў дзіцячых дамах ды інтэрнатах і які ў жыцці тое-сёе зведаў і спазнаў, успрыняў такія адказы з філасофскай разважнасцю. "У рэдакцыях сядзяць вясковыя мальцы – яны крамолу здаля чуюць, ды і канкурэнты ім непатрэбныя", – казаў сябрук.

Неўзабаве Алехна ўладкаваў мяне на працу, і так пачалася наша сумесная нафтаправодная Адысея. Шмат давялося паездзіць, шмат чаго пабачыць. На нашым вандроўным азімуце былі Літва і Латвія, Калмыкія і Астрахань, вытокі Волгі і балтыйскае ўзбярэжжа... Былі вакзалы, аэрапорты, гулянкі давідна, канспіратыўныя сходкі, бойкі, мімалётнае каханне і вершы, вершы... Алехна пісаў іх уначы, а раніцою, сёрбнуўшы гарбаты, з пафасам чытаў напісанае. У тэкстах раз-пораз пракідаліся русізмы, я папраўляў аўтара – і аўтар тут жа перапісваў радок, замяняючы рускае слова на беларускае. Трэба

адцеміць, што сябар заўсёды ўважліва прыслухоўваўся да маіх заўвагаў і амаль заўсёды з імі пагаджаўся. А яшчэ ён вельмі лёгка падпадаў пад чужыя ўплывы. Варта было Алехну Мінкіну прачытаць навуковыя працы фалькларыста Аляксандра Афанасьева, як ён абвясціў сябе паганцам, стаў пісаць вершы пра Белуна і Белабога, а сустрэўшыся з паэтам Алегам Бембелем, адразу ж зрабіўся хрысціянінам, спрабаваў – даволі беспаспяхова – пасціцца і сувора насупліваў бровы, калі я называў Святое Пісанне казкамі народаў Міжрэчча і Палесціны.

На пачатку слыннай перабудовы мы з сябрам падаліся на Поўнач. Месца, дзе нам лёсіла жыць і працаваць, называлася Таварным паркам і тулілася пасярод глухой цюменскай тайгі. Там, на Поўначы, Алехна кінуў пісаць вершы і засяродзіўся на прозе. Дакладней, на сваёй – даволі пасрэднай, як на мой густ – антыутопіі "Краіна Хлудаў". Ён яе безліч разоў перапісваў, перайначваў прозвішчы герояў, змяняў сюжэтныя хады, нарэшце, узяўся крэсліць мапу Краіны Хлудаў, але антыутопія ад таго лепей не стала.

Паэзія, як любіў казаць ужо згаданы тут Алег Бембель, – гэта голас нябёсаў. Посвіст сіверу і шум тайгі, куды сябрук штодня хадзіў на лыжах, зрабіў гэты голас дарэшты невыразным, і Алехна Мінкін за чатыры з паловаю гады сібірскай "камандзіроўкі" не напісаў аніводнага вартага паэтычнага тэксту.

Увосень 1988 года сябрук з'ехаў з Поўначы, і нашыя жыццёвыя пуцявіны назаўсёды разышліся. Цяпер мы жывём у розных гарадах, у розных дзяржавах, і амаль не сустракаемся. Дый навошта сустракацца? Каб пабачыць адбіткі часу на сваіх азызлых тварах?

Запомнім сябе маладымі – пісалі класікі. Пагатоў мне здаецца, што душа – хай і на кароткую хвіліну – яшчэ вернецца ў маладосць. І зноўку за тонкай пераборкаю затахкаюць ходзікі, у цёмным куце будзе спяваць цвыркун, сырыя дровы будуць ціха сіпець у печы і сябар прачытае мой улюбёны верш пра іскры, якія – у мінулым жыцці – узняліся і згаслі над нашымі галовамі.

**Вінцэсь МУДРОЎ**

# “МЕТАФІЗІЧНАЯ ПАЭЗІЯ” І КАРАЛЕЎСТВА БЕЛАРУСЬ

Алег МІНКІН

1. У гэтым невялічкім тэксце (пра Мінкіна) мы зусім не збіраемся *імкнуцца гаварыць праўду*, – праўду, якая апошнія дзве тысячы гадоў дакляруе сябе як адпаведнасць словаў і рэчаў, г.зн. як “часовая праўда, зусім не вартая нас”. Рэчы (свет) мяняюцца, а словы застаюцца. Таму замест гэтага *паспрабуем памыліцца*, творачы тым самым, як сказаў бы Мішэль Фуко, у працэсе прамаўлення – гістарычную анталогію нас саміх. Сапраўды, што ўсё ж такі адбывалася ў часе, які мы памятаем, які калісьці выяўляўся як *нашая сучаснасць*, часе, які прамаўляе нашымі вуснамі нават цяпер, калі мы маўчым? Пісаць пра Мінкіна як аб “прамоўленым у часе” – гэта значыць шукаць прастору, дзе гэтае прамоўленае адгукалася, часткай якой яно сябе знаходзіла. Гэтая прастора – відавочна, не прастора літаратуры як прадмета літаратуразнаўства. Сама літаратура, магчыма, – усяго толькі спроба разыграць на прасторы словаў некаторыя істотныя (але не універсальныя) гіпотэзы пра нашае жыццё, зафіксаваць ягоныя плынныя канфігурацыі...

2. Будзем называць *Каралеўствам Беларусь* тую нетрывала-часавую канфігурацыю, якая раптам выявілася на паверхні на пачатку 90-х і якая зноў апусцілася ў цёмныя глыбіні (сну? быцця?) у другой палове гэтага ж дзесяцігоддзя. Было б памылкай трактаваць гэтую канфігурацыю як “культуру”, як сістэму знакаў, як пэўны стыль альбо пэўную

нарматыўнасць. Анталагічны статус *Каралеўства Беларусь* да канца не праяснены нават для ягоных жыхароў (?!): да яго немагчыма далучыцца ці ўвайсці, яго немагчыма назваць. Можна было толькі стацца часовай часткай гэтай канфігурацыі, *якая мяняецца разам з намі.*

3. Гістарычнай лакунай была прастора часовага безуладдзя, паўза паміж цывілізацыйнымі войнамі, у якой знайшла сябе наша родная старонка падчас распаду Імперыі. Знакі ўжо не падлягалі мабілізацыі. Больш за тое: знакі не былі анікому патрэбныя. Засталіся аголеныя сэнсы.

4. З гэтае непатрэбнасці і паўстала прастора ціхага прамаўлення свету, такога ціхага, што яно нават было пачутае (кім?!).

5. Некаторыя асацыяцыі (кантрасты з гесэўскай Касталіяй і беларускім Адраджэннем) непазбежныя. Ад Касталіі Каралеўства Беларусь адрозніваецца сваёй метафізічнасцю – яно выяўляе сябе заўсёды і непазбежна па-за ці па-над покрывам рэчаў, а таксама сваёй плыннасцю. Ад беларускага Адраджэння Каралеўства Беларусь адрозніваецца, “як неба ад зямлі”. Беларускае Адраджэнне кантралюе “нацыянальную свядомасць”.

6. Нацыянальная свядомасць сёння – гэта хімера, дзеля адасобленага існавання якой вынайдзены магутныя тэхнічныя сродкі. У часы “познесармацкай цывілізацыі” свядомасць народа складалася з разавых фрагментарных штуршкоў асобных “абуджальнікаў”. Сёння – гэта машына па вытворчасці сімулякраў, маркер, альбо маркіроўка спрадукаваных знакаў, для якой патрэбныя не абуджальнікі і не крытыкі, не творцы, а спажыўцы. Задача “нацыянальнага” сёння – утрымаць еднасць спажывання знакаў, а таксама ўтрымацца ў няспыннай вайне адных сістэмаў знакаў супраць іншых.

7. Паэзія Алега Мінкіна напоўніцу адбылася, калі Каралеўства Беларусь у выніку пэўнага энергетычнага перанасычэння

прасторы раптоўна матэрыялізавалася са сваёй маўклівай посткаланіяльнай рэальнасці руінаў у арэальнасць тэкстаў.

8. Мінкін прапанаваў гэтаму Каралеўству некалькі метафараў, якія зрабіліся істотнымі: "старая хата" хіба самая сярод іх заўважальная. Беларускі праект вызвалення, з ягонай энергетыкай сацыяльнага і культурнага аптымізму, атрымаў у выніку дапасавання гэтай метафары метафізічнае "кароткае замыканне". Куды б мы ні выпраўляліся ў пошуках свабоды, нам наканавана заўсёды прачынацца ў "старой хаце" (Багушэвіча?), якая можа быць убачаная як "стары катух", а можа (у выніку пэўнага містычнага прасвятлення) — як Каралеўства.

9. Сам Мінкін стаўся часткай Каралеўства на пераломе сваёй творчасці. "Нацыянальны", самотны і адносна кароткі перыяд ягонай творчасці распачынаецца (і заканчваецца) першым зборнікам "Сурма", у якім некаторыя ўбачылі працяг лініі Багдановіча, а некаторыя – яе пасляховае завяршэнне. Адрэдагаваная савецкай рэдактурай "Сурма" захавала, тым не менш, свой магічны код, натуральную магію мовы і свету, і ўжо пазначыла агульнае памкненне вычарпаць гэтую магію ў акце радыкальнае пастаноўкі пад пытанне свету як такога. Гэтае памкненне было выяўленае ў другім зборніку, "Расколіна", які распачынаецца цвярджаннем пра тое, што паэт "ужо іншы", і замацаванае трэцім, нявыдадзеным яшчэ зборнікам "Пенаты", у якім Мінкіна *як такога* ўжо няма, – прынамсі структура зборніка, выбудаванага як старая кітайская "рэч", дазваляе менавіта такое прачытанне.

10. У "Пенатах" "свет цэлы", у які так імкнуліся вырвацца героі Купалы, раптам напоўніцу супадае з мовай і выяўляе сябе як трансцэдэнтальную ілюзію, фантом, на пазбаўленне ад якога і скіраваная паэзія "позняга" Мінкіна.

11. На дыстанцыяванне ад свету ў акце паэтычнага прамаўлення абапіраецца метафізічная паэзія. Што гэта такое, пакінем без дакладнага адказу. Сам Мінкін апісвае гэта ў радках: "Я варушу губамі, як быццам завадны,//Але з іх не злятае ніводны

гук зямны". Альбо: "Пустэльня навокал, хоць справа//І злева – паўсюль барацьба.//І ў тлуме ўсіх ісцін яскрава//Адно толькі свеціць – журба://Якія б ні бухалі маршы,//І што б ні ўслаўлялі ўзахлёб,//Яна ацалее і ляжа//Пасмертнаю маскай на лоб".

12. Верш Мінкіна, тым не менш, пры гэтым заставаўся класічным і ішоў у бок наратывізацыі сэнсу, апавядальнасці. Менавіта ў акце расповеду раптоўна адчуваюцца асалода ад прамаўлення, збой рэчаіснасці, а таксама форма — рыфма як момант рытмічнай арганізацыі свету. Менавіта кантэкст расповеду дазваляе Мінкіну ўводзіць у нібыта рэальны ландшафт разнастайныя транснатуральныя аб'екты. (Так, лаўка ў старым парку, якая сталася тэмай аднайменнага верша, дазваляе здзейсніць апрычонае метафізічнае падарожжа і адчуць, хаця б на момант, тоеснасць сансары і нірваны.)

13. Асобна мы вылучым фантастычную прозу Мінкіна: *Праўдзівую гісторыю Краіны Хлудаў* і некалькі апавяданняў (*Карова, Мяне тут не было, Стары дом*), якія ўвайшлі ў ягоны зборнік прозы. Разам з корпусам перакладаў (Лесьмян, Стаф, Норвід, украінскія паэты, Эдгар По) проза Мінкіна ёсць дасканалы самакаментар да ягонага паэтычнага кону.

14. У архіве Клакоцкага захоўваецца невялікая калекцыя сноў Мінкіна пад агульнай назвай "Маё жыццё", перададзеная нашым героям архіву напрыканцы дзевяностых гадоў. На жаль, ужо сёння доступ да гэтай калекцыі абмежаваны, а з цягам часу яна мае тэндэнцыю да ўсё большага і большага заімглення.

**Ігар БАБКОЎ**



# Барыс Пятровіч

*Гэта потым ён зразумеў, што кніга — і ёсць ён сам са сваімі меркаваннямі і выдумкамі, што кніга, урэшце, паказвае толькі тое, што хоча ён бачыць, і што, па вялікім рахунку, нічога новага яна не дае... Ён можа выдатна абысціся і без яе, бо жыццё пройдзе, пакуль ён навучыцца карыстацца ёю.*

Барыс ПЯТРОВІЧ

# Кніга*

І этая кніга трапілася на вочы чалавеку, якога сябры звалі Йванкам, у адной з далёкіх паляшуцкіх вёсак. Ён прыехаў сюды, бліжэй да радзімы, у этнаграфічна-фальклорную экспедыцыю. Стаяла надзіва цёплае, але з частымі дажджамі-навальніцамі, лета, і ў любую, нават самую далёкую, вёску можна было лёгка даплыць на бурклівай маторцы па Прыпяці і яе затоках ды прытоках. Гэтак і дабраліся яны з сяброўкай-каляжанкаю ды ўзятым у Тураве праважатым да Бабровічаў.

Дзіўная то была вёска – адна з ускраін вялікага калгаса "Шлях да камунізму". Сюды можна было смела прыязджаць, каб здымаць фільм з жыцця палешукоў на пачатку дваццатага стагоддзя: "Алесю" Купрына ці "Людзей на балоце" Мележа. Між крытых шыферам ці дранкаю хатаў шмат было і з саламянымі стрэхамі, а большасць хлявоў і гаспадарчых пабудоў мелі стрэхі з чароту. У цэнтры, за крамай і клубам, схавалася невялікая драўляная цэркаўка – помнік архітэктуры васемнаццатага стагоддзя. Пясчаныя вуліцы не ведалі колаў аўтамабіляў, а таму былі зарослыя мяккай муравою, па якой разбягаліся да хатаў жылкі сцяжынак. Да бліжэйшае вёскі – цэнтра калгаса – вяскоўцы хадзілі пешкам. Восем кіламетраў лесам праз брады, якія ад шматлікіх крыніцаў не перасыхалі летам, не замярзалі зімою і любую грэблю размывалі, паглыналі за некалькі месяцаў. Нават возам праехаць праз гэтыя брады было цяжка, а ўжо на машыне ці трактары не рызыкаваў ніхто.

* Гэтае і наступныя апавяданні – з нізкі "Непатрэбныя рэчы".

Нельга сказаць, каб вёска была зусім адрэзанаю ад жыцця. Электрычнасць сюды правялі, а значыць мелі палешукі і радыё, і тэлевізары. На лета з гарадоў да бацькоў прыязджалі іхнія дзеці са сваімі дзецьмі – унукамі, якія "везлі" з сабою сякую-такую цывілізацыю: джынсава-рокавую. І тым не менш вёска захавала сябе не толькі вонкава. І нутро яе, дзякуючы дзядам і бабулям, заставалася ранейшым, вядомым нам хіба з кніжак ды тэлевячорак. У гэтым пераканаліся Йванка і ягоная каляжанка ў першы ж ад прыезду вечар. Ля адной з хатаў на даўжэзнай лаўцы сабраліся бабулі і дзяды, якія, пагаманіўшы да прыцемкаў, пачалі раптам (для Йванкі – раптам) спяваць песні. На некалькі галасоў. Мужчына пачынаў, прапяваў некалькі словаў і песню падхоплівалі жанчыны, далучаліся мужчыны і гучала гэта так незвычайна прыгожа, што Йванка заслухаўся і не адразу прыгадаў пра магнітафон. Трэба сказаць, што пасяліліся яны ці не ў лепшай хаце ў вёсцы – у маладога хлопца-брыгадзіра Хведзі. Убачыўшы замілаванне на твары Йванкі, Хведзя спытаў: "Спанаравілася?" – "Так, а хто гэта запявае?" – "Ды дзед Змітрык". – "Дзед?" – здзівіўся Йванка, бо голас здаваўся яму маладым і дужым. "Дзед,– патлумачыў брыгадзір, – і ведаеш колькі яму гадоў? Не паверыш — дзевяноста тры..."

Увесь вечар Йванка праседзеў ля расчыненага акна, выставіўшы на вуліцу мікрафон і запісваючы песні. Перабівала іх часам блізкае крумканне жабаў, сярод якіх былі таксама нядрэнныя салісты, але ўсё ж адну касету Йванка запісаў амаль цалкам. А назаўтра ранкам ён папрасіў Хведзю, каб той завёў яго да дзеда Змітрыка.

Дзед жыў на ўскраіне вёскі, можна сказаць нават на хутары, бо ад вёскі ягоную хату з саламянаю страхою аддзяляла невялікая балаціна. Жыў адзін, без бабы. З выгляду быў ён зусім не мацаком – худы, невысокі, крыху згорблены і таму глядзеў быццам спадылба, – але ў вачах свяцілася добрая іскрынка і таму погляд ягоны не здаваўся пагрозлівым, злым, а быў жывы, вясёлы, які бывае звычайна ў маладых гарбуноў. Сівыя валасы былі густыя, і лысы ў свае трыццаць два гады Йванка нават пазайздросціў дзеду. Сівая барада была дагледжаная і выдавала ледзь не арыстакратычна-маладою. "Такога б бойкага дзядка ды

ў "Калыханку" казкі казаць, – падумаў Йванка, – вось радасці дзецям было б..."

– Прывёў вам, так сказаць, чалавека вучонага з Менску, – сказаў Хведзя прывітаўшыся, — хоча песні нашыя запісаць, легенды, звычаі. Каб, значыць, нашчадкам засталіся. На памяць, так сказаць...

Йванка падышоў да дзеда, падаў руку, назваўся.

– Бачыш, хлопец, трохі не ў пару ты прыйшоў, – сказаў дзед, – я ў лес, у грыбы сабраўся... – зазірнуў вінавата ў вочы Йванку, памаўчаў, а потым махнуў рукою: – Ды хай з імі, з грыбамі – мае маімі будуць, дачакаюцца. Сядай, – і ён паказаў на прызбу. Сапраўдную прызбу, абабітую дошкамі, напханую саломай і прысыпаную пяском – такіх, падумаў Йванка, ужо й няма нідзе.

Дзед праспяваў некалькі жніўных песняў. Потым, сказаўшы: "А што гэта я бабскія песні спяваю?", – пачаў спяваць жаўнерскія, казацкія.

Калі прыпякло сонца, Йванка з дзедам Змітрыкам пераселі ў цянёк, пад разлапістую грушу-дзічку, проста да якой былі прыбіты жэрдкі агароджы, а затым, калі невядома адкуль прыпаўзла чорная хмара (дзед сказаў – *гурак*) і пачаў накрапваць рэдкімі буйнымі кроплямі дождж, які абяцаў ператварыцца ў хуткацечную залеву, дзед запрасіў Йванку ў хату. З парога Йванка агледзеў яе. Як звычайна, хата не была разгароджана на пакоі. Мела яна чатыры невялікія, як кажуць — падслепаватыя, акенцы. Злева ад уваходу стаяла печ, якая займала ледзь не чвэртку хаты, за печчу хаваўся дзедаў ложак, у правым куце вісеў ахінуты рушніком абраз, пад ім стаяў стол з двума самаробнымі зэдлікамі, ад стала паўз усю сцяну да ўваходу цягнулася лава — услон. Нетынкованыя сцены былі пабелены зеленаватай вапнай.

На стале ляжала... кніга. Спачатку Йванку падалося, быццам то – бохан хлеба, бо ён і ўявіць сабе не мог, што будзе ляжаць там кніга. У тоўстай скураной карычневай вокладцы, кніга і сапраўды здалёк была падобнаю на бохан. Але толькі здалёк.

– Праходзь, праходзь, сынок, – сказаў дзед, убачыўшы, што Йванка так і застыў на парозе. І тады Йванка пайшоў да стала, да кнігі. Ужо з першага позірку было відаць, што яна старая, вельмі старая. Калі не рукапісная, дык першадрук дакладна. Мясціны

гэтыя былі не стараверскія, і Йванка губляўся ў здагадках: адкуль магла ўзяцца ў глухой палескай вёсцы такая кніга? Яму карцела разгарнуць яе, разглядзець, пачытаць, але ён не адважыўся. Застыў над кнігай, як зачараваны.

– Што, кніжка спанаравілася? – спытаў дзед, і барада схавала ягоную ўсмешку.

Йванка толькі і змог кіўнуць у адказ.

– Даўно яна ляжыць на гэтым стале. Пры дзеду маім ляжала, пры бацьку. Бацька браў яе, чытаў, а я колькі ні гартаў – нічога не бачу ў ёй. У вайну, калі паперы не было, хацеў скурыць яе. Паспрабаваў вырваць старонку — не вырываецца. І не адрываецца. Як скураная ўсё адно, а не папяровая. Я і так, я і сяк – не паддаецца... Ляжыць вось на стале. А выкінуць – шкада... Калі ўпадабаў ты яе — дык бяры... Бяры сабе, не бойся. Бяры.

Йванка разгарнуў кнігу. Першы ліст – чысты. Белы, як малако, і ніводнага знаку на ім, ніводнага следу. Другі – таксама чысты. І трэці... і пяты... і дваццаць пяты... Уся кніга – цнатлівае чысціні, нібы новы альбом для запісаў... “Мусіць, ад часу напісанае выцвіла, знікла, – падумаў Йванка, – трэба ўзяць і паспрабаваць рэнтгенам ці рэактывамі нейкімі аднавіць тэкст”.

– Бяры-бяры, – паўтарыў дзед, не загадна, а лагодна, быццам просячы, – усё адно прападзе. Не ў труну ж мне яе з сабою забіраць. Ты ж ведаеш – адзін я на белым свеце застаўся. Баба мая памерла. А сыноў маіх траіх – Васіля, Андрэя і Мікіту – немцы ў вайну забілі. За партызан...

Дзед скінуў рукою слязу, апусціў галаву, зрабіўся маленькім, як не хлопчыкам.

Йванка зразумеў, што будзе яму зараз не да спеваў і не да расповедаў, узяў кнігу, падзякаваў і пайшоў з хаты. Тым больш, што дождж так і не разышоўся.

Толькі ў Мінску з’явіўся ў Йванкі час добра разгледзець кнігу. Ні на святло, ні пад цёплым прасам ніякіх знакаў на яе старонках не вымалёўвалася, а ў лабараторыю знасіць яе ўсё не выпадала: трэба было спачатку зрабіць справаздачу пра экспедыцыю. Кніга ляжала на Йванкавым стале побач з іншымі, з якіх, прачытаных раней, выхопліваў ён то нейкую цытатку, то факт. І вось аднойчы

спатрэбілася яму ўдакладніць год нараджэння Міколы Шпілеўскага, які задоўга да яго даследаваў Палессе. Па звычцы, аўтаматычна, рука ягоная пацягнулася да стосіка кніг, выцягнула патрэбную. Ён разгарнуў яе, знайшоў пэўную старонку, прачытаў, што трэба было. А калі загарнуў, то ўбачыў, што ў руках ягоных не энцыклапедыя, а... тая дзедава кніга. Йванка здзівіўся, зноў пагартаў — энцыклапедычны даведнік, загарнуў — дзедава. Няўжо пажартаваў нехта і вокладку падмяніў? Не, вось і сапраўдны даведнік — ляжыць сабе ў стосіку, а дзедавай кнігі не відаць. Значыць, гэта менавіта яна ў ягоных руках!?

З таго часу стаў Йванка эксперыментаваць з дзедавай кнігай. І вось што ён выявіў: а) кніга паказвае (менавіта паказвае) толькі тое, што ён ведае, што чытаў альбо чуў — тое, што ёсць, што было, што адбілася, захавалася ў ягоным мазгу, хоць ён пра яго і “забыў”; б) кніга паказвае не толькі тое, што ён чытаў, але і тое, што ён бачыў у жыцці: усё ягонае жыццё да дробязяў. Трэба толькі прыгадаць дзённік, які некалі ён пачынаў весці, як у кнізе з’яўляюцца ніколі не робленыя ім запісы (але почырк — ягоны), у якіх зафіксаваны ці не кожны ягоны крок, усё добрае і нядобрае, што ён зрабіў у жыцці; в) калі ўчытацца ў тэкст, то кніга пачынае не проста “паказваць” уласна тэкст, а ў прамым сэнсе паказваць тое, што адбывалася: нібы фільм, нібы сон наяве; г) кніга можа паказаць — прадказаць — і тое, што будзе з табою, трэба толькі правільна “папрасіць” яе; д) кніга можа падрабязна расказаць пра любога чалавека, якога ты ведаеш ці пра якога чытаў, прытым гэтак падрабязна, як пра цябе самога; е) і самае галоўнае: кніга гэтая, зразумеў Йванка, ёсць нібы экран-манітор ягонага камп’ютэра-мозгу...

Йванка падумаў, што ў ягоных руках аказаўся неацэнны, найкаштоўнейшы скарб. Гэта была не проста чароўная кніга, гэта была... кніга кніг, бо ўмяшчала ў сябе яна ўсё, у тым ліку і Кнігу Кніг...

Але чым часцей Йванка карыстаўся кнігай, тым больш расчароўваўся ў ёй. Для працы ягонай яна аказалася зусім непрыдатнаю, бо цытаты, якія ён там браў, часта былі недакладныя, а факты з жыцця якой-небудзь асобы – неасэнсаваным, непрааналізаваным нагрувашчваннем таго, што ён некалі чытаў, і

выбрацца з-пад гэтых руінаў было амаль немагчыма. Кніга проста на ўсе сто працэнтаў вычышчала ягоны мозг і "падавала на стол" інфармацыю. Ён захацеў даведацца, як загінуў Купала. Паглядзеў "фільм", спачатку паверыў яму, а потым падумаў і вырашыў: гэта простая кампіляцыя з чытаных ім раней розных версій, а не праўда. Мажліва, гэта і цікава, але ж не тое, што было на справе... Тым больш, нельга было "чытаць" у ёй нешта пра сучаснікаў. Йванка пасварыўся са сваім лепшым сябрам, у жыццё і думкі якога зазірнуў з дапамогай кнігі. Гэта потым ён зразумеў, што кніга — і ёсць ён сам са сваімі меркаваннямі і выдумкамі, што кніга, урэшце, паказвае толькі тое, што хоча ён бачыць, і што, па вялікім рахунку, нічога новага яна не дае... Ён можа выдатна абысціся і без яе, бо жыццё пройдзе, пакуль ён навучыцца карыстацца ёю.

Закінуў тады Йванка кнігу на самую высокую паліцу і забыў, як дзіця з часам забывае любімую цацку. Мажліва, знойдзе яе калі-небудзь Йванкаў сын і пачытае.

# Веласіпед

Чалавек, якога сябры звалі Іванам Іванавічам, даўно марыў набыць веласіпед. Але ніяк не мог назбіраць грошай на яго.

Веласіпед патрэбны быў Івану Іванавічу дзеля штодзённых ранішніх мацыёнаў. Пасля сарака ён раптам заўважыў, што стаў таўсцець, што жывот ягоны акругляецца і пачынае выпінацца з-пад кашулі, расшпільваючы гузікі на пінжаку.

Займацца банальным бегам Івану Іванавічу не хацелася. Не таму, што ён ленаваўся, а таму, што вычытаў неяк у "Звяздзе", што дзеля няшкоднага бегу, бегу ад інфаркту ці простага патлусцення, трэба спачатку навучыцца правільна дыхаць: "паставіць дыханне" – пісаў вядомы лекар. Інакш беганне ад

інфаркту ператворыцца ў беганне па інфаркт ды іншыя хваробы.

Пра тое, што "правільна" дыхаць трэба і круцячы педалі, Іван Іванавіч не думаў. З кожнае палучкі ён адкладваў патроху грошай, пераводзіў іх у даляры, а даляры хаваў на кніжнай паліцы ў трэцім томе збору твораў Гогаля.

І вось настаў дзень, калі Іван Іванавіч зайшоў у ГУМ, пабачыў кошт веласіпеда, перамножыў сабраныя даляры на ранішні курс рубля і з радасцю ўсвядоміў: грошай хопіць...

Вечар Іван Іванавіч праседзеў каля новага веласіпеда. Нешта падціскаў у ім, а нешта адціскаў, нешта падымаў, а нешта апускаў; падпампоўваў колы, змазваў шрубкі ды ўтулкі, а раніцай выкаціў веласіпед на вуліцу. Веласіпед на асфальце, здавалася, ажно дрыжэў ад нецярпення — так і рваўся ў дарогу. Іван Іванавіч сеў на яго, лёгенька крутнуў педалі. І веласіпед пругка, мякка пакаціўся. Каб праверыць, наколькі ён ходкі, Іван Іванавіч больш не ціснуў на педалі. Ён праехаў сто метраў, а веласіпед не спыняўся, дзвесце – а хуткасць не меншала... Іван Іванавіч затармазіў — веласіпед спыніўся. Не ўзбрыкваючы, як наравісты конь, і не віхляючы задам, як сабака, а спакойна, годна. Іван Іванавіч агледзеў яго. У чым-чым, а ў веласіпедах ён разбіраўся. Пачынаючы з трэцяга класа ў школу ў суседнюю вёску, за дзесяць кіламетраў, ён ездзіў на веласіпедзе. Спачатку на старым – бацькавым, а потым на сваім – новым, які да дзесятага класа дабіў і перабраў па запчастках.

Гэта быў звычайны веласіпед. Больш таго, за тыя трыццаць гадоў, што прайшлі ад апошняга веласіпеда Івана Іванавіча, веласіпедная справа скранулася не нашмат: хіба толькі некаторыя металічныя часткі былі заменены на пластмасавыя, што яшчэ ўвечары заўважыў Іван Іванавіч.

Так, веласіпед быў звычайны, і Іван Іванавіч зноў сеў на яго і крутнуў педалі. Веласіпед пакаціўся наперад. Дарога пайшла пад гару, а хуткасць не змяншалася. Веласіпед вёз Івана Іванавіча, нібы матацыкл: на адной зададзенай хуткасці. Калі Іван Іванавіч хацеў ехаць хутчэй, ён крыху пракручваў педалі, калі цішэй — прытарможваў. Адчуваючы ў руках паслухмяную машыну, Іван

Іванавіч радаваўся, як дзіця. Прыемна было бязгучна імчаць па дарозе, любавацца краявідамі і сачыць толькі за тым, каб не спалохаць ці не збіць з ног якога задумлівага пешахода, ціха падкаціўшы да яго.

За некалькі тыдняў Іван Іванавіч аб'ездзіў усё наваколле. Трэба сказаць, што жыў ён на ўскраіне, ля самай кальцавой дарогі, таму падарожнічаў у асноўным за горадам, па лясных і лугавых сцяжынах.

Здавалася б — катайся ды радуйся. Ні табе выдаткаў на паліва, ні забруджвання паветра, ні шуму. Мусіць, нехта і быў бы шчаслівы, ды толькі не Іван Іванавіч. Пачаў заўважаць ён, што за апошні час не толькі не пахудзеў, а наадварот — паправіўся. А што: пакатаецца на свежым паветры і такі апетыт нагуляе — ад стала не адарваць. Пашырэў ён і ў плячах, і ўпоперак гэтак, што стаў нават сябе самога саромецца. І калі ў аўтобусе адная жанчына папрасіла яго: “Поўны мужчына, а поўны мужчына, прабіце білет!”, — ён сумеўся, заірдзеў, і кінула яго ў пот ад тых словаў.

Назаўтра ён не выехаў ранкам на веласіпедную прагулку. Выйшаў на шпацыр пешкам. Ішоў і думаў: “А ці не набыць мне сабаку, які б штовечар і штораніцы выводзіў мяне гуляць?” У той жа дзень Іван Іванавіч пазычыў грошай у сябра і набыў ля “Дынама” доберман-пінчэра дзеля пахудзення...

А веласіпед занёс у падвал, павесіў над слоікамі з гуркамі і капустай. Праз тыдзень нехта збіў замок з дзвярэй і ўкраў веласіпед. Іван Іванавіч пажурыўся трохі — рэч дарагая, — а потым супакоіўся.

# Каханне

Учора зноў у лес, дзе жыло племя чалавека, якога звалі Я, прыходзілі палевікі. І не столькі збіралі ягады, колькі тапталі іх, бо спяшаліся, бо баяліся, што палешукі ўбачаць, бо не сваё нішчылі. Гэтак робяць і палешукі, калі дарываюцца да агародаў палевікоў.

Барыс Пятровіч

# У нас

Я бачыў учора палевікоў. Назіраў за імі здалёк, аднак сваіх клікаць не стаў. Не таму, што пашкадаваў палевікоў, а таму, што згледзеў сярод іх пекную дзяўчыну. Такую, пра якую хлопцы ў ягоным узросце адразу думаюць: "мая"...

Сёння Я зноў хадзіў на тое месца, каб пабачыць палевікоў і дзяўчыну, але яны не прыйшлі.

Я разумеў, што зрабіць гэтак, як звычайна робіцца ў іх племені (даслаць бацькам дзяўчыны галіну святога дрэва – знак сватаўства), немагчыма, нельга, бо палевікі пагарджаюць палешукамі, лічаць іх дзікімі, а палешукі не любяць палевікоў за іх пыхлівасць, нахабства. Акрамя таго, між імі часта ўзнікаюць бойкі. Тады, калі людзі аднаго племені заходзяць на тэрыторыю другога. Гандляваць між сабою яны яшчэ не навучыліся, а лясныя дарункі для палевікоў былі найдалікатнейшымі прысмакамі – гэтаксама, як для палешукоў – палявыя расліны. І таму суседзі час ад часу наладжвалі выцечкі, каб паласавацца "прысмакамі", а папросту – украсці іх.

Не толькі ежа здавалася смачнейшаю ў суседзяў. Больш прывабнымі здаваліся і жанчыны. Здаўна павялося так, што палешукі выкрадалі ўпадабаных дзяўчат у палевікоў, а палевікі – у палешукоў. І не лічылася тое заганным, як і не лічылася геройствам.

Некалькі тыдняў Я высочваў, дзе жыве "ягоная" дзяўчына. У палевікоў пры лесе было некалькі невялікіх паселішчаў. І збольшага палешукі ведалі ўсіх, хто ў іх жыве, як і палевікі ведалі палешукоў. Ведалі хлопцы дзяўчат, а дзяўчаты – хлопцаў. Аднак не ўсіх, не ўсе і не заўсёды. Я гэтую дзяўчыну не ведаў, не бачыў раней. Мажліва, яна з сям'ёю прыйшла аднекуль і прыбілася да палевікоў, а мажліва, дзяўчо за год расцвіло непазнавальна, стала нявестаю. Зрэшты, так магло б быць, калі б Я пазнаў каго-небудзь са старэйшых палевікоў. Ён не ўбачыў сярод іх ніводнага знаёмага твару. Значыць, гэта былі далёкія палевікі.

Так і сталася. Упадабаную дзяўчыну Я ўгледзеў толькі ў дзесятым ад іхняга лесу паселішчы. Далёка, аднак за ноч ён паспеў схадзіць туды і назад, бо ўдзень палешукам сярод палевікоў знаходзіцца было небяспечна. Зловяць, і калі не заб'юць, дык пакалечаць. Гэта палешукі часам проста выганялі палевікоў з лесу,

палевікі ж рабункаў не даравалі, збівалі злодзеяў да паўсмерці. Можа таму, што запасы даваліся ім цяжкаю працай, а палешукі проста збіралі тое, што даваў ім лес.

Я сабраў сяброў, жанатых і нежанатых, і ў адну з цёмных дажджлівых начэй яны выправіліся да паселішча абранай дзяўчыны. У чыстым полі арыентавацца было цяжэй, чым у лесе, аднак зямлянку бацькоў дзяўчыны хлопцы знайшлі даволі хутка. Падкраліся, звязалі ўсіх, хто быў у ёй, нават маленькіх дзяцей. Заткнулі раты, каб не крычалі і не паднялі ў пагоню ўсё паселішча. Я пасадзіў сабе на плечы дзяўчыну і з усіх ног хлопцы кінуліся ў бок лесу. Як ні цяжка было, Я стараўся не адстаць ад іх.

Дзяўчына сядзела ціха, быццам адразу змірылася са сваім лёсам. Несці яе, згодна звычаю, павінен быў адзін Я. Але толькі калі ўбеглі ў лес, ён, стомлены дарэшты, трошкі адстаў ад сяброў. Пад векавым дубам выкрадальнікі спыніліся. Ужо бралася ранне. Чарната ночы зыходзіла на шэрань. Дзяўчыне развязалі рукі, пасадзілі побач. Цяпер ужо яна ад іх не магла ўцякаць, і палевікі яе шукаць не будуць. Гэткі быў закон: украдзеная дзяўчына лічылася “сапсаванай” і назад, у паселішча, яе ўжо не прымалі. Ні палевікі, калі гэта была іх дзяўчына, ні палешукі.

Хлопцы трохі адсапліся і старэйшы з іх распрануў дзяўчыну. Па чарзе, у тым ліку і Я (не першы, але і не апошні), паляжалі з ёю. Дзяўчына не крычала, па ейным маўклівым твары цяклі буйныя празрыстыя слёзы. Ці то ад болю, ці то ад роспачы, ці то ад нечаканых жыццёвых зменаў, ці то ад шкадавання па пакінутым недзе там, у зямлянцы бацькоў, дзяцінстве.

Развіднела. Дзяўчына прысела, агледзела хлопцаў. Цяпер яна павінна была ўгадаць, дзеля каго яе ўкралі, хто будзе ейным мужам. Калі яна памыліцца — яе заб’юць. Я вельмі хацеў, каб яна ўгадала. Не ўгадваюць рэдка, але бывае... І гэта практычна адзіны выбар, які даецца жанчыне: паміж смерцю і жыццём з невядомым пакуль ёй чалавекам, у невядомым паселішчы, у невядомых абставінах. Зразумела, яна ведала ўжо свайго “мужа”. Па паху, па бляску ў вачах... Але яна магла, мела права не ўгадаць яго.

І для Я гэта быў самы страшны момант у жыцці, бо і яму пасля гэтага можна было не вяртацца аднаму ў сваё паселішча: не захацеў

сваіх дзяўчат, выбраў чужую, і цяпер ніхто са "сваіх" за яго не пойдзе. Давядзецца альбо жыццё бабылём дажываць, альбо...

Дзяўчына выцерла слёзы з твару, выцерла кроў з ног, агледзела выкрадальнікаў, спыніла свой спакутаваны позірк на Я. Была яна яшчэ зусім маладзенькая. Мо трынаццаць гадоў, не болей. Я апусціў вочы. Яму стала шкада яе. Ён пашкадаваў, што выкраў яе, што адарваў ад бацькоў... Яна, мусіць, адчула гэта, адчула, што ён шкадуе яе, і паказала на яго: ты.

Я не абрадаваўся, як звычайна рабілі гэта іншыя хлопцы, не стаў скакаць танец абранага, ён падышоў да дзяўчыны і абняў. Яна заплакала.

# *Клініка* *

Максім выйшаў на пару прыпынкаў раней, каб зазірнуць у кнігарню. Пахадзіў між паліцамі, цесна застаўленымі шыхтамі кніг, і толькі настрой сапсаваў сабе недасяжнымі коштамі. Тое, што было па кішэні, набываць ён не хацеў, а тое, што карцела мець, нават у рукі не бралася – з-за некалькіх нулёў пасля першае лічбы. Максім думаў далей ісці пешкам, смакуючы дарогаю набытае, але цяпер настрой быў ніякі, і ён вярнуўся да прыпынку. На лаўцы, у куточку, прыцененым паветкаю, нехта сядзеў. У згорбленай паставе чалавека Максім распазнаў знаёмыя рысы. Прыгледзеўся: так і ёсць – Уладзя. Сто гадоў не бачыліся!

Уладзя таксама надзвычай абрадаваўся сустрэчы. У вачах ягоных нават зайграў агеньчык, якога раней Максім не заўважаў. Вусны расплыліся ў дзіўнай, нібыта наіўна-дзіцячай і разам з тым п'янаватай усмешцы. Максіма насцярожыла гэта, але ён падумаў, што, магчыма, Уладзя і сапраўды трохі выпіў.

* З нізкі "Спецкар".

Пасля “як жывеш – добра”, “як маешся – нічога” яны перайшлі да ўспамінаў. Згадалі ранейшых знаёмых: дзе-хто цяперака. І раптам Уладзя сцішыўся і ледзь чутна, па-змоўніцку, сказаў:

– Бачыш машыну? Вунь там вунь спынілася, – ён лёгенька паказаў вачыма, пры гэтым ніколькі не варухнуўшы ні галавой, ні брывом, ні рукой, ні плячом. – Гэта “наружка”. Ужо трэці дзень за мною сочаць. Ніяк адарвацца не магу. Дадому прыйду – пад балконам начуюць. Мне з акна не бачна машыну, але я ведаю, што яна там стаіць...

Максім разгледзеў “Жыгулі”, на якія паказваў Уладзя. Зрэшты, паблізу іншых машынаў і не было. “Жыгулі” стаялі метраў за трыццаць ад прыпынку. У іх сядзелі двое вусатых мужчынаў – нібыта кагосьці чакаючы. Калі машына прыпынілася, Максім не заўважыў, але падобна было, што вусачы выходзіць з яе не збіраюцца. Яны пра нешта размаўлялі між сабою, пазіраючы наперад, якраз на іх з Уладзем. І твары ў мужчынаў былі засяроджаныя, як звычайна здаецца, калі бачыш толькі твар чалавека, а не ўсё тулава.

– Ты ж ведаеш, што нядаўна ў Маскве павінны былі сустрэцца прэзідэнты, – прашаптаў Уладзя, з непрыхаваным страхам паглядваючы ў бок “Жыгулёў”. – Ведаеш?.. А не здагадваешся, чаму сустрэча не адбылася? Не?.. Гэта я сарваў яе. Распрацаваў план і ажыццявіў яго, – тут Уладзя задаволена-сціпла заўсміхаўся, але закончыў зусім сур’ёзна: – Вось цяпер і сочаць за мною...

Максім здзівіўся першым словам Уладзі, хацеў нават аспрэчыць яго здзекліва, перапыніць грубавата: маўляў, хто ты такі, каб... Але чым далей гаварыў Уладзя, тым болей пераконваўся Максім, што спрачацца з ім не варта, бо з хлопцам робіцца нешта не тое. А калі Уладзя зашаптаў зноў: “Яны мяне забіць хочуць. Яны ведаюць, што я зрабіў, і баяцца мяне. Ім вядома, якая я важная птушка. Я ім, як костка папярок горла...”, — Максім канчаткова пераканаўся, што ва Уладзі нешта з галавою: ці не звар’яцеў ён? Бо да зрыву сустрэчы прэзідэнтаў яму было гэтаксама далёка, як і да Месяца.

Але ж тая машына не ад’язджала, і Уладзя не супакойваўся – раз-пораз зыркаў на яе. Максім вырашыў адвезці Уладзю дамоў, і таму спытаў:

– Дзе ты цяпер жывеш?

– А? Што?.. – не пачуў яго заняты сваім Уладзя.

– Дзе жывеш, пытаю...

– Тут недалёка, тры прыпынкі на аўтобусе, – Уладзя ўжо адкрыта, з выклікам глядзеў у бок машыны, быццам сказаць хацеў: я вас не баюся.

– Адзін?

– Не, з жонкаю. А... Ты ж не ведаеш маю Аксанку. Мы пабраліся з ёю, калі ты ўжо звольніўся ад нас.

“Ну тады прасцей, – з палёгкай падумаў Максім, – пэўна, Уладзя ўсё ж перабраў, альбо, можа, укалоўся ды “глюкі” ловіць. У іх, былых “афганцаў”, гэта бывае”, – і сказаў:

– Дык мо запросіш да сябе ў госці? З жонкаю пазнаёміш. Пляшку возьмем.

Уладзя нейк крытычна і падазрона агледзеў Максіма, нібыта пераконваючыся, што перад ім ягоны даўні сябар. Потым адказаў:

– Я не п’ю.

– А калі мы з табою пілі?.. Я між іншым сказаў... Так прынята.

Якраз падышоў іхні аўтобус. Зрэшты, усе тут ішлі ў патрэбным кірунку – да канцавога.

– Паехалі, – запрасіў ці то ў аўтобус, ці то да сябе дамоў Уладзя.

Максім стаў так, каб Уладзя апынуўся спінай да задняга акна, а сам ён – тварам, і назіраў за “Жыгулямі”: ці крануцца ўслед. Не, машына так і засталася стаяць каля прыпынку. “Але гэта ні пра што не сведчыць, – падумаў Максім, – Уладзя ж казаў, што яны ведаюць, дзе ён жыве – пад балконам начуюць. А значыць, дагнаць і перагнаць аўтобус ім не праблема...” – Максіму не хацелася, да апошняга не хацелася верыць, што з сябрам і сапраўды здарылася кепскае, і ён хапаўся за любую, нават самую абсурдную, надзею.

Аднак чым больш ён назіраў за Уладзем, чым больш гутарыў з ім, тым далей пераконваўся: перад ім псіхічна хворы чалавек, які, хутчэй за ўсё, пакутуе на манію праследу. Галава Уладзі ўвесь час торгалася рыўкамі: управа – улева, уверх – уніз, і ні на імгненне не застывала на месцы, не супакойвалася. І гаварыў Уладзя адрывіста, як машына, як робат, па складах:

– Заўтра я еду ў Маскву. ЛДПР мяне падтрымлівае. Грошы на снайпера яны дадуць. Мне сам Вольфавіч па тэлевізары казаў...

"Гэта страшна... Як гэта страшна..." – думаў Максім, гледзячы на Уладзю, бо канчаткова пераканаўся цяпер, што той хворы.

Яны не бачыліся і сапраўды гадоў сем. А ўпершыню сустрэліся і адразу пасябравалі некалі напрыканцы васьмідзесятых, у разгар перабудовы. Максім працаваў на заводзе ў газецешматтыражцы, і яму трэба было напісаць нарыс пра перадавога майстра, нядаўняга воіна-інтэрнацыяналіста Уладзіміра Янчука. Максім з ім размаўляў і ўсё лавіў сябе на думцы, што яны між сабою дужа падобныя. Сышліся і ў поглядах. Разам стварылі на заводзе суполку БНФ – адну з першых "рабочых" у горадзе. Натуральна, трапілі пад усёвідучы кантроль. З Уладзі, як з "афганца", заводскі "куратар" захацеў зрабіць "стукача". Некалькі разоў ён клікаў яго да сябе ў кабінет і падоўгу ці то страшыў, ці то маляваў незайздросную перспектыву, калі той не пагодзіцца.

Максім ведаў, што Уладзя згоды на супрацоўніцтва не даў. Але іх разлучылі па-іншаму: Максіму аднойчы прапанавалі працу ў рэспубліканскай газеце, і ён з радасцю пайшоў. Паколькі жылі яны з Уладзем на той час у розных канцах горада і рэдакцыя ад завода была далёка, дык бачыцца пачалі яны ўсё радзей і радзей. Спачатку яшчэ перазвоньваліся, а потым кінулі. Максім ажаніўся, з'явіліся ў яго новыя клопаты і новыя сябры, а Уладзя, як звычайна бывае з сябрамі, набытымі не ў дзяцінстве, а ў сталым узросце, патроху забыўся...

Уладзя і сапраўды жыў праз тры прыпынкі ад кнігарні і зусім недалёка ад новае Максімавай кватэры. І яны павінны былі рана ці позна сустрэцца. Не на прыпынку, дык у краме.

– Кватэру мне далі як "афганцу", – сказаў Уладзя па дарозе, – аднапакаёўку.

Уладзева жонка была дома. Максім здзівіўся нават, убачыўшы яе: даволі сімпатычная і маладзенькая жанчына. Хударлявая, у ягоным гусце, з кароткаю стрыжкаю. Убачыўшы, што Уладзя не адзін, яна засаромелася, павіталася і пайшла ў суседні пакой. Максім падумаў – пераапранууцца, бо была яна ў кароценькім халаціку, аж не – справілася з хваляваннем і амаль адразу выйшла назад, бо яе паклікаў Уладзя:

– Аксанка, ты куды? Пазнаёмся, гэта Максім. Я табе пра яго расказваў. Максім, гэта Аксана.

Узнікла няёмкасць... Максім нейк механічна ўзяў у рукі далоньку Аксаны і трымаў, нібыта не ведаў, што з ёю рабіць. Далонька была халодненькая. Пацалаваць? Не, ён паціснуў яе лёгенька, зірнуў Аксане ў вочы, сказаў: “Вельмі прыемна”, – і адпусціў яе руку. Быццам птушачку... Такой яму запомнілася гэтая першая сустрэча.

Потым яны пілі гарбату, якую згатаваў сам Уладзя. Сядзелі ўтрох на кухні і гаманілі – не гаманілі, згадвалі – не згадвалі, а так... І Максіму ўвесь час здавалася, што Аксане карціць пагаварыць з ім сам-насам, без Уладзі. Ці то мо яму самому хацелася пагутарыць з ёю, бо і ў кватэры Уладзя паводзіў сябе незразумела, з пункту гледжання свежага чалавека. Ён то сур’ёзнеў там, дзе не трэба, то наадварот, пачынаў смяяцца сам сабе з таго, што толькі ён лічыў жартам... І ўвесь час была неспакойнаю, нібыта жыла сваім жыццём, ягоная галава – гэта выглядала ўвогуле дзіка: тулава сцятае, нерухомае, а галава торгаецца і торгаецца, быццам шыя не трымае яе... Распытваць Уладзю пра здароўе не выпадала, размаўляць з Аксанай пры ім – таксама. Максім вырашыў зрабіць гэта як-небудзь потым. Развітваючыся, ён спытаў ва Уладзі нумар ягонага тэлефона і пакінуў сваю візітоўку – паклаў яе навідавоку, каб убачыла Аксана.

І не памыліўся. Праз два дні Аксана яму патэлефанавала на працу. Сказала, нічога не патлумачыўшы: “Нам трэба сустрэцца”. “Дзе? Куды мне пад’ехаць?” – спытаў Максім. “Я тут, паблізу рэдакцыі, званю з аўтамата”.

Максім выйшаў, яны сустрэліся на паўдарозе. Адчувалася адразу, што гэты званок практычна незнаёмаму чалавеку даўся Аксане няпроста. Моўчкі пайшлі ў бок блізкага парку. Аксана прапанавала прысесці на тую ж лаўку, на якой не так даўно ён размаўляў з кілерам. Максім адмовіўся, і яны падышлі да рэчкі, абаперліся на парэнчы і, гледзячы на няхуткую плынь, гаварылі пакуль пра... надвор’е.

– Цёплая восень сёлета, – сказала Аксана. – Вось і качкі не адлятаюць, – і паказала на чародку нахабных птушак, што ўжо кружлялі каля іх у чаканні пачастунку.

– Яны тут і зімуюць усе апошнія гады.

– Няўжо? – здзівілася Аксана.

– Рэчка, бачыш, не замярзае каля плаціны, людзі іх падкормліваюць. Чаму б не жыць?..

– Вось і ў нас – пажаніліся, кватэра ёсць – здавалася б, толькі жыві... Але... – так раптоўна перайшоўшы да свайго, Аксана гатовая была заплакаць.

Максім прыабняў яе за плечы: маўляў, супакойся, адначасова падахвочваючы распачаць аповед.

– Вы ж заўважылі, што з Уладзем нешта не тое адбываецца, што ён на сябе ранейшага не падобны...

– Заўважыў, але давайце на “ты”. Так прасцей будзе.

Аксана апавядала і Максім разумеў, што спраўдзіліся самыя горшыя ягоныя прадчуванні. Сапраўды, Уладзя вось ужо трэці год цяжка хворы. А пачалося ўсё пасля таго, як на адным з мітынгаў яго арыштавалі і жорстка збілі. Некалькі тыдняў ён ляжаў у шпіталі з сатрасеннем мозгу і шматлікімі гематомамі. Ім параілі не падаваць у суд, бо будзе яшчэ горш. Дакладней, падказалі ёй з яскрава-пажадным, абмацваючым, позіркам-намёкам. І яна ўгаварыла Уладзю. Ды і часы тады былі такія, што які там суд... Праблемы з галавою ва Уладзі пачаліся яшчэ ў шпіталі. Аднак яго выпісалі як здаровага. А праз пару месяцаў ён патрапіў у псіхбальніцу, у Навінкі. І лячыўся там ужо двойчы...

– Не ведаю, што і рабіць, – горка падсумавала Аксана. – Ратаваць яго трэба. Можа, яшчэ і не зусім запушчаная-залечаная хвароба. Бо ў нас сам разумееш, як абыходзяцца... Дарэчы, лекуюць яго як “афганца”. Кажуць, шмат хто з тых, што прайшлі Афган, маюць парушэнні псіхікі. Ледзь не праз аднаго... Урачы і пішуць у ягонай гісторыі хваробы нешта кшталту “афганскі сіндром”, хоць і ведаюць, што не Афган прычына...

У Максіма была знаёмая жанчына-ўрач, псіхатэрапеўт, і ён прапанаваў Аксане пакласці Уладзю ў яе аддзяленне, каб паглядзела. Мо і параіць што, мо дапаможа.

Праз тыдзень Уладзя ўжо ляжаў у аддзяленні той самай знаёмай – Святланы Пятроўны. І цяпер Максім з Аксанай сталі бачыцца часцей. Максіму была даспадобы Уладзева жонка, да таго ж ён заўважаў, што і яна яго вылучае для сябе. Пасля наведвання Уладзі яны пачалі разам вяртацца дамоў: жылі ж непадалёку. Аднойчы Аксана запрасіла Максіма да сябе. На гарбату...

Прыцягненне іх адно да аднаго дасягнула ўжо нейкай пэўнай мяжы, і ўсё адбылося само сабой. Аксана, удава пры жывым мужы, знайшла ў Максіме збавенне сабе і супакой. А ён... Ён хацеў пераканаць сябе, што гэта ніякая не здрада сябру і жонцы, што ён выконвае тут ролю лекара. Толькі лекара...

Уладзя ляжаў доўга – некалькі месяцаў. І неяк Аксана сказала Максіму:

– Святлана Пятроўна раіць мне нарадзіць... Мажліва, гэта паўплывае на Уладзю. У яго з'явіцца аб'ект, на які ён скіруе сваю ўвагу, у яго будзе пра каго клапаціцца, за каго адказваць... І ён тады забудзецца пра сваё... Але Святлана Пятроўна кажа, што дзіця лепш мець не ад Уладзі, а ад здаровага мужчыны. Ты разумееш?..

– А як жа Уладзя? Ці зразумее ён?

– А ён і не будзе ведаць праўду. Трэба зрабіць так, каб ён лічыў бацькам сябе. Толькі тады будзе надзея на выздараўленне.

Максім не паверыў Аксане: не магла ёй так Святлана Пятроўна сказаць... "Зрэшты, – засумняваўся ён, – а чаму б і не? Вельмі верагодна, што Уладзю з'яўленне дзіцяці можа дапамагчы. Хай бы, хай бы так і было..."

Сумненні не пакідалі Максіма і потым, ды ён і супакойваў сябе: "Даруй, Божа, гэтакі грэх, але – трэба ж...", хоць нехта ў ім адразу ж пакепліваў: "Во, і пра Бога згадаў, а калі да чужой жонкі ў ложак лез – не думаў..."

Толькі дарогі назад у Максіма ўжо не было. Ды і не хацеў ён яе шукаць, тую дарогу... Апраўдваючыся перад самім сабою, ён казаў: "Я хачу ім толькі дабра, я хачу дапамагчы сябру..." І гэта было ісцінай.

Праз два тыдні Уладзю выпісалі. Выйшаў ён з бальніцы і сапраўды паздаравелым: усё ж быў не ў Навінках, а сярод звычайных людзей. Нервы ягоныя супакоілі. "Вось яшчэ скіруем тваю ўвагу на цяжарную жонку і мажлівае дзіця, – думаў Максім, – і зусім паправішся..."

Чаго не зробіш дзеля сябра... І яшчэ праз месяц Аксана паведаміла, што яна цяжарная. Уладзя быў на сёмым небе ад шчасця. Адразу ж, першаму, патэлефанаваў Максіму і паведаміў. Максім павіншаваў яго і сказаў:

– Беражы Аксану. Ёй цяпер трэба спакой. І твая ўвага...

Уладзя быў клапатлівы муж. Падумваў нават, калі Аксана пойдзе ў дэкрэт, уладкавацца куды-небудзь на працу, каб зарабляць якую капейку да сваёй пенсіі. Мо вартаўніком дзеля пачатку, каб адаптавацца сярод людзей. Ён прызнаў нарэшце, што быў хворы. “Раней быў хворы...” – казаў ён. І гэтае настойлівае “быў” палохала Максіма і абуджала недавер.

Аднак усё ішло нармальна. З Аксанай яны час ад часу сустракаліся на “нейтральнай тэрыторыі”, і яна была шчаслівая. Максім таксама пачаў радавацца за сваіх сяброў. І адчуваць сябе ні больш, ні менш – збаўцам.

І раптам – званок Аксаны. І словы праз слёзы:

– Максім, калі можаш, прыйдзі зараз да нас.

– Што такое? – устрывожылася Максімава жонка Алена. Яна ведала пра Уладзю. Максім паціснуў плячыма: не ведаю.

– Аксана плача і просіць прыйсці да іх.

– Я магу схадзіць з табою.

Максіму не дужа спадабалася гэта, але ён падумаў, што тут не той выпадак, калі трэба працівіцца і якраз ёсць мажлівасць Аксану пазнаёміць з Аленай. Да таго ж, Аксане ў хуткім часе спатрэбяцца вопыт і дапамога Алены. Пра тое ж, што іх таямніца можа некалі раскрыцца, ён пакуль і думаць не хацеў.

Выявілася, што ва Уладзі пачалося чарговае абвастрэнне хваробы. Некалькі месяцаў усё ішло добра. Ён жыў радасцю, што ў яго будзе сын альбо дачка. А потым стаў казаць Аксане, што баіцца за сваё дзіцё: ён жа ненармальны, дык ці можа ад яго нарадзіцца нармальны чалавек? Ён так і казаў – ча-ла-век.

– Хто табе такое ўнушыў? Спытай у Святланы Пятроўны. Гэта ж яна як урач мне параіла. Усё будзе добра... У цябе ж была, падумай – была, не спадчынная хвароба, а ад перанесеных траўмаў. Гэта спадчынныя не вылечваюцца і перадаюцца...

Спачатку Уладзя паверыў Аксане, супакоіўся. А потым – зноў за сваё: баюся, рабі спарон...

Далей – болей... Калі Максім з Аленай прыехалі, сварка была ў разгары. Не сварка нават, бо Аксана ціхенька плакала на канапе, а бушаваў адзін Уладзя.

– Што такое? – з парога спытаў Максім, – што здарылася?

Уладзя быў моцна ўзрушаны. У яго зноў сама па сабе пачала торгацца галава. І гэта было страшна. Ён пачаў нават заікацца:

– Ды... ды... ды... растлумач ты... ты... ты... ёй, – кінуўся ён да Максіма.

У той вечар Максіму, Алене і Аксане разам удалося пераканаць Уладзю. Але, як аказалася, ненадоўга...

За тое, што здарылася потым, Максім вінаваціць толькі сябе. Хоць, зрэшты, што ён мог зрабіць? Ён жа не мог пайсці жыць да іх. І не мог узяць Аксану да сябе. І не ён прыдумаў гэты ход з дзіцём... І ўвогуле, каб не тая выпадковая сустрэча...

Апраўданняў заўжды можна прыдумаць шмат, ды нічога тым не зменіш. У будучыню зазірнуць нельга, мінулае – вось яно, на далоні. Толькі што з таго: наноў яго не перапішаш. Прайшло і закамянела. Назаўсёды...

...Уладзя каторы раз расхваляваўся, патрабуючы ад Аксаны зрабіць спарон, каб не нарадзілася хворае дзіця. Нервы Аксаны не вытрымалі, і яна запярэчыла яму ці не ўпершыню задужа рэзка, груба. Уладзя схапіў нож і... перастаў махаць ім толькі тады, калі Аксана ўжо не дыхала...

Максім бачыў Уладзю праз дзень пасля гэтага. Яму падалося, што позірк Уладзеў ад перажытага паяснеў, што глядзеў ён вачыма здаровага чалавека, які ўсё разумее. Але і ва Уладзі дарогі назад ужо не было... Яго пратрымалі ў Навінках з паўгода, і выйшаў адтуль ён, не пазнаючы нікога, нават Максіма. У Менску жыць не стаў, ды і не змог бы адзін, без жонкі, без Аксаны, а таму паехаў да маці.

А ў Максіма дадалося ў горадзе яшчэ некалькі мясцінаў, дзе бываць ён не можа, бо ціснуць і ціснуць яго там горкія ўспаміны, бо смокча і смокча неўтаймоўны боль...



# Сяргей Патаранскі

*Белы аркуш паперы*
*вагітны на цішыню.*
*Як не парушыць яе?*

***

Пажухлая трава на пожні,
як успамін
мінулае пяшчоты.

***

Цішыня — павук,
жандар кватэры,
сочыць за ахвярай.

***

Цёплае малако ў горле
клякоча голасам жалобы.
У хваробе — адзін.

***

Нібыта крэмавы торт,
ратуша ў сонечны дзень —
дзень Твайго Нараджэння.

***

Цёплая коўдра прытуліць думкі.
Стомлены чалавек
праводзіць мінулы дзень.

***

Кава адна спачувае
ў халодным кафэ.
Чакаю цябе.

***

Сон летняй жанчыны,
як жнівеньскі яблык на сонцы —
млявы і цёплы.

***

У краіне чужой вулічны музыкант-мурын
граў знаёмую мелодыю.
Успамін пра Радзіму.

***

Стары драўляны дом,
абкладзены сярпом шматпавярховак.
Забытая маленькая радзіма.

***

Стомлены сон удвух.
Нават і ў гэта імгненне
не магу адзіноты пазбыцца.

***

Лісце пажоўклае ў садзе бацькоў —
адзіная спадчына
блуднаму сыну.

***

Засохлая стрыбаўка,
якім цябе летам прыдбаў?
Успамін пра дзяцінства.

Сяргей ПАТАРАНСКІ

***

Начное метро.
Вецер нюхае
Мармуру пах.

***

Дуб у полі маўчыць.
Снег на голлі
замест лісця.

***

Дзень, як прусак,
прабег — і
не пакінуў слядоў.

***

Аблокі,
як думкі мае,
плывуць, не маючы межаў.

***

Мятлушка,
які кароткі твой сон,
як маё жыццё.



# Умбэрта Эка

*Няшчасце, якое знявечыла імя Тамаша Аквінскага, здарылася ў 1323 г., праз два гады пасля смерці Дантэ, і, магчыма, таксама трохі па яго віне: а менавіта тады, калі Джавані XXII вырашыў зрабіць Тамаша Аквінскага святым. Гэта тое самае, што атрымаць Нобелеўскую прэмію, быць абраным у члены Французскай Акадэміі, займець Оскара. Становішся, як і ў Джаконды: клішэ. Гэтакім чынам вялікі падпальшчык ператвараецца ў пажарніка.*

# Пра ЯГО

**У** мбэрта Эка – гісторык культуры сярэднявечча, семіётык, пісьменнік, даследчык сіндромаў фанатызму, падазронасці і гвалту. Нарадзіўся **5 студзеня 1932** года ў Александрыі (Італія) у сям'і Джуліо Эка і Джаванны Бізіё.

**1954** – скончыў Турынскі універсітэт, атрымаўшы тытул доктара філасофіі.

**1954–1956** – працуе рэдактарам культурных праграмаў на RAI (Радыё і тэлебачанне Італіі).

**1956** – выходзіць першая кніга Умбэрта Эка "Эстэтычная праблематыка ў Тамаша Аквінскага" (выпраўлены варыянт – у **1976; 1988** – кніга выдаецца па-англійску).

**1956–1963** – чытае лекцыі па эстэтыцы ў Турынскім універсітэце.

**1963** – "Адкрыты тэкст", "Дзённік-мінімум" (выпраўленае выданне ў **1976**).

**1964–1965** – лектар факультэта архітэктуры Міланскага універсітэта.

З **1965** года вядзе рубрыку "Пошта Мінервы" ў часопісе "Экспрэса".

**1966** – "Паэтыка Джойса".

**1966–1969** – займае пасаду прафесара візуальнай камунікацыі Фларэнцыйскага універсітэта.

**1967** – "Заўвагі па семіялогіі і візуальнай камунікацыі".

**1968** – "Вызначэнне мастацтва".

З **1969** года з лекцыямі наведвае розныя універсітэты Еўропы і Амерыкі: Нью-Йоркскі (**1969–1970**), Паўночна-заходні (**1972**), Йельскі (**1977, 1980, 1981**), Калумбійскі (**1978, 1984**).

**1970–1971** – прафесар семіётыкі Міланскага політэхнічнага універсітэта; з 1971 года займае аналагічную пасаду ў Балонскім універсітэце.

**1971** – выходзіць кніга "Формы зместу".

**1972** – выдадзеныя працы "Хлуслівае вінаградная лісце" і "Эстэтыка і тэорыя інфармацыі".

**1972** – Эка абіраецца генеральным сакратаром Міжнароднай асацыяцыі па даследаванні семіётыкі, з 1979 года ён віцэ-прэзідэнт гэтай асацыяцыі.

**1975** – "Трактат па агульнай семіётыцы".

**1976** – працы "На перыферыі імперыі" і "Гісторыя адной рэвалюцыі, якая некалі была эксперыментам у Вадуцы". На англійскай мове выходзіць "Тэорыя семіётыкі".

**1977** – "Як робіцца дыплом".

**1979** – "Чаму мы робім і навучаем мастацтву"; па-англійску – "Даследаванні па семіётыцы тэксту".

**1981** – выходзіць у свет першая мастацкая кніга Умбэрта Эка "Імя ружы", якая адразу ж стала бестселерам у Італіі і па-за яе межамі і прынесла аўтару сусветную вядомасць. У тым самым годзе Эка атрымаў за раман прэміі Стрэга і Аньяры, а ў 1982 годзе – прэмію "Лос-Анджэлес Таймс" за лепшы замежны раман. Крытычнае вывучэнне рамана пачалося адразу ж, і зараз існуе вялікая бібліяграфія па гэтай кнізе.

**1984** – "Сем гадоў жаданняў" (1977–1983). На хвалі цікавасці да першага рамана Эка піша "Постскрыптум да "Імені ружы". На англійскай мове выходзіць праца "Семіётыка і філасофія мовы".

**1986** – "Падарожжа ў гіперрэальнасць".

**1988** – з'яўляецца другі раман Эка "Маятнік Фуко" (іншы перакладны варыянт назвы — "Ківач Фуко"). Твор таксама становіцца папулярным і добра купляецца, але ён расчараваў многіх чытачоў, якія спадзяваліся ўбачыць у ім другое "Імя ружы". Многія крытыкі мяркуюць, што Эка празмерна захапіўся цяжкімі для разумення алюзіямі. Сюжэт і кампазіцыя рамана добра прадуманыя, але "Маятнік Фуко" створаны для таго, каб зачароўвацца, а не чытаць.

**1990** – Умбэрта Эка становіцца ганаровым доктарам літаратуры універсітэта Глазга.

**1993** – "Няправільныя тлумачэнні".

**1994** – выходзіць трэці раман Умбэрта Эка "Востраў напярэдадні" (іншы перакладны варыянт назвы – "Выспа ўчарашняга дня"; у перакладзе на беларускую мову ўрывак з гэтага рамана друкаваўся ў "Нашай Ніве" 29 сакавіка 1996 г.). Твор называюць лепшым з трох раманаў, ён становіцца вельмі папулярным і захоплена прымаецца як чытачамі, так і крытыкамі.

**1995** – "Пошук дасканалай мовы".

**1998** – чацвёрты мастацкі тэкст "Качканос". Твор з'явіўся зусім нядаўна, таму цяжка меркаваць аб яго папулярнасці і мастацкай вартасці. Выходзяць "Пяць эсэ на тэмы этыкі" і "Эсэ аб праблемах семіётыкі і масавай камунікацыі".

**1998**... і па сённяшні дзень — Умбэрта Эка займаецца навуковай дзейнасцю, працягвае кар'еру навукоўца і літаратара, бярэ ўдзел у міжнародных філасофскіх канферэнцыях, супрацоўнічае ў шматлікіх энцыклапедыях (у тым ліку ў "Энцыклапедыі філасофіі" і "Энцыклапедычным слоўніку па семіётыцы"), з'яўляецца ганаровым правамоцным сябрам управы фонду Джэймса Джойса. Жыве ў Італіі, але амаль увесь час праводзіць у Парыжы.

**Падрыхтаваў Андрэй СЯДЛЯР.**

Умбэрта ЭКА

# ПАХВАЛА СВЯТОМУ ТАМАШУ

Найвялікшае няшчасце напаткала Тамаша Аквінскага не 7 сакавіка 1274 г., калі ён памёр у Фасанова, ледзь маючы сорак дзевяць гадоў, і манахі не змаглі пранесці ягонае цела па лесвіцы, настолькі ён быў тоўсты. І не праз тры гады пасля ягонай смерці, калі арцыбіскуп парыжскі Стэфана Тэмп’е выдаў спіс ерэтычных палажэнняў (дзвесце дзевятнаццаць), якія змяшчаў большую частку тэзаў авераістаў пра зямную любоў, прапанаваных сто гадоў таму Андрэа іль Капелана, і дваццаць палажэнняў з даведзенай атрыбуцыяй, што іх аўтарства належыць ангельскаму доктару Тамашу з паноў Аквінскіх. Таму што гэты рэпрэсіўны акт атрымаў справядлівы прысуд гісторыі, і Тамаш, хаця і мёртвы, выйграў бітву, а Стэфана Тэмп’е апынуўся разам з Гільельма дзі Сант-Аморэ, іншым ворагам Тамаша, у сонме, які, на жаль, вечна аднаўляецца, вялікіх “рэстаўратараў”, што пачынаецца ад суддзяў Сакрата, працягваецца суддзямі Галілея і часова канчаецца Габрыа Ламбардзі. Няшчасце, якое знявечыла імя Тамаша Аквінскага, здарылася ў 1323 г., праз два гады пасля смерці Дантэ, і, магчыма, таксама трохі па яго віне: а менавіта тады, калі Джавані XXII вырашыў зрабіць Тамаша Аквінскага святым. Гэта тое самае, што атрымаць Нобелеўскую прэмію, быць абраным у члены Французскай Акадэміі, займець Оскара. Становішся, як і ў Джаконды: клішэ. Гэтакім чынам вялікі падпальшчык ператвараецца ў пажарніка.

У гэты час адзначаецца сямісотгоддзе з дня смерці Тамаша. Ён зноў уваходзіць у моду як святы і як філосаф; грамадства цікавіць, што рабіў бы Тамаш

сёння, калі б меў веру, культуру і інтэлектуальную энергію сваіх часоў? Але любоў настолькі засціць людскі розум, што калі яны хочуць сказаць пра веліч Тамаша, то кажуць: ён быў рэвалюцыянерам; а трэба б ведаць, у якім сэнсе ён быў ім: хіба ён хоць што-кольвек разбураў? Не, ён заўсёды быў дойлідам, ён узвёў пабудову настолькі грунтоўную, што потым ніводзін іншы рэвалюцыянер не здолеў скалануць яе знутры: самае большае, што можна было зрабіць, ад Дэкарта да Гегеля, Маркса і далей да Шардэна, – гэта бурыць яе "звонку".

Больш таго, незразумела, якім чынам мог выклікаць хаця б скандал гэты маларамантычны, тоўсты і адсталы ў навуцы тыпус, які ў школе прымаў моўчкі і з выглядам поўнага неразумення адзнакі пакарання і з якога здзекваліся ўсе аднакласнікі. Калі ён сядзеў у кляштары на сваёй падвоенай лаве за сталом (трэба было пабурыць прасценак, каб зрабіць дастаткова прасторную келлю), а браты-жартаўнікі крычалі яму, што на двары лятае асёл, то Тамаш бег паглядзець, пакуль тыя душыліся ад смеху (вядома, што манахі-жабракі прастадушныя), пасля Тамаш (які не быў дурнем) казаў, што яму здавалася больш верагодным, калі асёл лётае, чым калі манах хлусіць, і манахам рабілася няміла.

А потым гэты студэнт, якога аднакласнікі называлі нямым валом, стаў прафесарам, якім захапляліся вучні; аднойчы ён шпацыраваў па пагорку з вучнямі і глядзеў на Парыж з вышыні, а яны спыталі яго: ці хацеў бы ён быць гаспадаром гэтага прыгожага горада? На што ён адказаў: куды болей я хацеў бы быць гаспадаром тэксту "Амелій" святога Хрызастома; але калі адзін ідэалагічны вораг насаліў яму, ён пераўтвараўся ў дзікага звера і вось на той лаціне, якая, здаецца, небагатая на словы і зразумелая цалкам, бо дзеясловы стаяць менавіта там, дзе іх чакае італьянец, ён выбухае нечаканымі праклёнамі і сарказмамі, так што становіцца падобны на Маркса, калі той пляжыць сіньёра Сэліга.

Быў ён дабраком, быў анёлам? Быў бясполым? Калі браты хацелі забараніць яму стаць дамініканцам (бо ў тую эпоху атожылак шляхетнай сям'і ішоў у бенедыкцінцы, што было дастойным учынкам, а не ў жабракі, што было б, як сёння ўступіць у камуну "Служым Народу" або пайсці працаваць з Даніла Дольчы), схапілі

яго на шляху ў Парыж і зняволілі ў родавым замку – ён уцёк з палону. Потым, каб вырваць яго з прыхамаці і зрабіць з яго абата як мае быць, яму паслалі ў пакой голую і гатовую на ўсё дзеўку. Тамаш схапіў галавешку і пабег за дзеўкай з ясным намерам прыпаліць ёй клубы. Дык што, ніякага сексу? Хто ведае, але гэтая рэч яго даймала настолькі, што з той пары – і пра гэта распавядае Бернарда дзі Гвіда, – “размоў з жанчынамі, калі ў гэтым не было крайняй неабходнасці, ён пазбягаў, нібыта тыя былі змеямі”.

У любым выпадку гэты чалавек быў барацьбітом. Настойлівы, з ясным розумам, ён складае амбіцыйны план, даводзіць яго да канца і перамагае. Мы цяпер добра ведаем, якімі былі арэна барацьбы і атрыманыя заваёвы. За пяцьдзесят гадоў да нараджэння Тамаша італьянскія камуны выйгралі бітву пры Леньяна супраць Імперыі, за дзесяць гадоў – Англія набывае “Вялікую Хартыю”. У Францыі толькі што скончылася караляванне Філіпа Аўгуста. Імперыя ў агоніі. Праз пяць гадоў свабодныя паўночныя прыморскія і гандлёвыя гарады створаць Ганзу. Фларэнційская эканоміка разгортвае экспансію, там раскрываецца залатая кветачка; Фінабачы ўжо вынайшаў двайную бухгалтэрыю, цэлае стагоддзе квітнеюць медыцынская школа ў Салерна і юрыдычная школа ў Балоньі. Крыжовыя выправы на ўздыме. Трэба сказаць, што кантакты з Усходам бурна развіваюцца. З другога боку, арабы ў Іспаніі захапляюць усю адукаваную Еўропу сваімі навуковымі і філасофскімі адкрыццямі. Тэхніка перажывае імклівае развіццё: зменены метад падкоўкі коней, кіравання млынамі, судаваджэння, вупражы цяглавых і ездавых жывёлаў. Нацыянальныя манархіі на поўначы і свабодныя камуны на поўдні. Адным словам, гэта зусім не тое “цёмнае” сярэднявечча, як мы вульгарна звыкліся лічыць.

Еўропа імкнулася засвоіць культуру палітычнага і эканамічнага плюралізму, які заставаўся б пад бацькоўскім патранажам Царквы (што нікім не ставілася пад сумнеў), але адкрываў новае разуменне прыроды, канкрэтнай рэчаіснасці і чалавечай індывідуальнасці. А дзеля гэтага належала знайсці інтэлектуальныя метадыкі, якія адпавядалі б рацыяналізаваным арганізацыйным і вытворчым працэсам.

Калі Тамаш нарадзіўся, гэтыя інтэлектуальныя методыкі выпрацоўваліся ўжо на працягу стагоддзя. У Парыжы на факультэце мастацтваў яшчэ па-ранейшаму выкладаюцца музыка, арыфметыка, геаметрыя і астраномія, а вось дыялектыка, логіка і рыторыка – ужо па-новаму. Стагоддзе таму назад Абеляр аднавіў рэпрадуктыўны апарат: ягоны метад заключаўся ў сутыкненні розных традыцыйных аўтарытэтаў і ў прыняцці рашэння паводле лагічных разважанняў, заснаваных на свецкай "граматыцы ідэяў". Распрацоўваюцца лінгвістыка і семантыка; задаюцца пытанні: што азначае пэўнае слова і ў якім сэнсе яно выкарыстоўваецца? Арыстоцелевы тэксты па логіцы становяцца навучальнымі падручнікамі, але не ўсе яны яшчэ перакладзены і даследаваны, бо ніхто не ведае грэцкую, акрамя арабаў, якія далёка абагналі еўрапейцаў як у філасофіі, так і ў навуцы. Але ўжо стагоддзе таму Шартрская школа, зноў адкрыўшы матэматычныя тэксты Платона, сканструявала мадэль Сусвету на аснове геаметрычных законаў і працэсаў, што паддаюцца вымярэнню. Гэта яшчэ не эксперыментальны метад Роджэра Бэкана, але ўжо тэарэтычная канструкцыя, якая заклікае растлумачыць Сусвет, грунтуючыся на натуральных асновах, хоць прырода і разглядаецца як Боскі прадукт. Рабэрта Гросатэста выпрацоўвае метафізіку светлавой энергіі, якая трошкі нагадвае Бергсана і трошкі – Эйнштэйна; нараджаюцца даследаванні ў оптыцы, закранаецца праблема ўспрыняцця фізічных аб'ектаў, вызначаецца мяжа паміж галюцынацыяй і рэальнасцю.

Апошняе вельмі істотна, бо Сусвет "высокага" сярэднявечча быў Сусветам галюцынацый, сімвалічным лесам, населеным загадкавымі стварэннямі: рэальнасць бачылася ў выглядзе беспераплыннага апавядання пра Боства, а грамадства бавіла час у чытанні і рэдагаванні Загадкавага Тыдня. Гэты свет галюцынацыі ў часы Тамаша не знік пад ударамі святла розуму, бо і сам розум як прадукт інтэлектуальных элітаў заставаўся яшчэ пад падазрэннем у мас. Таму святы Францыск прамаўляе да птушак, але філасофскі запал яго тэалогіі неаплатанічны. Разам усё гэта азначае: недзе далёка-далёка знаходзіцца Бог, у недаступнай розуму глабальнасці якога віруюць пачаткі рэчаў ды ідэяў; Сусвет – вынік лагоднай забавы гэтага непамерна

аддаленага Некага, які, здаецца, паволі апускаецца ўсё ніжэй, пакідаючы сляды сваёй дасканаласці ў засохлых згустках матэрыі, у вадкасці субстанцыі. У гэтай вадкасці субстанцыі, якая прадстаўляе найбольш даступную перыферыю Некага, мы можам знайсці, але амаль заўсёды – праз азарэнне загадкавага генія, сляды парасткаў разумення ісціны, аднак сама ісціна знаходзіцца дзесьці далёка, і можна толькі спадзявацца, што аднойчы прыйдзе містык з неверагодна вострай нервовай і амаль бесцялеснай інтуіцыяй, які пранікне затуманеным вокам у свавольствы Некага, дзе адбываецца адзінае і сапраўднае свята.

Платон і Аўгусцін сказалі ўсё, што трэба, каб зразумець праблемы душы, але што такое кветка або блытаніна кішак, якую салернскія лекары даследавалі ў жываце хворага, і чаму прыемна глынуць свежага паветра веснавым вечарам, – гэта заставалася незразумелым. Таму лічылася за лепшае ведаць кветкі паводле мініяцюр візіянераў, ігнараваць існаванне кішак і лічыць веснавыя вечары небяспечнай спакусай. Такой была тады еўрапейская культура, у якой разумелі неба і не разумелі зямлю. А калі хто-небудзь хацеў зразумець зямлю, не цікавячыся небам, то гэта для яго канчалася кепска. Навокал блукалі чырвоныя брыгады той эпохі – ерэтычныя секты, якія, з аднаго боку, хацелі аднавіць свет, стварыць вольныя рэспублікі, а з другога – практыкавалі садамію, крадзеж ды іншыя гнюснасці. Трэба было б разабрацца, у чым іхняя праўда, але пакуль лепш забіць усіх.

Дык вось, прыкладна ў гэтую пару людзі розуму даведаліся ад арабаў, што ёсць старажытны настаўнік (грэк), які мог бы даць ключ для аб'яднання гэтых раскіданых частак культуры; і завуць яго Арыстоцель...

Арыстоцель умеў гаварыць пра Бога, але разам з тым і класіфікаваў жывёлаў, камяні ды цікавіўся рухам зорак. Да таго ж, ён ведаў логіку, займаўся псіхалогіяй, казаў пра фізіку, аналізаваў палітычныя лады. Але, перадусім, Арыстоцель прапанаваў ключы (і Тамаш здолее выкарыстаць іх магчымасці цалкам), каб раскрыць сувязь паміж сутнасцю рэчаў (гэта значыць тым, што ў рэчах можна зразумець і выказаць, калі нават рэчы не знаходзяцца тут, у нас перад вачыма) і матэрыяй, з якой зробленыя гэтыя рэчы. Механізм стварэння рэчаў – тут, перад нашымі вачыма, бо яны самі ёсць

першапрычынай свайго руху. Чалавек, кветка, камень – гэта арганізмы, якія выраслі паводле ўнутранага закона, які рухае імі: іх уласная сутнасць і ёсць першапрычына росту і арганізацыі. Заўсёды маецца нешта, што ўжо цяпер гатова выбухнуць новай з'явай, што рухае матэрыю знутры і прымушае яе расці і адкрывацца. А з гэтага вынікае, што мы можам зразумець матэрыю. Камень ёсць пэўнай колькасцю матэрыі, якая прыняла форму, – з гэтага шлюбу нараджаецца індывідуальная субстанцыя. Сакрэт існавання як такога Тамаш будзе тлумачыць штуршком натхнення і канкрэтным актам існавання. Існаваць, здарацца – гэта сітуацыя, у якой апынаюцца не ідэі, якім найлепш у цеплыні лона далёкага боства, а рэчы, хаця рэчы існуюць канкрэтна дзякуючы небу, таму мы іх разумеем.

Дарэчы, тут трэба ўдакладніць два моманты. Па-першае, паводле арыстоцелеўскай традыцыі, зразумець рэчы не азначае вывучыць іх эксперыментальна: дастаткова ўведаць, што кажуць самі пра сябе рэчы. Няшмат, калі хочаце, але і гэта ўжо значны рывок да свету з цьмянага Сусвету папярэдніх стагоддзяў. Па-другое, каб Арыстоцель мог быць хрысціянізаваны, трэба даць больш месца Богу ў ягоным вучэнні, бо пакуль Ён як бы на ўзбоччы. Хай сабе рэчы растуць ад жыццёвай сілы ўласнай першапрычыны, якая іх рухае, але трэба дапусціць, што Бог прымае да сэрца ўвесь гэты вялікі рух, ён думае пра камень, пакуль той самастойна становіцца каменем; але калі Бог вырашыць адключыць электрычны ток (які Тамаш называе "удзелам"), то будзе касмічнае "кароткае замыканне" і ўсё спыніцца. Такім чынам, сутнасць каменя ёсць у камені, яна ахопліваецца нашым розумам, які здольны апісваць яе, але гэткае магчыма толькі таму, што гэтая сутнасць ужо наперад існуе ў розуме Бога, поўнага ласкі, які бавіць дні, не даглядаючы свае пазногці, а забяспечваючы Сусвет энергіяй. Такая была прыдуманая гульня, інакш Арыстоцель не ўпісаўся б у хрысціянскую культуру, а калі б Арыстоцель заставаўся па-за яе рамкамі, то там жа заставаліся б прырода і розум.

Між іншым, гэта была вельмі складаная гульня, таму што арыстоцелеўцы, якіх Тамаш меў перад сабой, калі пачынаў працаваць, абралі іншы шлях, які, магчыма, спадабаўся б нам больш і які інтэрпрэтатар, схільны да гістарычных кароткіх замыканняў,

мог бы нават вызначыць як матэрыялістычны, хаця то быў матэрыялізм мінімальна дыялектычны, хутчэй астралагічны, аднак і такім ён непакоіў патроху ўсіх, ад служыцеляў Карана да служыцеляў Евангелля. Адказнасць за гэта стагоддзе назад узяў на сябе Авероэс, мусульманін паводле культуры, бербер паводле нацыянальнасці, іспанец паводле грамадзянства, араб паводле мовы. Авероэс ведаў Арыстоцеля лепш за ўсіх і зразумеў, куды вядзе арыстоцелеўская навука: Бог не аканом, які ўмешваецца ва ўсё, ён стварыў прыроду з яе механічным парадкам і яе матэматычнымі законамі, якую рэгулюе жалезная прадвызначанасць зорак, з чаго бачна, што Бог вечны і вечны таксама Сусвет з ягоным парадкам. Філасофія даследуе гэты парадак і непасрэдна прыроду. Людзі здольныя зразумець яе, таму што ва ўсіх іх дзейнічае адзін і той жа прынцып разумнасці, а калі б гэта было не так, то кожны бачыў бы рэчы па-свойму і мы б ніколі не паразумеліся паміж сабой. З такога гледзішча матэрыялістычная выснова была непазбежнай: свет вечны, і ён рэгулюецца прадвызначаным дэтэрмінізмам. Гэта папершае. А па-другое, паколькі адзіны інтэлект жыве ва ўсіх людзях, то індывідуальнай несмяротнай душы не існуе. Калі Каран кажа інакш, філосаф павінен па-філасофску верыць у тое, што дэманструе яму ягоная навука, а потым, надта не губляючыся, верыць у адваротнае, што дыктуе яму вера. Ёсць дзве праўды, і адна з іх не павінна замінаць другой.

Авероэс даводзіць да бліскучага заканчэння тое, што было ўнітавана ў строгі арыстоцелізм, і ў гэтым прычына поспеху, які ён атрымлівае ў Парыжы ў выкладчыкаў факультэта мастацтваў, у прыватнасці ў Сігерыя Брабанцкага, якога Дантэ змяшчае ў Раі побач са Святым Тамашом, хоць з-за Тамаша ляснула “навуковая кар’ера” Сігерыя і ён трапіў толькі ў другарадныя раздзелы падручнікаў па гісторыі філасофіі.

Культурна-палітычная гульня, у якую Тамаш спрабуе згуляць, мае падвойны характар: з аднаго боку, адаптаваць Арыстоцеля ў тэалагічную навуку эпохі, з другога – вывесці яго з той ролі, якую надалі яму авераісты. Але робячы гэта, Тамаш сутыкаецца з дэструктыўнай перашкодай, бо ён належыць да жабрацкага ордэна, які меў няшчасце запусціць у абарот Джаакіна

да Ф'ёрэ і цэлую кодлу іншых апакаліптычных ерэтыкоў, якія вельмі небяспечныя для існуючага ладу і непасрэдна для Царквы ды Дзяржавы. З чаго рэакцыянеры-выкладчыкі факультэта тэалогіі на чале з апантаным Гільельма дзі Сант-Аморэ атрымалі козыр, каб сказаць, што ўсе манахі-жабракі – джаакінцы, бо яны хочуць выкладаць Арыстоцеля, які ёсць настаўнік матэрыялістычных атэістаў-авераістаў. Вы бачыце, што гэта гульня Габрыа Ламбардзі: хто за развод, той сябра таго, хто за аборт, а значыць, ён за наркотыкі...

Аднак Тамаш не быў ані ерэтыком, ані рэвалюцыянерам. Сам сябе ён назваў "згоднікам". Ягонай задачай было дасягненне згоды паміж новай навукай аналізу і ранейшай навукай азарэння; ён хацеў змяніць усё, але каб пры гэтым нічога не змянілася.

І ў гэтым плане ён паказвае нам выключна здаровы сэнс і як майстра тэалагічных тонкасцяў, і як прыхільнік натуральнай рэчаіснасці і зямной раўнавагі. Ясна, што Тамаш не арыстоцелізуе хрысціянства, а хрысціянізуе Арыстоцеля. Ясна, што ён ніколі не думаў, быццам розумам можна зразумець усё або што ўсё можна зразумець верай; ён хацеў толькі сказаць, што вера не супярэчыць розуму і з гэтага можна дапусціць раскошу разважання розумам, калі цябе пакідае стан азарэння. Адсюль становіцца зразумелым, чаму ў архітэктуры ягоных твораў на пачатку раздзелаў гаворыцца пра Бога, анёлаў, душу, добрыя якасці, вечнае жыццё, а ўнутры – пра розум. Гэтак арганізаваная тэалагічная архітэктура дазваляе Тамашу растлумачыць, чаму чалавек ведае пра сутнасць рэчы, чаму ягонае цела створана пэўным чынам, чаму, каб прыняць рашэнне, ён павінен даследаваць факты і звесткі, чаму, каб перамагчы супярэчнасці, ён мусіць не хавацца ад іх, а аналізаваць. Тым самым Тамаш усталёўвае для Царквы дактрыну, якая, не пазбаўляючы яе ані на гран улады, дае волю грамадствам самім вырашаць, быць ім манархіямі або рэспублікамі, і самім вырашаць праблему ўласнасці, не адмаўляючы нават такога сцвярджэння, што права ўласнасці існуе, але толькі адносна маёмасці, а не яе выкарыстання. Гэта значыць, што я маю права валодаць домам на вія Тыбальдзі, але калі ёсць людзі, якія жывуць на вуліцы, я павінен дазволіць бяздомным карыстацца маім жытлом (я застаюся гаспадаром дома,

яле і бадзягі могуць жыць тут, нават калі гэта не пасуе майму эгаізму). І гэтак далей. Усе падобныя рашэнні заснаваныя на раўнавазе і на той якасці, якую Тамаш называе "разважлівасцю", сутнасць якой – у "захаванні памяці пра атрыманы досвед, у валоданні дакладна сфармуляванымі мэтамі, у заўсёднай увазе да сувязяў, рацыянальным і прагрэсіўным даследаванні, прадбачанні будучых выпадковасцяў, пазбяганні складанасцяў і разрозніванні непадобных умоваў".

Сам Тамаш дасягнуў гэтага, бо быў містыкам, які ні на імгненне не губляў літасцівага вобразу Бога, да якога чалавечая душа цягнецца *"per natura"*[1], але разам з тым заставаўся ўважлівым да натуральных каштоўнасцяў і меў павагу да рацыянальнага разважання.

Не будзем забываць, што да яго, калі каментатар або капііст вывучаў тэкст антычнага аўтара і сустракаў нешта, што не адпавядала рэлігійнаму азарэнню, то ён або выкрэсліваў "памылковыя" сказы, або падкрэсліваў іх сумнеўны сэнс, каб звярнуць на гэта ўвагу чытача. А што ж робіць Тамаш? Вылучае думкі, адхіленыя ад нормы, высвятляе сэнс кожнай з іх, усё ставіць пад сумнеў, пералічвае магчымыя пярэчанні і ў выніку спрабуе дасягнуць пагаднення паміж верай і розумам. Да таго ж, усё робіць публічна, бо публічным быў у ягоныя часы *"disputatio"*[2]: пачынае дзейнічаць трыбунал розуму.

Зрэшты, у любым выпадку вера прэвалюе над усім і менавіта Бог ды праўда азарэння прадвызначаюць і кіруюць рухам свецкага розуму; гэта было высветлена найбольш праніклівымі і апантанымі навукоўцамі-тамістамі – такімі, скажам, як Джылсан.

Ніхто ніколі не казаў раней, што Тамаш быў Галілеем. Тамаш проста забяспечыў Царкву дактрынальнай сістэмай, якая прывяла яе да згоды з натуральным светам. І гэтым ён дасягнуў бліскучай перамогі. Мяркуйце самі. Да яго сцвярджалася, што "не пануе дух Хрыста там, дзе жыве дух Арыстоцеля", у 1210 г. яшчэ забароненыя кнігі грэцкага філосафа па філасофіі прыроды, і забароны дзейнічаюць у наступныя дзесяцігоддзі, калі Тамаш дае гэтыя

[1] **Per natura** *(лац.)* – па натуры.
[2] **Disputatio** *(лац.)* – абмеркаванне.

тэксты на пераклад сваім супрацоўнікам і каментуе іх. І ў 1255 г. увесь Арыстоцель прымаецца да выкарыстання. Пасля смерці Тамаша, як мы бачылі, робіцца яшчэ адна спроба рэакцыі, але ўрэшце каталіцкая дактрына становіцца на арыстоцелеўскія пазіцыі. Духоўнае панаванне і аўтарытэт, скажам, Крочэ ў італьянскай культуры на працягу пяцідзесяці гадоў ёсць нішто ў параўнанні з аўтарытэтам, які дэманструе Тамаш, цалкам змяняючы за сорак гадоў культурную палітыку хрысціянскага свету. Потым на ягоным наробку ўзнікае тамізм. Гэта значыць, што Тамаш забяспечыў каталіцкую думку настолькі ідэальнай схемай, у якой усё знаходзіць свае месца і тлумачэнне, што з тае пары каталіцкая думка не насмельваецца змяняць ужо нічога. Найзначнейшае, што робіць контррэфармацыйная схаластыка, – гэта перапрацоўвае Тамаша, усталёўвае езуіцкі тамізм, дамініканскі тамізм, нават францысканскі тамізм, дзе віруюць цені Банавентуры, Дунса Скота і Акхема. Але самога Тамаша ўжо нельга чапаць. І што з гэтага атрымалася? Тое, што ў Тамаша было канструктыўным імпэтам новай сістэмы, у таміцкай традыцыі становіцца кансерватыўнай насцярожанасцю недатыкальнай сістэмы. Там, дзе Тамаш усё іначыў, каб будаваць нанова, схаластыка ладзіць дзіўныя нумары псеўдатаміцкай эквілібрыстыкі, каб змясціць новае ў лад сістэмы Тамаша. Адсюль напружанне і прага ведаў, якімі тоўсты Тамаш валодаў у максімальнай ступені, пераходзяць да ерэтычных рухаў і пратэстанцкай рэформы. Ад Тамаша засталася схема, якая ў свой час у прынцыпе была сапраўды "інакшай".

Віна, натуральна, была таксама і яго: гэта ён запрапанаваў Царкве метад напружання дзеля бесканфліктнага ўключэння ў сістэму ўсяго, чаго немагчыма было абысці. Гэта ён навучыў канкрэтна вызначаць супярэчнасці, каб потым прыводзіць іх у суладдзе. Аднойчы прызвычаіўшыся, яны назаўсёды паверылі – гэты бясхібны Тамаш навучыў нас ставіць "ні так, ні не" там, дзе ўзнікае супярэчнасць паміж "так" і "не". Толькі Томаш рабіў гэта ў момант, калі сказаць "ні так, ні не" азначала не спыніцца, а зрабіць крок наперад і адкрыць карты на стале.

Зразумела, сёння можна пытацца, што зрабіў бы Тамаш Аквінскі, калі б жыў у наш час, але ў любым выпадку ён не напісаў бы зноў "Суму Тэалогіі". Ён звёў бы рахункі з марксізмам, з

рэлятывісцкай фізікай, з фармальнай логікай, з экзістэнцыялізмам і з фенаменалогіяй. Ён каментаваў бы не Арыстоцеля, а Маркса і Фрэйда. Потым ён змяніў бы метад аргументацыі, які стаў бы трохі менш гарманічным і менш прымірэнчым. І ўрэшце ён зразумеў бы, што не можа і не павінен выпрацоўваць канчатковую сістэму, завершаную, як архітэктурная забудова, а мусіць стварыць нейкую мабільную сістэму, "Суму" з заменнымі аркушамі, бо ў ягоную энцыклапедыю навук увайшло б паняцце гістарычнай часовасці... Не магу сказаць, ці застаўся б ён хрысціянінам. Але прымем гэтую магчымасць на веру.

І яшчэ: я ўпэўнены, што ён узяў бы ўдзел у сваіх юбілейных урачыстасцях толькі дзеля таго, каб нагадаць, што справа не ў пытанні, як цяпер выкарыстоўваць тое, што ён вынайшаў, а ў тым, каб думаць аб ужо іншым шляху. У скрайнім выпадку, вучыцца яго чысціні думання, каб быць чалавекам свайго часу. А ў прынцыпе я не хацеў бы быць у ягонай скуры.

*1974 г.*

# *ДА НОВАГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА*

**У** апошні час і з усіх бакоў пачалі казаць пра нашу эпоху як пра новае сярэднявечча. Праблема ў тым, што маецца на ўвазе: прадказанне ці канстатацыя? Іншымі словамі, мы ўжо ўступілі ў Новае сярэднявечча альбо, як выказаўся Рабэрта Вака ў адной сваёй палемічнай кнізе: "Ці наступяць сярэднія вякі ў бліжэйшай будучыні?" У тэзісе Вака прадугледжваецца дэградацыя вялікіх сістэмаў, тыповых для тэхналагічнай эры, надта агромністых і складаных, каб каардынавацца цэнтральнай уладай і каб быць падкантрольнымі ў індывідуальным парадку

эфектыўнаму менеджэрскаму апарату; згодна Вака, ім наканаваны калапс праз гульню супярэчлівых паўтарэнняў, які выкліча рэгрэс усёй індустрыяльнай цывілізацыі. Разгледзім гэта ў невялікай гіпотэзе, больш апакаліптычнай, чым задуманая Вака, у свайго роду футуралагічным "сцэнары".

## 1. Праект Апакаліпсісу

Аднойчы ў Злучаных Штатах выпадковае супадзенне дарожнага затору і паралюша руху на чыгунцы не дазволіла працоўнай змене дабрацца да вялікага аэрапорта. Змучаныя стрэсамі дыспетчары незамененай брыгады, накіроўваючы на пасадку два авіялайнеры, дапусцілі іх сутыкненне, і тыя ўпалі на высакавольтную лінію, ток якой пацёк па перагружаных дратах, правакуючы замыканне, падобнае на тое, якое зведаў Нью-Йорк некалькі гадоў таму. Толькі яно было больш татальным і працягвалася некалькі дзён. Да таго ж, усчалася мяцеліца і вуліцы знерухомелі, бо аўтамабілі стварылі пачварныя заторы, у офісах запальвалі вогнішчы, каб сагрэцца, з гэтага ўзніклі пажары, да якіх не маглі даехаць патушыць пажарнікі. Тэлефонная сетка ляснула пад націскам пяцідзесяці мільёнаў ізаляваных абанентаў, якія імкнуліся звязацца адзін з адным па тэлефоне. Пачаліся спробы руху праз завею і з гэтага з'явіліся мёртвыя на ўзбочынах дарог.

Пазбаўленыя ўсіх рэсурсаў, падарожнікі імкнуцца захапіць месцы для начлегу і склады з харчам, з чаго ўступаюць у дзеянне мільёны адзінак агнястрэльнай зброі. Узброеныя сілы бяруць усю ўладу ў свае рукі, але і яны таксама становяцца ахвярамі ўсеагульнага паралюша. Разрабаваныя універмагі, у дамах канчаюцца запасы свечак, расце колькасць памерлых ад холаду і недаядання ў шпіталях. Калі праз некалькі тыдняў з цяжкасцю ўдаецца аднавіць нармальнае жыццё, мільёны трупаў, якімі засыпаны гарады і палі, пачынаюць распаўсюджваць эпідэміі, што нясуць няшчасці, па маштабах роўныя чорнай чуме, якая ў XIV стагоддзі знішчыла дзве трацiны насельніцтва Еўропы. Узнікаюць

псіхозы "вінаватых", і ўсталёўваецца новы макартызм, яшчэ больш люты за папярэдні. Агульнае палітычнае жыццё, трапіўшы ў крызіс, падзяляецца на серыю падсістэм, аўтаномных і незалежных ад цэнтральнай улады, з наёмнымі сіламі аховы і аўтаномнай прававой адміністрацыяй. Крызіс пашыраецца, лягчэй яго пераадольваюць жыхары недаразвітых раёнаў, бо яны больш падрыхтаваныя жыць у элементарных умовах. Пачынаюцца магутныя міграцыі, што суправаджаецца варожым сутыкненнем і перамешваннем розных рас, імпартам і распаўсюджваннем новых ідэалогій. Ва ўмовах аслаблення моцы законаў, знішчэння кадастраў, уласнасць абапіраецца толькі на права даўніны валодання. Імклівы заняпад пераўтварае гарады ў зоны руінаў, якія мяжуюць з дамамі, дзе жывуць тыя, хто захапіў іх, а слабыя мясцовыя органы кіравання захоўваюць пэўную ўладу, толькі будуючы ўмацаванні і малыя фартыфікацыі. Наступае момант, калі поўнасцю ўсталёўваецца феадальная структура, хаўрусы паміж мясцовымі ўладамі трымаюцца на кампрамісе, а не на законе: індывідуальныя адносіны грунтуюцца на агрэсіі, на прыяцельскіх стасунках або на агульным інтарэсе, адраджаюцца даўнія звычаі гасціннасці ў дачыненні да падарожнікаў. На парозе такой перспектывы, кажа нам Вака, не застаецца іншага, як падумаць над планам эквівалентаў кляштарных супольнасцяў, якія ва ўмовах татальнага заняпаду адразу ўзяліся б за акумуляванне і перадачу тэхнічных і навуковых ведаў, карысных для новага адраджэння. Як арганізаваць збор гэтых ведаў, як запабегнуць іхняму вычварэнню ў працэсе перадачы або ў выпадку, калі пэўныя супольнасці будуць выкарыстоўваць іх у мэтах павышэння сваёй магутнасці, – гэтыя і іншыя праблемы складаюць канцавыя і ў большай частцы спрэчныя раздзелы "Сярэднявечча ў бліжэйшай будучыні". Але пытанне (як было сказана напачатку) у іншым. У першую чаргу нам трэба вырашыць: Вака стварыў апакаліптычны сцэнар ці выявіў нешта, што ўжо ёсць. А ў другую чаргу, нам трэба вызваліць паняцце сярэднявечча ад адмоўнай аўры, якой атачыла яго пэўная культурніцкая публіцыстыка рэнесанснай натхнёнасці. Паспрабуем такім чынам зразумець, што маецца на ўвазе пад сярэднявеччам.

## 2. Альтэрнатыўны праект сярэднявечча

Пакуль мы пагодзімся, што гэты тэрмін азначае два вельмі адрозныя гістарычныя моманты: адзін, які працягваецца ад падзення Заходняй Рымскай імперыі да тысячнага года і з'яўляецца эпохай крызісаў, заняпаду, гвалтоўных перасяленняў народаў і сутыкненняў культур; другі бярэ пачатак ад тысячнага года і завяршаецца тым, што ў школе азначаецца як Гуманізм: з майго гледзішча, зусім слушна многія замежныя гісторыкі вызначаюць другі адрэзак як эпоху ў поўным росквіце. Дарэчы, нешта падобнае кажуць і пра Адраджэнне: адно Каралінгскае, другое – XI–XII стагоддзяў, і трэцяе – тое, якое вядома як менавіта Рэнесанс.

Дапусцім, што ўдалося сінтэтызаваць нешта накшталт абстрактных мадэляў сярэднявечча, то якой з дзвюх гэтых мадэляў будзе адпавядаць наша эпоха? Зрэшты, любая тоеснасць тэрмінаў будзе наіўнай, бо мы жывём у пару празмерна акселераваных працэсаў, калі тое, што адбываецца на працягу нашых пяці гадоў, адпавядае таму, што тады адбывалася на працягу пяці стагоддзяў. Да таго ж, сучасны свет пашырыўся на ўсю планету, сёння побач суіснуюць розныя цывілізацыі ў розных стадыях развіцця. Таму ў агульнапрынятых тэрмінах мы кажам пра "сярэднявечныя ўмовы жыцця" насельніцтва Бангладэш, разглядаем Нью-Йорк як квітнеючую Вавілонію, Пекін бачым у якасці мадэлі новай рэнесанснай цывілізацыі. Такім чынам паралель, калі праводзіць яе, можа быць усталяваная адно паміж некаторымі момантамі і сітуацыямі нашай планетарнай цывілізацыі і асобнымі момантамі гістарычнага працэсу, які доўжыўся з V па XIII стагоддзі дзікай эры. Зразумела, параўнанне дакладнага гістарычнага моманту (сёння) з перыядам амаль тысячагадовай даўніны нагадвае жарт без разынкі. Але тут мы не параўноўваем, а спрабуем выпрацаваць "гіпотэзу сярэднявечча" (прапануем сканструяваць сярэднявечча і разважаем, якія б інгрэдыенты спатрэбіліся, каб яно атрымалася эфектыўным і прымальным).

Нашая гіпотэза або мадэль будзе мець характарыстыкі ўсіх лабараторных стварэнняў: яна станецца вынікам выбару і фільтрацыі, а выбар будзе залежаць ад абранай мэты. У нашым выпадку мэтай з'яўляецца разгортванне гістарычнага вобраза,

паводле якога будуць вымярацца тэндэнцыі і сітуацыі нашага часу. Гэта будзе лабараторная гульня, але ніхто не сказаў, што гульні – бескарысная рэч. Гуляючы, дзіця вучыцца жыць у свеце, бо яно гуляе ў тое, што пасля будзе вымушана выконваць на самай справе.

Што нам трэба, каб зрабіць наноў добрае сярэднявечча? Перш за ўсё вялікі Свет, які расслойваецца, магутную міжнародную дзяржаўную ўладу, якая з'яднала чалавецтва мовай, звычаямі, ідэалогіяй, рэлігіяй, мастацтвам і тэхналогіяй і якая ў пэўны момант з-за сваёй уласнай некіруемай складанасці абвальваецца. Абвальваецца, таму што на межах з'яўляюцца "варвары", якія неабавязкова неадукаваныя, але нясуць новыя звычаі і новыя ўяўленні пра жыццё. Гэтыя варвары могуць пранікнуць да нас гвалтоўна, таму што хочуць завалодаць багаццем, у якім ім адмовілі, а могуць укараніцца ў сацыяльна-культурную плоць дамінуючага *Pax*[1] цалкам легальна, але аднолькава з гвалтаўнікамі распаўсюджваючы новыя вераванні і новыя перспектывы існавання. На пачатку свайго заняпаду Рымская імперыя не была знішчаная хрысціянскай этыкай, яна была падарваная александрыйскай культурай і ўсходнімі культамі Мітры і Астарты, магіяй, новымі сексуальнымі і этычнымі ўстаноўкамі, разнастайнымі вераваннямі і вобразамі збавення. Убіраючы ў сябе староннія расавыя кампаненты, яна міжвольна адмяніла многія класавыя падзелы, паменшыла разрыў паміж грамадзянамі і неграмадзянамі, патрыцыямі і плебеямі, і хаця захавала падзел багаццяў, але аслабіла розніцу паміж сацыяльнымі функцыямі, якія радыкальна абнавіліся. Яна спрыяла хуткаму акультурванню плебса, паслала ва ўрад людзей расаў, якія дзвесце гадоў таму лічыліся нізкімі, пазбавіла догмаў многія тэалогіі. У той час урад мог пакланяцца класічным багам, салдаты – Мітры, а рабы – Ісусу. Паводле інстынкту пераследуецца вера, якая здалёк здаецца найбольш забойчай для сістэмы, але, як правіла, рэпрэсіўная талерантнасць дазваляе прымаць усё, што знаходзіцца побач.

Калапс Вялікага *Pax* (усяго разам: ваеннага, цывільнага, сацыяльнага і культурнага) адкрывае перыяд эканамічнага крызісу і браку ўлады, але толькі ў новую пару ўмелая антыклерыкальная

---

[1] **Pax** *(лац.)* – свет.

рэакцыя змусіла нас убачыць Цёмныя Стагоддзі такімі "цёмнымі"; на самай справе "высокае" сярэднявечча (а яшчэ больш – сярэднявечча пасля тысячнага года) з'яўлялася эпохай неверагоднай інтэлектуальнай вітальнасці, імпэтных дыялогаў паміж варварскімі цывілізацыямі, рымскай спадчынай і хрысціянска-ўсходнімі пігментамі, падарожжаў і сустрэч, увішных ірландскіх манахаў, якія па ўсёй Еўропе распаўсюджвалі новыя ідэі, спрыялі адукацыі, вынаходзячы розныя дзівацтвы... Карацей кажучы, якраз там і тады выспеў сучасны заходні чалавек, і ў гэтым сэнсе мадэль сярэднявечча можа служыць нам дзеля ўразумення таго, што адбываецца ў нашы дні; з правалам вялікага *Pax* наступаюць крызісы і няпэўнасць, варагуюць і сутыкаюцца розныя цывілізацыі і з усяго гэтага паволі выяўляецца вобраз новага чалавека. Гэты вобраз зробіцца выразным значна пазней, але фундаментальныя элементы ягонай сутнасці ўжо булькацяць у драматычным вары. Баэцый, які даносіць да ўсіх Піфагора і перачытвае Арыстоцеля, не паўтарае на памяць лекцыю мінулага, але вынаходзіць новы спосаб ствараць культуру і, робячы выгляд, што з'яўляецца апошнім з рымлянаў, на самай справе прадстаўляе першую навуковую лабараторыю пры дварах варвараў.

*1972 г.*

**Пераклаў з італьянскай
Валеры БУЙВАЛ.**

Umberto Eco. Dalla periferia dell'Impero.
Milano, 1997

**(Заканчэнне будзе.)**

# УМБЭРТА ЭКА І ТЭОРЫЯ СЕМІЁТЫКІ

**У**мбэрта здабыў сусветную славу двума раманамі – "Імя ружы" і "Ківач Фуко"*. У абодвух гэтых творах разам са мноствам спасылак на самыя разнастайныя творы, навуковыя (асабліва сярэднявечныя) і не толькі (Шэрлак Холмс у "Імені ружы" і *Corpus Hermeticum* у "Ківачы Фуко"), згадваюцца знакавыя тэорыі мінуўшчыны і сучаснасці.

Эка нарадзіўся ў 1932 г. у П'емонце, што ў Італіі. Перш чым звярнуцца да семіётыкі, ён займаўся філасофіяй, прычым паглыблена вывучаў філасофскія і эстэтычныя тэорыі сярэднявечча.

У 1956 г. пры Турынскім універсітэце 24-гадовы Эка напісаў і абараніў дысертацыю па эстэтыцы Тамаша Аквінскага. Прыз тры гады Эка напісаў раздзел "Развіццё сярэднявечнай эстэтыкі" (*Sviluppo dell'estetica medievale*) для чатырохтомнага падручніка па гісторыі эстэтыкі. У 1986 г. гэтая ёмістая праца выйшла ў англійскім перакладзе, пад назвай "Мастацтва і хараство ў сярэднявеччы" (*Art and Beauty in the Middle Ages*). Як мы ўжо заўважылі, найлепшым чынам Эка скарыстаў свае багатыя й разнастайныя веды ў мастацкіх творах, але ці маюць яны непасрэднае дачыненне да семіётыкі? Адказаць "так" можна з дзвюх прычынаў. Па-першае, як даводзяць Тодараў ды іншыя, час Тамаша Аквінскага – гэта таксама раздзел у гісторыі знакавай тэорыі. Як заўважае Эка, той самы Арыстоцель, які так паўплываў на "анёльскага доктара", пакінуў след і ў больш сучаснай семіётыцы – напрыклад, у тэорыі метафары. Па-другое, як спецыяліст па сярэднявеччы, Эка захапіўся творамі Джэймса Джойса, які адвольна спасылаецца на Тамаша Аквінскага, Арыстоцеля, Дантэ...

Экаву зацікаўленасць Джойсам трэба разглядаць у кантэксце ягонай "задзіўлёнасці" і "цікаўнасці" да сучаснага свету і мадэрнізму як культурнае і гістарычнае

з'явы. Джойс і стаўся тым мостам, што злучыў любоў Эка-навукоўцы да часоў даўно мінулых (хоць яны могуць і вяртацца) з адчуваннем свету "тут і цяпер", свету складанага і разнастайнага, поліфанічнага і адкрытага. Каб па-сапраўднаму ацаніць "двухпалюсовасць" інтэлектуальнага поля Эка, трэба ведаць, што ў адзін год з раздзелам па сярэднявечнай эстэтыцы пад ягоным імем з'явіўся артыкул "Твор у руху і ўсведамленне эпохі" (*L'opera in movimento e la coscienza dell'epoca*) (у англійскім перакладзе – "Паэтыка адкрытага твора" (*The Poetics of the Open Work*). У артыкуле разглядаецца, якім чынам у сучаснай музыцы (Стокхаўзэн, Бэрыа, Буле), літаратуры (Малармэ, Джойс) і жывапісе (Кальдэр, Пусэн) у дачыненні да сучаснай навукі (Эйнштэйн, Бор, Гэйзенберг) з'яўляюцца "творы ў руху", "адкрытыя творы". У іх той, да каго яны звернутыя, робіцца актыўным чыннікам у наданні твору прамежкавай завершанасці, альбо ў самім творы галоўная роля адводзіцца адкрытасці. З гэтага зыходнага пункта Эка ў сваіх навуковых пошуках і пачынае распрацоўваць тэму "ролі чытача".

У нядаўнім сваім выказванні адносна прачытання і вытлумачэння тэксту Эка падкрэслівае, што "быць можа ўсё" постмадэрнісцкае крытыкі – гэта зусім не тое, што нясе ў сабе панятак адкрытага твора. Хутчэй можна сказаць, што кожны літаратурны твор, у адпаведнасці з існымі й апраўданымі магчымасцямі прачытання, закладзенымі ў тэксце, мае на ўвазе свайго ўзорнага чытача. Паводле Эка, цверджанне, што *кожны* тэкст можа мець безліч варыянтаў прачытання, – цалкам пусты жэст. Але з іншага боку, гэта зусім не азначае, што сам аўтар у рэчышчы ўласнага досведу здатны выносіць вырак, наколькі адпавядае тое ці іншае вытлумачэнне ягонай задуме. Трэба вызначыць падставы, што адкрываюць магчымасці паслядоўнага, дарэчнага вытлумачэння. У гэтай сувязі Эка з задавальненнем цытуе радок з "Хаўтураў па Фінегану" пра "таго ідэальна-ўяўнага чытача, які пакутуе на ідэальна-ўяўную бессань". Ідэальны чытач – гэта не столькі дасканалы, узорны чытач, колькі той, хто ахоплівае ўсю разнастайнасць магчымых прачытанняў, апраўданых самой будовай тэкста, – чытач, *чуйны* да гэтых магчымасцяў.

Яшчэ адно вымярэнне навуковых ды інтэлектуальных пошукаў Эка – семіётыка. З 1975 г. ён узначальвае кафедру семіётыкі ў Балонскім універсітэце. Эка напісаў па-англійску дзве значныя працы, у якіх развівае сваю тэорыю знаку і азначэння, – "Тэорыя семіётыкі"

(*A Theory of Semiotics*), 1976 г., *і* "Семіётыка і філасофія мовы" (*Semiotics and the Philosophy of Language*), 1984 г.

Хоць у "Тэорыі семіётыкі" выкладаецца тэорыя кодаў і спараджэння знакаў, ейным кутнім камянём, зыходным пунктам стаўся панятак "неабмежаванасці значэнняў" (*unlimited semiosis*), уведзены Пірсам. Неабмежаванасць значэнняў, паводле Эка, – гэта ў нечым "залатая сярэдзіна" ў пытанні пра ролю чытача. Так, неабмежаванасць значэнняў вынікае з таго, што знакі ў мове заўсёды суадносяцца з іншымі знакамі і што тэкст заўсёды нясе ў сабе безліч магчымасцяў вытлумачэння. Але Эка хоча пазбегнуць скрайнасцяў: адназначнасці, з аднаго боку, і супрацьпастаўленай ёй бясконцасці значэнняў, з другога. Ягоная неабмежаванасць значэнняў хутчэй адпавядае Пірсаваму "вытлумачальніку" (*interpretant*), калі значэнне ўсталёўваецца з улікам рэчаісных магчымасцяў.

Як жа Эка тлумачыць прыроду кодаў у святле неабмежаванасці значэнняў? Увогуле існуюць два тыпы кодаў. Першы тып – адназначныя коды, як, да прыкладу, азбука Морзэ, дзе пэўны набор сігналаў (кропак і працяжнікаў) адпавядае пэўнаму набору знакаў (у дадзеным выпадку – літарам алфавіта). Коды падобнага тыпу, калі складнікі адной сістэмы пераўтвараюцца ў іншую, вельмі шырока распаўсюджаныя, так што нават у біялогіі адносіны паміж ДНК і РНК можна аналізаваць як код.

Хоць Эка і прыводзіць шэраг прыкладаў гэткіх кодаў у тэхнічных галінах, галоўным для яго застаецца мова, якая складаецца з *langue* (мовы як сістэмы, дзе код роўны граматыцы, сінтаксісу, структуры) і *parole* (маўленчых дзеяў). У гэтым выпадку код адпавядае будове мовы. Ці, карыстаючыся тэрміналогіяй Ельмслева, як гэта часта робіць Эка, код у мове суадносіць план выяўлення з планам зместу. Код у гэтым сэнсе Эка абазначае тэрмінам "*s*-код". Іншымі словамі, s-код мовы тоесны своеасаблівай упарадкаванасці між адзінкамі маўлення. Без кода гукавыя ці графічныя вобразы пазбаўленыя значэння – і гэта самы скрайні выпадак паралюшу мовы. *S*-коды могуць быць "дэнататыўнымі", "праяўленымі" (калі выказванне разумеецца літаральна) ці "канататыўнымі", "прыхаванымі" (калі ў выказванні ўгадваецца яшчэ адзін код – напрыклад, ветлівасці). Усе гэтыя палажэнні, зрэшты, родныя Сасюру, але Эка хоча ўвесці больш дзейснае, чым у Сасюра (і, між іншым, чым у большасці сучасных моваўнавучых тэорыяў), разуменне *s*-кода. Дзеля гэтага ён распрацоўвае "Мадэль *Q*" – мадэль кода, якая

тлумачыць неабмежаванасць значэнняў. Але найперш Эка даводзіць, што значэнне "носьбіта знака", г.зн. слова ці вобраза, не звязанае з асобнай існай рэччу. Інакш кажучы, трэба ўнікаць "памылковасці ў суаднясенні": "носьбіт знака" – слова "сабака" — не тоеснае ніводнаму канкрэтнаму сабаку, а абазначае сабою ўсіх сабакаў, жывых і не. Мабыць, больш яскравым прыкладам будзе тое, што слова "аднак" наогул не суадносіцца ні з якім прадметам, а ёсць чыстае спараджэнне кода. Па-другое, Эка адзначае, што коды сапраўды існуюць у кантэксце грамадскага і культурнага жыцця. Такім чынам, "адзінкі культуры" – гэта "знакі, якія дае нам у карыстанне грамадскае жыццё: малюнкі, што тлумачаць змест кнігі, адпаведныя адказы, што тлумачаць двухсэнсоўныя пытанні, словы, што тлумачаць азначэнні, і наадварот". Эка падкрэслівае, што дзеянне ў адказ на асобны "носьбіт знака" дае нам звесткі пра дадзеную адзінку культуры. Беручы пад увагу, што знак – гэта адзінка культуры, тэорыя кодаў дазваляе патлумачыць, якім чынам знакі могуць набываць багата значэнняў, як значэнне паўстае з дасведчанасці карыстальніка мовы або іншай знакавай сістэмы і як у выніку могуць утварацца новыя значэнні. *Langue*, мова як код, прыраўноўваецца, такім чынам, да дасведчанасці яе карыстальнікаў. Гэта справядліва нават у тым выпадку, калі карыстальнік мовы не абазнаны ў яе кодзе, бо "недасведчанасць" (напрыклад, "снег" = "арахісавае масла", цытуючы Эка) таксама цікавая з пункту гледжання семіётыкі. Адказам на яе можа быць смех. Смех, які даводзіцца выключыць з панятку мовы як семантыкі, якая грунтуецца на сапраўднай вартасці кожнага цверджання. Так, смех, падман, трагедыя сутнасна значныя дзеля разумення кода ў рэчышчы семіётыкі.

Семантычнае поле ўлучае "множныя пераняcенні", так што панятак кода як захавальніка тоеснасці адзінак дзвюх сістэмаў робіцца неадпаведным. Насамрэч, кажа Эка, кожны буйны моўны код – гэта "*складанае спляценне падкодаў*". У самай сціслай форме гэта азначае, што Экава "Мадэль Q" уяўляе сабой стваральную моўную мадэль". У падцверджанне: "Мадэль Q" у рэчаіснасці мае на ўвазе, што сістэма можа ўзбагачацца новымі звесткамі, што з няпоўных могуць вынікаць больш поўныя дадзеныя". Такім чынам, у "Мадэлі Q" код не абумоўлены аднойчы й назаўсёды будовай мовы, ён змяняецца разам з дасведчанасцю карыстальнікаў мовы.

Адваротны бок тэорыі кодаў – тэорыя спараджэння знакаў. Разважаючы на гэтую тэму, Эка зноў засяроджваецца на

супрацьпастаўленні адзінак, якія могуць з лёгкасцю засвойвацца ці прадбачыцца кодам (параўн. "сімвал" у тэрміналогіі Пірса), адзінкам, якія лёгка засвоіць немагчыма (параўн. "іканічны знак" у Пірса). Першыя Эка абазначае як *ratio facilis*, а другія – як *ratio difficilis*. Чым бліжэй да *ratio difficilis*, тым больш знак "абумоўлены" прыродай самой рэчы. Найбольш відавочна гэта ў іканічных знаках. Аднак для Эка вельмі істотна паказаць, што нават самыя "абумоўленыя" знакі (да прыкладу, абраз Маці Божай) маюць у сабе нешта ўмоўнае. І наадварот, нават там, дзе рэч ці дзея, здавалася б, пэўна існуюць па-за ўсялякай умоўнай сістэмай, г.зн. па-за кодам, яны часам вельмі імкліва набываюць умоўнасць. Найбольш яскрава гэта пацвярджае прыведзены Гомбрыхам прыклад, што ў гісторыі мастацтва ў розныя часы лічылася рэалізмам (да прыкладу, малюнкі Дзюрэра). На гэты прыклад і спасылаецца Эка. Можна давесці, што нават фатаграфія мае ў сабе нешта ўмоўнае: праяўленне негатыва стварае фатографу прастору, каб ён мог надаць здымку пэўныя рысы ўмоўнасці. Ізноў жа, калі разглядаць фатаграфію ў рэчышчы падабенства выявы да самога прадмета, дык, нагадвае Эка, змяненне памеру як своеасаблівая форма кадавання нясе ў сябе новыя выяўленчыя магчымасці. Падсумоўваючы Эка, можна вылучыць наступныя асноўныя спосабы спараджэння знакаў.

1. Фізічная праца: каб спарадзіць знак, патрабуюцца высілкі.

2. Пазнаванне: рэч ці дзея спазнаюцца як выяўленне пэўнага знакавага зместу праз сляды, сімптомы ці доказы.

3. Прадстаўніцтва: рэч ці дзея падаюцца як прыналежныя да пэўнага класу рэчаў ці дзеяў.

4. Адбітак: пераважна імкнецца да *ratio difficilis*, але мае рысы кадавання праз стылізацыю. Прыкладамі будуць эмблемы, гербы, музычныя і матэматычныя знакі.

5. Вынаходніцтва: найчысцейшы *ratio difficilis*. Непрадбачаны існым кодам, падмурак новае сукупнасці рэчаў.

Праз сваю "Мадэль Q" і тэорыю спараджэння знакаў Эка найперш даводзіць, што неабходна ўлічваць здольнасць моўнае сістэмы да аднаўлення і адраджэння. (Дарэчы, традыцыйная семіётыка на гэта амаль што не зважае, за выключэннем выбітнае працы Крысцевай). Эка цвердзіць, што знакавая сістэма – адкрытая і рухомая, а не замкнёная і непарушная.

Падобнае тлумачэнне відавочна прысутнічае і ў развагах Эка пра знак і азначэнне ("Семіётыка і філасофія мовы"). Аўтар даводзіць, што знак не толькі выступае ў ролі нечага, чым сам не з'яўляецца (і таму мае слоўнікавае значэнне), але і патрабуе свайго вытлумачэння. Як мы адзначылі вышэй, у панятак "вытлумачэнне" Эка ўкладае той жа сэнс, што і Пірс – у панятак "вытлумачальнік", з чаго паўстае неабмежаванасць значэнняў.

Асноўная ідэя "Семіётыкі і філасофіі мовы" тычыцца розніцы ў будове паміж слоўнікам і энцыклапедыяй. Хоць Эка і не тлумачыць гэтыя тэрміны падрабязна, слоўнік яму ўяўляецца як іерархічнае "дрэва паходжання" – гэткі ўзор азначэння, падзеленага па родах, відах і асаблівых прыкметах. Слоўнік адпавядае прынятаму ў традыцыйным мовазнаўстве погляду на мову як нерухомую замкнёную сістэму, і таму слоўнікавая мадэль мовы не можа ўлічваць неабмежаванасць значэнняў. І наадварот, энцыклапедыя адпавядае сукупнасці без цэнтра, лабірынту без выйсця, альбо неабмежаванай адкрытай мадэлі, дзе новыя адзінкі ўзнікаюць з ужо наяўных. Слоўнік заціснуты паміж Сцылай і Харыбдай: ён здольны перадаць асобнае значэнне, але не здольны данесці яго да чытача. Там, дзе слоўнік непазбежна церпіць паразу, энцыклапедыя "аплятае" ўсё сеткай з асобных апісанняў. Паводле сваёй будовы энцыклапедыя нагадвае мапу, а не дрэва з ягонай іерархіяй. Зрэшты, каб адпавядаць свайму прызначэнню збору, які пакідае прастору для з'яўлення новых значэнняў, слоўнік мусіць прыпадабняцца да энцыклапедыі. Па сутнасці ён робіцца "прыхаванай энцыклапедыяй", кажа Эка. Такім чынам, энцыклапедыя – гэта агульная мадэль мовы, спроба апісаць яе без цугляў штучнае канчатковае ўсёахопнасці.

Таму, магчыма, Эка зрабіў свой найбольш трывалы ўнёсак у тэорыю семіётыкі тым, што паказаў падабенства мовы да энцыклапедыі, створанай філосафамі XVIII ст. А можа, Эка імкнецца давесці, што Асветніцтва (прынамсі, у гэтай сваёй праяве) – таксама постмадэрн?

**Джон ЛЕГТЭ.**
**Пераклала з англійскай мовы V. K.**

* Трэці раман У.Эка "Выспа ўчарашняга дня" быў надрукаваны ў 1994 г. *(рэд.)*.



# Мікола Шабовіч

## АЎТАПРЫСВЯЧЭННЕ

*Пісаў пра ненаглядку – быў ты лірык,*
*Пасля надумаў парадыстам стаць,*
*Змог нават эпіграмы напісаць...*
*Скажы, Мікола, можа ты й сатырык?*

# ДАЖЫЎСЯ...

*Я страціў даўнія падставы*
*Аклікнуць тых,*
*Каго хачу.*
*Ну што —*
*Дажыўся, галубок?*

**Генадзь Бураўкін**

Даўно дзяўчат не даганяю,
Услед зірну — і прамаўчу,
І толькі вершы прыдумляю,
Хачу таго ці не хачу.

Лепш памаўчаць. Такая справа:
Ці ты крычы, ці не крычы,
Ніхто налева і направа
Са мной не пройдзецца ўначы.

Чаго хадзіць? Усім вядома
(Я ж сам прызнаўся чытачу),
Што ўжо сяджу я седзьма дома
І не заву, каго хачу...

Адно ўздыхну... і раптам чую,
Як жонка тоўхае мне ў бок:
— Ты толькі з вершамі й начуеш.
Ну, што – дажыўся, галубок?..

# КАНЕЦ – УСЯМУ ВЯНЕЦ

*З мяне не стройце мудраца,*
*Кажу пра гэта смела.*
*Жыццё? — Заўсёды без канца,*
*Прабегла-праляцела.*

**Юрась Свірка**

Пытаць не трэба мудраца,
Бо ведама з раддома:
Жыццё якое без канца? —
Паганае, вядома.

З канцом — і сам ты малайцом,
А без канца — ніхто ты,
Таго й глядзі, з'ядуць жыўцом
І людзі, і турботы.

А я ў паэзіі — мудрэц,
Якога свет не бачыў,
Таму й не дзіва, што канец
Для рыфмы прысабачыў.

## ВОСЬ ГЭТА КАХАННЕ

*Хто Азію любіць, хто любіць Еўропу,*
*А ён палюбіў яе царскую попу.*

**Віктар Шніп**

Хто Азію любіць, хто любіць Еўропу,
А ён палюбіў яе царскую попу,
Не можа з таго далікатнага месца
Ні рук адарваць, ні пагляду адвесці.
"Вось гэта каханне! — дзівуецца свет.
Не быў бы на тое наш Віця паэт!
Напрыклад, Камейша — ён грудзі ўславіў
І многіх той одай на месца паставіў,
А вось Барадулін, Бураўкін і Свірка
На ножкі глядзяць, як Дзям'ян на зацірку.
І толькі наш Віця — сапраўдны пісака:
Не грудзі, не ножкі праславіў, а ...

## СУРОВЫ КУПАЛА

*...паэты мёртвыя прыйшлі*
*І — абступілі...*

*Набраўся я ад тых, хто быў,*
*Зямнога духу —*
*І здзьмуў з Гамера даўні пыл,*
*З Купалы — муху...*

**Леанід Галубовіч**

Як вершы скончыў я пісаць,
(Было — ці сніцца?)
Рашыў я класікаў пазваць,
Каб парадніцца.

Паэты мёртвыя прыйшлі
І абступілі.
Іх закарэлі шынялі,
І боты ў пыле.

Гамер ледзь пераводзіць дых,
На твары — скруха.
Гляджу — і Янка сярод іх
Стаіць пад мухай.

Я – глык – для смеласці адпіў,
Свой лоб пачухаў,
Змахнуў з Гамера даўні пыл,
З Купалы – муху.

А мне Купала — бэмц! — па лбе,
Аж іскру высек:
— Куды да класікаў табе!
Ідзі праспіся!

# АЛЕСЕВА ПЯТА

*Ты кажаш:*
*"Пята Ахілесава",*
*А я чую:*
*"Пята Алесева".*
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

Ты кажаш:
"Пята Ахілесава",
А я чую:
"Пята Алесева",
Бо і я, нібы той Ахілес,
У падручнікі ўціснуўся-ўлез.

# Яно

А якая ў мяне пята? –
У "ЛіМе" я за "галоўліта".
Што, каго друкаваць ці не –
Вырашаць адназначна мне.
І шануюць маю пяту
Той, хто нават кату па пяту,
Як і той, хто мяне перарос, –
Ад мяне іх залежыць лёс.
Галубовіч, Зуёнак і Жук,
Скобла, Свірка, Мятліцкі, Марук,
І Бадак, і Майсеенка той –
Яны ўсе пад маёй пятой...
Што асілак-дзівак Ахіл?!
Мне куды сімпатычней Ніл!
Нілу я не скажу: "Ату!"
Нілу, хлопцы, я сам па пяту.

# НЕ ХАПІЛА СІНЬКІ

*Сіні вечар,*
*Сіні вецер,*
*Сіні ветразь над вадой.*
*Нават сонца ў гэтым свеце*
*Аддавала сінявой.*

*Сіні луг*
*І сіні іней,*
*Сіні ранішні прамень.*
*І, здаецца, дожджык сіні,*
*Раздаецца сіні смех.*

**Мікола Мішчанчук**

Вечар сіні, як нос у п'яніцы,
А таксама ссінелая раніца,
Сіні дзень і апоўначы месяц,
Пасінелыя пальцаў дзесяць
На руках, на нагах таксама,
Пасінелыя ў вокнах рамы,
І сініца марозам сініцца,

Лес чамусьці ўсё менш асініцца,
Бо вядуцца у нас спрадвеку
Пасінелыя дрывасекі...

Ну, навошта я стаў паэтам
І сінюшчай зрабіў планету?!
Так кантрастна на гэтым фоне
Зелянее мой верш зялёны!..

## КАЛІ Б НЕ КАНТРАЛЁР...

*Цягнікоў, што павезлі каханне,*
*Нам ніколі з табой не вярнуць.*
**Мікола Ждановіч**

Аднойчы, ранкам мо ці ўвечары,
Калі пачуццяў промень знік,
Сваё каханне безбілетнае
Ты ў нейкі пасадзіў цягнік.

І доўга колы шлях адмервалі,
Пакуль, як вопытны сапёр,
Перад каханнем недаверліва
Не супыніўся кантралёр.

І доўга, нібы з апраметнае,
Праз цемру ночы, з рукзаком
Тваё каханне безбілетнае
Дамоў вяртаецца пяшком.

# У нас





## Валянціна Аксак

*Усе вершы свае*
*я пісала аднаму табе,*
*ды ніводнага з іх*
*ты дагэтуль не змог прачытаць,*
*бо не ведаеш мовы маёй...*

***

Прабіваюся па калдобінах
разнабойнае рытмікі нейчае,
ніяк на сваю не патраплю.
Няўжо так уборыста
ўзараныя гоні
тутэйшага красамоўства,
што дзеля маёе разоры
папару
й не ацалела?

## ПРАХОДКА ДА САСКАГА САДУ

На Пулаўскай
бетонна-скарбовай
так падобнае ўсё да радзімы:
дым, нязносны ніякім норд-вэстам,
згэлк гандлёвы пры рэйках трамваяў,
у іх едуць на працу кабеты
і мужчыны ў аўто кудысь едуць,
іх бязважкія вочы насустрач
так нішчымна глядзяць,
што я —
дома.
Але крокаў якіхсьць за пяцьсот мо
у тым месцы,
дзе парк з грэцкай назвай
і палац Крулікарня з музеем
вінавата глядзяць на тутэйшасць,
раптам мроюю віленскай князёўны
сёмым чуццем я побач адчула,



і ўжо стан мой уладныя рукі,
як калісьці яе, кальцавалі,
азірнулася ў жаху —
нікога
побач нават і блізка не бачна,
ды ўсё ж кропля рэальнай пяшчоты
расплылася па целе, як мора,
шал стрыножыў і рухі, і думкі,
і чыясь неспатольная прага
забірала абрыдлую тутасць
так падобнай да Менска Варшавы.
Сілы ўсё ж мне хапіла
не выдаць
недарэчную жарсць і трызненне,
дабрысці неяк па Маршалкоўскай
аж да вулкі імя маёй мроі,
дзе так тлумна і так беспрытульна,
што ўвідмованы мой спадарожнік
дзесь згубіўся
ці выбраў другую.
Я ж,
скароная чуць адзіноту
дзён і местаў
былых і наступных,
даплялася да Саскага саду,
і вось там,
на рагу Каралеўскай,
ён стаяў
і глядзеў мне насустрач
тым адзіна мажлівым паглядам,
які меў
толькі мой
Жыгімонт.

***

Пасцель,
залітая віном,
у ёй так звабны
водар твайго цела —
найлепшы ланч,
любімы трунак днём,
апоўначы жаданая вячэра.

## СУСТРЭЧА Ў РУМЫНІІ 11 ЖНІЎНЯ 1999 ГОДУ

Мы з ім сустрэліся
падчас зацьмення сонца,
як толькі вусцішны паўзмрок
акрыў шашу і поле,
зрабіўшы шчэ больш сумным краявід
румынскага абшару.
Ну, як там нашая буслянка? —
спытаўся ён,
бо вылецеў за тыдзень да мяне.
Нічога, — я кажу, — стаіць.
Як добра, што яна не ўбачыць
гэтай недарэчнай цемры, —
ускліркнуў ён і шэптам папрасіў:
ты ёй не кажы
пра нашу стрэчу тут,
у гэтым непрытульным месцы,
яна ж не ведае,
што я лячу за мора на зіму,
і верыць,
што ў сцюдзёны час
я снегам станаўлюся

і атуляю ейны цёплы спод
ад сібераў усходніх.

Вясной ён не вярнуўся.

***

Ёсць вечар
і вецер,
а з імі тут —
трэцяя я
сутвораю веча,
каб спрэчку быцця-небыцця
адпрэчыць нарэшце,
як лішні ў трохкутніку кут,
пакінуўшы
вечар
і вецер.

## ЭКУМЕНІСТКА

Недзе там,
над дахамі з гонты,
ходзіць мой
неасвойтаны цень,
экзэгезай
сумлеваў Понтыя
ён што-пораз
зырчэй цвіце.

Ахвярую
вераю праўдзе —
штоімгненны
ўсталюю лад

і, як той
дабрадзейны Клаўдзій,
стану звабаю
роднасных звад.

Потым праўду
на вогнішча веры
пакладу,
як сына Абрам, —
уцялеснюся ў Геру
й габрэяў
пракляну
за той роду зман.

Хай блукаюць
па вулках Еўропы,
сеюць семя
ў тутэйшай раллі,
каб нашчадка Понтыя
дотык
у нью-элінскім лоне
знік.

***

Усе вершы свае
я пісала аднаму табе,
ды ніводнага з іх
ты дагэтуль не змог прачытаць,
бо не ведаеш мовы маёй,
хоць вучыла цябе неаднойчы
перарыўнасці згукаў,
пераломнасці зрухаў,
перападам уздыхаў

і таму,
як сканаць у адхланні,
і таму,
як ускрэснуць ва ўлонні,
і таму,
як ляцець
спаміж мройнай і яўнаю мною,
не кранаючы скрыдлем ніводную з нас,
і таму,
як упасці
на разгойданы жарсцю алтар нашай смагі,
не зламаўшы тых скрыдлаў,
якімі зазвычай
ты звучваеш мову спатолі
па лемантарах,
якіх я не маю.

***

Як котка,
грэюся
пад сакавіцкім сонцам.
Яно мне ласку шле
на ложак
на асцюжэлую за ноч пасцель
сужэнцкай звычкі,
нядосыпу,
чакання цеплыні
ды ўмілажальства.
Такі ж самотнік вечны, як і я,
у гэты міг са мною,
і новай ночы надыход
больш не ўсталюе холад.



# Язэп Палубятка

*Радасць Пятра Іванавіча Матыля, што нарэшце скончацца яго жабрацкая доля і пакуты, якая месцілася ў патаемных схронах душы, змяніў звычайны жывёльны жах. Жах перад тым, што ўвесь гэты капітал, на які можна купіць амаль што ўсю нерухомасць нашай незалежнай дзяржавы, давядзецца аддаць. Аддаць добраахвотна. Ні за што. Проста так.*

Язэп ПАЛУБЯТКА

# ПРЫГОДЫ МАРМУЛКА

## НЕЧАКАНЫ ПАВАРОТ СПРАВЫ

У раённым аддзеле міліцыі Садык Мамедаў зрабіў заяву пра тое, што яго абрабаваў звычайны жабрак, але там не сталі асабліва разбірацца, а ўсіх затрыманых, у тым ліку і Пятра Матыля, змясцілі ў камеры папярэдняга затрымання. "Начальства прыйдзе – няхай разбіраецца", – патлумачыў дзяжурны.

Чуткі пра незвычайных затрыманых у адначассе пранесліся па пастарунку. Усе, ад начальніка аддзела да шарагоўца, пераказвалі адзін аднаму несусветную навіну, як жабрак "абуў у лапці" крутога камерсанта, і зайздросцілі гэтаму рызыкоўнаму чалавеку. Шараговыя ахоўнікі парадку казалі пра тысячу скрадзеных даляраў, мрояў участковых хапала толькі на дзесяткі тысяч, кіраўнікі службаў сцвярджалі пра сотні тысяч. Начальнік міліцыі ў гутарцы са сваімі намеснікамі згадваў мільён.

Неспадзявана ды негадана Яе Вялікасць Слава наведала маленькага Мармулка.

Міліцыянты – народ просты ў сваіх паводзінах ды шчыры ў памкненнях. Добра ўмеюць карыстацца гумавым кіем ды ведаюць, з якімі затрыманымі як сябе паводзіць. Мець шанцы на літасць Садыку Мамедаву не выпадала з тае простае прычыны, што ён ператварыўся ў звычайнага

---

*(Заканчэнне. Пачатак у № 4.)*

жабрака. Увесь яго лямант наконт справядлівасці патанаў у міліцэйскіх мурах. З Мармулкам усё было наадварот. Напачатку міліцыянты запыталі яго імя ды імя па бацьку і надалей звычайна звярталіся выключна на "вы". Ніхто без патрэбы не турбаваў, хіба толькі з запытам: "Можа чаго жадаеце?"

У хуткім часе генеральны дырэктар трэста зразумеў тактычную памылку ў сваіх паводзінах, і цяпер замест патрабаванняў справядлівасці было чуваць: "Выпусты, "мерс" аддам". Апошні аргумент затрыманага быў больш важкі за папярэднія, у тым ліку і за яго памкненне звярнуцца ў Хельсінкскі камітэт абароны правоў чалавека. Пралямантаваў ён такім чынам толькі некалькі гадзін, потым раптоўна сціх.

На наступны дзень міліцыянты высветлілі, што камера, дзе знаходзіўся затрыманы Мамедаў, пустая, прычым на дзвярах, як і належала, вісеў замок. Гэта надзвычайнае здарэнне начальнік раённага аддзела міліцыі аднёс на рахунак зламысных дзеянняў іншапланецянаў ды непамернага засілля НЛА ў раёне Мінскага ўзвышша.

Матыля ніхто не выпускаў, а наадварот, ля яго камеры патроілі ахову. Усе надзвычай прыязна ставіліся да затрыманага. Аднаго разу на спатканне з ім завіталі сяржант Піцькін і радавы Мышкаловіч, што затрымалі Мамедава з яго аховаю. Прынеслі пляшку каньяку, добра наладаваную торбу харчоў.

– Ты, можа, бабу хочаш? – запытаў Мышкаловіч. – Ды не хвалюйся, нармальную, са скурвендыспансера даведку мае.

– А гэтыя хлопцы, што стаяць ля дзвярэй, – падтрымаў саслужыўца Піцькін, – свае людзі. Мы з таго арсеналу ім па пісталету спрэзентавалі. А следчы – пень. Восем гадоў завочна вучыўся, але і зараз слова "рапарт" піша з дзвюма "т". Паводзь сябе вольна, бо той, хто цябе абвінаваціў, некуды знік, а наш начальнік ездзіць на новым "мерсэдэсе" і кажа ўсім, што ў яго аб'явіўся багаты дзядзька ў Канадзе. Вер – мы цябе ў крыўду не дамо.

Следчы сапраўды быў пень, але адначасова і ласы на грошы. Перш чым распачаць допыт, ён акуратненька вывеў на паперцы адзінку з трыма нулямі і паклаў яе перад падследным. Падследны шырока расплюшчыў вочы, пачасаў патыліцу ды стаў глядзець у закратаванае акно. Следчы палічыў, што Матыль

слабы на зрок, узяў большы аркуш паперы і паўтарыў тую лічбу ў вялікіх памерах. І на гэты раз арыштант ніякім чынам не адрэагаваў.

Следчы Абокаў распачаў пісаць пратакол. Рабіў ён гэта адмыслова, старанна выводзячы кожную літару, быццам той школяр з перасцярогі, што "настаўнікі" змусяць перапісваць. У гэты час Пётр Матыль, як і параілі яму міліцыянты, паводзіў сябе вольна: чухаў дзе толькі папала сваё нямытае цела. Следчы як чалавек цудоўна яго разумеў і не перапыняў занятак да таго часу, пакуль не напісаў "шапку" пратакола. Так доўжылася менш як дзесятак хвілінаў.

– Ну, распавядайце мне сутнасць справы, – сказаў Абокаў падследнаму, калі той распачаў чухаць міжножжа.

– Ляжу я ў ложку ўвечары ды п'ю піва. Тут у маю кватэру ўрываецца банда галаварэзаў і пачынае мяне катаваць...

– Грамадзянін Матыль! Пра якую банду галаварэзаў вы вядзяце гутарку? Як засведчыў мой начальнік, гэта былі добраахвотныя памочнікі міліцыі.

Аркуш паперы з лічбамі працягваў ляжаць перад Мармулкам.

– Дык вось, добраахвотныя памочнікі міліцыі пачалі мяне ўкрыжоўваць...

– Калі ты будзеш так казаць пра нашых людзей, дык я цябе ўмяцелю, згнаю ў вязніцы, век волі табе не бачыць, – следчы тупаў нагамі, пырскаў слінаю, роў, быццам люты звер.

Мармулак, памятаючы словы міліцыянтаў, што яго ў крыўду не дадуць, працягваў далей чухаць нямытае цела. Тут у пакой зайшоў сам начальнік міліцыі.

– Што здарылася?

– Затрыманы адмаўляецца даваць паказанні. Узводзіць паклёп на нашых добраахвотных памочнікаў...

– Ах вось яно як! – начальнік міліцыі схапіў ручку і дапісаў на паперцы яшчэ адзін нуль. – Каліся, інакш горай будзе.

– Дык я і кажу. Адпачываю я дома, а тут да мяне ўрываюцца бандыты ды пачынаюць біць. Дзякуй Богу, што міліцыянты прыйшлі на дапамогу.

Чатыры гадзіны следчы і начальнік міліцыі вялі няроўнае змаганне з Мармулкам. Паверыўшы ў сваю перавагу, падследны

стаў паводзіць сябе больш нахабна: зняў абутак і стаў церці адна аб адну ногі.

Начальніку міліцыі ў гэты момант падалося, што сапраўды гэты паўдурак не мог скрасці тыя грошы, і ён са злосці загадаў следчаму:

– Рыхтуй справу ў суд.

– А што рыхтаваць? – узмаліўся падначалены. – Сведкаў няма. Грошай няма. Пацярпелы некуды знік, і наўрад ці яго можна адшукаць. І заява ад яго паступіла толькі вусна. А можа гэта сапраўды самы чэсны чалавек на свеце?

– Знайшоў мне праблему. У трыццаць сёмым годзе нават крыштальна чыстым ленінцам "вышку" давалі. А гэты... Няхай пасядзіць пару гадоў.

У камеры Мармулак атрымаў запіску: "У цябе будзе самы лепшы адвакат". Разам з запіскаю быў перададзены кошык з дзвюма пляшкамі каньяку ды гарачаю страваю проста з рэстарана.

## СУД

Гэтаю незвычайнаю справаю былі зацікаўлены ўсе судовыя. Чужыя грошы вабілі як пракурора, гэтак і суддзю.

Абвінавачаны Пётр Іванавіч Матыль быў дастаўлены ў залу паседжання суда ў суправаджэнні ўсё тых жа міліцыянтаў: сяржанта Піцькіна і радавога Мышкаловіча. Ахова мелася быць надзейнай. Ад пацярпелага ў якасці прадстаўніка ўжо неіснуючай фірмы "Будбумінтэрнэшнл" прысутнічаў Генадзь Патоніч.

– Устаць! Суд ідзе!

Позіркі ўсіх прысутных былі скіраваны на падсуднага. Нягледзячы на тое, што касцюм на ім быў не проста памяты, а выглядаў так, быццам яго пажавала карова, потым выплявала сабе пад ногі, а пасля яшчэ патапталася, Мармулак з вялікім пачуццём уласнай годнасці паволі ўстаў. Тое не прамінулі заўважыць людзі ды адзначыць для сябе, што так могуць паводзіць сябе толькі крутыя бізнесмены, тыя, у каго ў швейцарскіх банках не хапае месца для захоўвання наяўнай беларускай валюты, а акрамя таго, ёсць яшчэ добры дзесятак валютных рахункаў.

# У нас

Перад самым пачаткам разгляду справы, як у тым парламенце, слова папрасіў прадстаўнік пакрыўджаных, Генадзь Патоніч. У згодзе з дэмакратычнымі пачынаннямі ў нашым грамадстве суддзя даў яму слова.

– Грамадзяне суддзі! Грамадзянін пракурор! І ўсе астатнія грамадзяне ды грамадзянкі, а таксама таварышы. Ад імя кіраўніцтва нашай кампаніі...

– Неіснуючай кампаніі, – апярэдзіў адваката і зрабіў слушнае ўдакладненне пракурор.

Патоніч нервова павёў плячыма, дрыготкімі рукамі паправіў гальштук і працягваў далей:

– ...неіснуючай ужо кампаніі даводжу да вашага ведама, што падсудны Пятро Іванавіч Матыль ні ў чым не вінаваты і ніколі не меў ніякага дачынення да фінансавых спраў нашай кампаніі...

– Неіснуючай ужо, – больш рашуча на гэты раз зрабіў удакладненне пракурор і звярнуўся да суддзі: – Пазначце, калі ласка, гэта.

– Так, грамадзянін суддзя, прабачце, ужо неіснуючай кампаніі. Уся справа ў тым, што былы генеральны дырэктар кампаніі...

– Неіснуючай кампаніі... – грозна прарычаў пракурор.

– Грамадзянін суддзя! Пракурор замінае мне рабіць заяву, – змахнуў пот з ілба былы віцэ-прэзідэнт.

– Гена! – абапёршыся локцем на бар'ер, млява ды абыякава сказаў падсудны. – Не звяртай на яго ўвагі. Кажы.

Пракурор адразу аціх і хутка стаў перабіраць на стале нейкія паперкі.

– Грамадзянін пракурор, – суддзя зразумеў значнасць слова падсуднага, і ў яго голасе з'явілася цвёрдасць правасуддзя. – Давайце выслухаем заяву, якая, на маю думку, дапаможа больш аб'ектыўна разабрацца ў сутнасці справы. Магчыма, высветліць некаторыя акалічнасці здарэння. Кажыце, сведка.

– Я не сведка. Я – прадстаўнік...

– ...неіснуючай кампаніі...

– ...пацярпелага боку і вымушаны сказаць наступнае: былы генеральны дырэктар неіснуючай ужо кампаніі ва ўсім вінаваты сам і таму з Пецькі Матылёнка хоча зрабіць казла адпушчэння...

Пракурор затуліў вушы рукамі.

Суддзя цярпліва выслухаў шчырыя выказванні прадстаўніка і дзеля таго, каб даказаць, што ён тут гаспадар, з-за адсутнасці малатка стукнуў кулаком па стале.

– Грамадзянін прадстаўнік! Вы на сходзе дырэктароў ці ў судзе? Перастаньце карыстацца мянушкамі і выбірайце выразы.

– Прашу прабачэння. Мы лічым, што Садык Мамедаў у змове з Садыкам Ахмедавым растранжырыў гэтыя грошы і падставіў бязвіннага жабрака...

– Прадстаўнік неіснуючай кампаніі, у якой школе вы атрымалі адукацыю? – з'едліва запытаў пракурор.

– Як у якой? У савецкай. А яшчэ філфак універсітэта закончыў.

– Тады зразумела, – супакоіўся пракурор. – Працягвайце далей.

– Я ўжо ўсё сказаў.

– Дзякуй. Справаю Ахмедава і Мамедава займаецца следства, і яно, толькі яно, зможа сказаць нам сваё апошняе слова, – зазначыў суддзя.

– А я заўжды думаў, што гэта павінен рабіць суд, – іранічна заўважыў пракурор.

– Не вучыце мяне, пракурор. Я той самы юрыдычны факультэт скончыў, што і вы, – агрызнуўся суддзя Законнікаў.

– На два гады пазней, – не суніմаўся пракурор Суровых.

Законнікаў не стаў працягваць гутарку з Суровых, а зачытаў абвінаваўчае заключэнне справы і звярнуўся да абвінавачваемага:

– Што вы можаце сказаць, падсудны, наконт абвінавачванняў?

– Грамадзянін суддзя! Я чысты перад законам і Богам, як сляза немаўляці, – Мармулак укрыжаваў на грудзях рукі і ўзняў вочы да столі.

– Падсудны! Вы маеце рацыю, – вочы суддзі засвяціліся надзеяю.

– Так, грамадзянін суддзя! Я маю рацыю, – Матыль напачатку хацеў пакласці руку на сэрца ў пацверджанне праўдзівасці сваіх слоў, але ў апошні момант перадумаў і паляпаў

сябе па грудной кішэні, і тое не засталося па-за ўвагаю суддзі. – Вельмі вялікую рацыю.

Цверджанне было шчырае, і ў тое нельга было не паверыць.

Адвакат адразу засумаваў, бо ўвідавочкі зразумеў, што справа можа быць выйграна без асаблівых яго намаганняў. Было несумненна, што суддзя будзе патрабаваць для сябе больш важкую частку ганарару.

Адвакат тут жа распачаў адстойваць большую частку ганарару на сваю карысць:

– Грамадзянін суддзя! Пры ўсёй павазе да вас мая рацыя значна большая, чым ваша. Мой кліент мае алібі.

Пракурор таксама адчуў хісткасць лініі абвінавачвання і пайшоў у наступ:

– Ведаю я тое алібі. Адна ліпа.

– Алібі грунтоўнае, – у адзін голас прыпынілі нахрапістыя памкненні пракурора суддзя і адвакат.

Міліцыянты спакойна назіралі за разборам судовай справы і пяшчотна паглядалі на падканвойнага. Той, прыкрыўшы далонню вочы, драмаў.

– Алібі – ліпа, – стаяў на сваім Суровых.

– Слова "ліпа", пэўна, са старога юрыдычнага лексікону. Пры навучанні на два гады пазней мы такім тэрмінам не карысталіся.

Пракурор аціх. Слова ўзяў адвакат:

– Грамадзянін суддзя! Грамадзянін пракурор! Шаноўныя народныя засядацелі! Вы, пэўна, ужо пазнаёміліся са справаю. І зразумелі, што ўчыніць такое страшнае злачынства мой падабаронны не мог.

– Доказы? – грозна запатрабаваў пракурор.

– Мае доказы самыя простыя і самыя надзейныя. Грошы. Хто мне скажа: дзе грошы? Калі чалавек украў тыя грошы, дык следству неабходна было іх знайсці. Схаваў? У інтэрнаце замянілі ўсю сантэхніку на новую. Не знайшлі. Прапіў? На час затрымання быў крыху выпіўшы. Пасля напружанага дня спадар Матыль ужыў пляшку піва. Як бачыце, не паспеў прапіць тыя грошы. А ўся справа ў тым, што проста не было самога факта крадзяжу. Проста не было чаго красці. Асобы каўказскай нацыянальнасці даўным-даўно на тыя грошы купілі зброю ды пераправілі на радзіму. Аб тым сведчыць і іх знікненне.

Мармулак прачнуўся. Расплюшчыў адно вока, пацёр другое ды звярнуўся з запытам да суда:

– Я не разумею аднаго: у чым справа?

– Падсудны, – лагодна зрабіў заўвагу суддзя. – Слова вам яшчэ не давалі.

– Дык дайце, – настойліва запатрабаваў Матыль.

– Вы хочаце зрабіць заяву па сутнасці справы?

– Толькі па сутнасці справы, і болей нічога, – са збыткам і ироніяй у голасе сказаў падсудны. – З вашага дазволу, грамадзянін суддзя, праўду, толькі праўду і нічога болей, акрамя праўды. – Мармулак нават не падняўся са свайго месца. – Я хацеў бы спытаць: якую справу вы разглядаеце, шаноўны?

– Вашую, падсудны, – грозна прабурчэў пракурор.

– Маю, – Матыль здзіўлена ткнуў пальцам сабе ў грудзі. – Маю?

– Менавіта вашу.

– Дык яе і няма.

– Як? – пачуўся дружны хор галасоў з залы паседжання суда.

– Вось так – няма, – развёў рукамі падсудны. – Перад пачаткам судовага працэсу пацярпелы забірае сваю заяву, а вы працягваеце мяне судзіць. Гэта ж беззаконне.

– Іменна тое я хацеў сказаць напачатку, – падняўся са свайго месца Патоніч. – Мы забіраем сваю заяву адносна Пятра Іванавіча Матыля назад.

– Дык гэта ўвогуле мяняе справу, – ускрыкнуў суддзя. – Яе проста няма. Аб чым я гавару з самага пачатку.

– Нічога, – працягваў атаку пракурор, – я даб'юся новага разгляду гэтай справы, і вось тады пабачым.

Прысутныя павіншавалі Пятра Іванавіча з паспяховым завяршэннем разгляду яго справы і пачалі разыходзіцца.

Суддзя Законнікаў улучыў момант і падышоў да былога падсуднага.

– Я думаю, што вы не забудзеце самага справядлівага суддзю на неабсяжных прасторах усёй зямной кулі.

– Ні ў якім разе, грамадзянін суддзя, – шчыра ўсміхнуўся Пятро Матыль, стоячы ў цесным атачэнні міліцыянтаў-ахоўнікаў і адваката.

За суддзёю падышоў пракурор. Самаўпэўненасць Суровых плюхала цераз край.

– Вы разумны чалавек, – распачаў ён гутарку паволі, выдзяляючы кожнае слова, быццам дэкламуючы Крымінальны кодэкс, – і павінны разумець, што ў вашай справе шмат белых плямаў...

– Колькі будзе каштаваць тая фарба, каб іх замаляваць? – цвёрда ды самаўпэўнена запытаў Мармулак.

## ЦВЁРДАЕ СЛОВА ПАДПОЛЬШЧЫЦЫ

Піцькін і Мышкаловіч, як сапраўдныя міліцыянты, не жадалі ні з кім дзяліцца ні адным цэнтам. Навучыўшыся зарабляць грошы на голым асфальце, яны ў кволай беларускай камерцыі множылі свае здабыткі.

Дзяліць мяркуемы здабытак з пракурорам для міліцыянтаў было настолькі крыўдна, што як толькі Суровых адышоў ад іх, хлопцы залямантавалі ў адзін голас:

– Ты што, шэф, плаціць яму збіраешся?

Адвакат таксама выказаў сваё незадавальненне маючай адбыцца падзеяй, грозна прачмыхаў:

– У мяне ёсць прапанова, – Мармулак слухаў адваката і ніяк не мог успомніць, ці называў той хоць раз сваё прозвішча. – Неабходна звязацца з праваахоўнымі органамі, давесці да іх ведама, што пракурор патрабуе хабар. Няхай яны арыштуюць яго ў час перадачы грошай. І тады неабходнасць дзяліцца адпадзе.

Сяржант і радавы ўзрадаваліся ды пасля кароткіх настаўленняў адваката навыперадкі кінуліся да свайго начальства, каб як мага хутчэй арганізаваць здачу пракурора ў рукі правасуддзя.

Застаўшыся адзін на адзін, Пятро запытаў у свайго анёла-ахоўніка:

– Як усё ж гучыць ваша прозвішча?

– Гэта пытанне, паміж намі кажучы, неістотнае. Для ўсіх і для цябе – Антон Паўлавіч.

– Што мне рабіць далей? – пацікавіўся Мармулак.

– “Ляльку”, шаноўны мой, “ляльку”, – спакойна адказаў адвакат.

– Дзеля гэтага патрэбна хаця б жанчына, – паціснуў плячыма былы падсудны.

– Ты будзеш рабіць зараз не бэбі, – іранічна хмыкнуў Антон Паўлавіч, – а “ляльку”. А гэта вось што такое. Бярэш адзін даляр, такая зялёненькая асігнацыя, якіх у цябе, як казалі, поўны кейс, кладзеш знізу. Акуратна наразаеш паперы памерам гэтага казначэйскага білета і зверху таксама накрываеш далярам. Вось табе і “лялька”.

Адвакат уладкаваўся ў казённым фатэлі свайго кабінета і стаў прысёрбваць гарачую каву. Мармулак узяў нажніцы і горача прыняўся за справу. Праз дзесяць хвілін “лялька” была гатова. Антон Паўлавіч адставіў філіжанку ўбок, падышоў да Пятра Іванавіча, уважліва агледзеў тварэнне ягоных рук ды ад вялікага ўражання прысвіснуў. Потым паспрабаваў узяць у руку. “Лялька” не змяшчалася.

– Перастараўся, – канстатаваў ён.

—Не. Я адразу планаваў на тры.

– Тры?! Навошта?

– Пракурор і два міліцыянты.

– А ты, я бачу, хлопец-хват.

– Хват, хват, – пакрыўдзіўся Мармулак. – Кожны з вас хоча ўхапіць як мага болей.

– Я сваю долю добрасумленна адпрацаваў, – сказаў як адсек адвакат.

– Ім усё мала. Аднялі ў бандытаў цэлы арсенал ды прыхавалі. Збіраюцца несці на “Дынама”. Ведаеш, колькі “баксаў” грабануць!

– О! – прагудзеў Антон Паўлавіч. – Гэта істотна мяняе сітуацыю... Крахаборы, крахаборы, – ён стаў мераць пакой. – Вакол адны крахаборы. Але ўсё роўна паперы не псуй. Можа, дзеля чаго спатрэбіцца. У гэтым выпадку ўсё чыніцца проста і нецікава. Пасылаем іх на “Дынама” і паведамляем ананімна кампетэнтным органам. Усё творыцца чыстымі рукамі.

– Прымаецца, – радасна ўскрыкнуў Матыль і распачаў адбіраць лішнія паперкі.

## У нас

Вярнуліся Піцькін і Мышкаловіч. На іх тварах было напісана, што ўсё падрыхтавана на "выдатна". Найбольшае задавальненне меў радавы Мышкаловіч. "За мужнасць і геройства, праяўленыя пры затрыманні арганізаванага бандфармавання" яго ўзнагародзілі імянным свістком і ўручылі каштоўны падарунак – боты. Начальнік раённага аддзела, у якім служылі міліцыянты, атрымаў ганаровую грамату. Начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю пры міністэрстве, з-за адсутнасці ў дзяржаве медалёў, меў павышэнне па службе і значную грашовую прэмію.

– Так, калегі, па справе, – каб мець больш сур'ёзны выгляд, павесіў на нос акуляры Антон Паўлавіч. – Бачу, што да аперацыі ў нас усё падрыхтавана...

– Хлопцы нават на відэакамеру будуць здымаць, – пахваліўся сяржант Піцькін.

– Значыць, поспех гарантаваны.

– Працуем чыста.

– Аж занадта, – зняў акуляры адвакат. – Куды свой арсенал дзелі, працаўнічкі?

Міліцыянты пераглянуліся, потым скіравалі свае позіркі на Мармулка.

– Здаў?

– Я? – вочы небаракі пакруглелі і сталі падобныя на вочы перапуджанага ката. – Каб мне з гэтага месца не сысці.

– Супакойцеся, калегі! Справа ў іншым. Дзядуля аднёс ваш арсенал да сваёй каханкі, а тая палічыла, што ён здраджвае ёй са сваёй жонкаю, і напісала на дзеда ў міліцыю скаргу. Вашаму начальству. Праўда, прозвішчаў вашых яна не ведае. На месца, так сказаць, здарэння яшчэ ніхто не выязджаў. Таму вам неабходна спяшацца.

Мышкаловіч ірвануўся да дзвярэй.

– Куды? – ускрыкнуў адвакат.

– Што гэта значыць – куды? Сам сказаў спяшацца.

– Пачакайце, пацерпіць. Паўгадзіны туды, паўгадзіны сюды – нічога не зменіцца, – прымірэнча сказаў Мармулак.

– Сапраўды, супакойся, – умяшаўся ў гутарку Піцькін. – Можа, лепш прадаць зброю тут, у сваім аддзеле? Упэўнены, умомант разбяруць.

– Разбяруць, разбяруць, а чым заплацяць? – катэгарычна запярэчыў Мышкаловіч. – “Зайчыкамі”. У лепшым выпадку. Іншыя будуць сунуць свісткі, боты, гумовыя палкі, партупеі.

– Згодзен, згодзен, – пагадзіўся сяржант і даўся дзіву, што радавы яшчэ можа думаць. – Праз паўгадзіны так і зробім.

– Рады, што вы знайшлі паразуменне, – дыпламатычна падвёў вынікі іх спрэчкі Антон Паўлавіч ды зазначыў: – Калі ў будучым у вас узнікнуць праблемы, звяртайцеся. Я да вашых паслугаў.

– Абавязкова, – узрадаваўся сяржант. – Дзякуем.

– Тады наперад. Не будзем губляць час.

Мармулак сеў у фатэль адваката і ўпершыню за апошні месяц адчуў стому ва ўсім целе.

Пракурор Суровых сядзеў за сталом і з важным выглядам маляваў чорцікаў. Мышкаловіч адчыніў дзверы, няспешна падышоў да стала. Гаспадар кабінета пільна глянуў паверх акуляраў і спакойна працягваў занятак: дамалёўваў супастату рогі.

– Тут я вам нешта павінен перадаць, – неяк няўпэўнена сказаў міліцыянт.

– Давай, давай, – рашуча запатрабаваў Суровых, але не падняў вачэй ад паперы, а толькі працягнуў руку і ўзяў “ляльку” ды тут жа патрос: праверыў на вагу. Не падымаючы вачэй і надалей, ён паклаў хабар у кішэню.

Тут у пакой уварвалася аператыўная група ды надзела Суровых на рукі кайданкі.

Міліцыянты спяшаліся і таму не сталі вяртацца ў пакой да адваката, а толькі патэлефанавалі ды коратка распавялі, як усё адбылося.

– А як усё будзе там, на базары? – занепакоіўся Пётр Іванавіч. – Паглядзець бы...

– Калі такі цікаўны, дык схадзі пагляздзі, можа пашанцуе – сведкам будзеш. А можа і кампаньёнам пойдзеш...

– Не-не! Шчыра дзякую. Няма ніякага жадання, – замахаў рукамі Мармулак.

– Тады нам з табою засталося толькі адно: “падбіць бабкі”.

– Можа мне пераапрануцца? – запярэчыў Матылёнак, аглядваючы свой скамечаны гарнітур. – Не магу ж я ў такім выглядзе паказацца на людзі.

– Шаноўны! Вы што, збіраецеся на прыём да англійскай каралевы? Не. У вас нармальны рабочы выгляд. Хоць зараз ідзі на вакзал жабраваць...

– Гэта маё працоўнае месца.

– Даруй, калі ласка. Ну, добра! Скончым непатрэбныя дыскусіі.

Старая падпольшчыца ў сувязі з адсутнасцю чарнільнавіннай прадукцыі ў тутэйшых крамах, за якую яна штодзённа шчыра ўспаміналa магутны Савецкі Саюз, родную Камуністычную партыю ды несусветна кляла яе апошняга генеральнага сакратара за яго недальнабачнасць у справе спынення вытворчасці гэтага прадукту, што несумненна прывяло да распаду такой вялікай дзяржавы, яшчэ не апахмялілася, а ішла ўжо другая палова дня. Купіць гарэлку з такімі гучнымі назвамі, як “Распуцін”, “Магічны крышталь”, “Крамлёўская” і яшчэ добры дзесятак назваў, з незлічонай колькасцю медалёў на этыкетках, што прадпрымальныя людзі гналі ў глухіх лясах пад Беластокам, яна не мела грошай. У яе пакойчыку ў інтэрнаце, які ёй выдзелілі як прыбіральшчыцы, акрамя медалёў, вайсковай гімнасцёркі сорак пятага года ды рабочага халата, не было нічога. Кватэры ў яе не было ніколі. Не было з тае простае прычыны, што ніколі не было сям’і.

У маладосці яна была вельмі прыгожая жанчына, і таму яе вельмі часта запрашалі розныя начальнікі аддзелаў, сакратары райкамаў пасля напружанага паседжання ці семінара па абмене перадавым вопытам папарыцца ў лазні ці з’ездзіць на прыроду. У гады яе маладосці такіх мерапрыемстваў было нагэтулькі шмат, што думаць пра стварэнне сям’і не было часу. Потым кватэра ёй стала непатрэбнаю. У інтэрнатах, дзе моладзь, было весялей. Весялей было і ад таго, што яе як былую падпольшчыцу часта запрашалі на розныя злёты, у школы. Раней тое рабілася часцей. Цяпер пра яе зусім забыліся. Раней яна сяды-тады атрымлівала юбілейны медалік ды канверт, у якім было дзесяць рублёў. Грошы яе тады не вабілі. Цешыла душу павага. Потым – а гады прабеглі так хутка – пайшла на пенсію, і ёй перасталі па-святочнаму ўручаць медалі з канвертамі.

Праўда, да розных рэвалюцыйных святаў дасылалі паштоўкі. Урэшце не стала і гэтых віншаванняў. На яе ўвогуле ўсе забыліся. Так знакамітая падпольшчыца Яўгенія Максімаўна Лазарэвіч ператварылася ў звычайную прыбіральшчыцу бабу Жэню, старую і сварлівую жанчыну.

З'яўленне ў яе пакойчыку людзей было промнем святла ў сённяшні хмурны дзень. Яна, як у лепшыя гады сваёй маладосці, калі даводзілася сустракаць пажаданых начальству гасцей, шырока развяла рукі ўбакі, заплюшчыла вочы і падалася ўперад. Звялымі губамі чмокнула ў шчаку Мармулка. Антон Паўлавіч, які ішоў следам, зразумеў усё на свой лад.

– Вядома, вось чаму ты хацеў быць апранутым ад Валянціна. І даўно гэта ў вас?

– Я пазнаёміўся з бабаю Жэняю, як толькі паступіў ва універсітэт. Ужо болей як шэсць гадоў.

– Багата часу прайшло, – усё з той жа іроніяй працягваў гутарку адвакат. – Вы свае адносіны зарэгістравалі ці проста так?..

– Ды не, што вы! Якая рэгістрацыя, – тут Мармулак зразумеў, што з яго проста смяюцца. – Вы што, мяне за дурня лічыце, ці як? Каб я...

– Супакойся. У жыцці ўсялякае бывае. Але давай хутчэй да справы. Мяне чакаюць кліенты.

– Баба Жэня, – звярнуўся да яе былы студэнт, якога яна не раз лупцавала шчоткаю і не баялася, што той можа адказаць. – Мы да вас па справе.

– Без былой падпольшчыцы ніхто не можа абысціся, – раскракталася старая ды падалася да тумбачкі. – У мяне тут ёсць кавалачак ліварнай каўбаскі, – з гэтымі словамі яна паклала на стол нешта шэра-цёмнага колеру. Пакой запоўніў ванітоўны пах. – Спадзяюся, хлопцы прынеслі з сабою па сто грамаў для апетыту.

Антон Паўлавіч палез у кішэню па насоўку. Мармулак атуліў нос рукавом.

– Кейс давай, старая карга! – адкінуўшы ўсялякія культурныя выкрунтасы са словамі, закрычаў адвакат.

– Пецечка, ты чаго мне немца сюды прывёў? Я ж іх, фашыстаў, у вайну сваімі рукамі душыла, і гэтага задушу.

Жанчына была настроена рашуча і па старой партызанскай звычцы ўхапілася за нож.

– Баба Жэня! Баба Жэня! Супакойцеся. Антон Паўлавіч – свой чалавек. Ён мяне ад турмы ыратаваў.

– А чаго ён тут мне па-нямецку гергеча? “Кейс, кейс”... “Аўсвайс, аўсвайс”...

– Вы той чамадан зберагллі?

– Голубе ты мой! – прыбіральшчыцу пацягнула на лірычны лад. – За каго ты мяне лічыш?! Не верыш слову старой баявой падпольшчыцы?

– Верым, верым, – азваўся наваспечаны іншаземец. – Толькі паклажу хутчэй давай.

– Не загадвай мне тут, уласаўская морда, – тупнула нагою старая. – Я вас, гадаў, за тысячу кіламетраў нюхам чую... Даў мне Пецечка рэч на схову, яму і аддам.

Старая выйшла, а сэрца былога інваліда забілася ў хваляванні. “А калі там нічога няма? Калі хтосьці такі, як ён, праверыў, што там знаходзіцца, і з'ехаў ужо на Канары?”

Час цягнуўся неймаверна павольна. Мінула толькі пяць хвілін, а здавалася, што прайшло некалькі гадзін. Раптам дзверы адчыніліся і ў праёме з'явілася кучаравая галава.

– Ёсць тут мужчыны ці няма?

Антон Паўлавіч з Матылём, сапучы ды крэкчучы, зацягнулі дыпламат у пакой. Падняць яго аднаму было проста немагчыма.

– Давай, Пецечка, адчыняй сваю скрынку ды лічы свой капітал. Я нічога не брала.

Мармулак дрыготкімі рукамі пачаў адчыняць дыпламат. Яго напарнік лічыў, што грошы не могуць быць такімі цяжкімі, ды з'едліва пасміхаўся. У рэшце рэшт, шчоўкнулі замкі і кейс адкрыўся. У вачах адваката і былога падсуднага зазелянела.

Мармулку хацелася спяваць і плакаць адначасова.

– Бярыце, – звярнуўся ён да прыбіральшчыцы і Антона Паўлавіча.

– Патрэбна мне гэта зелень!.. Я яе і задарма не вазьму, – фыркнула кабета. – Лепш савецкіх рублёў не было і не будзе валюты.

– Правільна кажаце, таварыш падпольшчыца, – на поўным

сур'ёзе сказаў адвакат ды ўзяў адзін пачак і паклаў сабе ў кішэню.

– Бярыце яшчэ, – горача прасіў былы падсудны свайго адваката.

– Хопіць. Усяму ёсць норма, – запэўніў чалавек закона свайго кліента. – Я думаю, што ў хуткім часе ты сам прынясеш яшчэ частку гэтых купюраў.

– Не разумею.

– Тлумачу. Чым у чалавека болей грошай, тым часцей ён ідзе ў канфлікт з законам. А калі так, то ўзнікае неабходнасць у маіх паслугах. Вось і ўсё. Да пабачэння.

Антон Паўлавіч выйшаў, заціскаючы нос хусцінкаю.

Пётр Іванавіч Матыль цяжка ўздыхнуў і сеў на ложак.

## КАРЫСНАЯ ПАРАДА

Радасць Пятра Іванавіча Матыля, што нарэшце скончацца яго жабрацкая доля й пакуты, якая месцілася ў патаемных схронах душы, змяніў звычайны жывёльны жах. Жах перад тым, што ўвесь гэты капітал, на які можна купіць амаль што ўсю нерухомасць нашай незалежнай дзяржавы, давядзецца аддаць. Аддаць добраахвотна. Ні за што. Проста так. Ён верыў кожнаму слову адваката, чалавека спрактыкаванага ў такіх справах, тактоўна-нахабнага, жорстка-практычнага. Настрой штохвілінна падаў.

Сітуацыя была тупіковая. Мармулак нават не мог уявіць, як можа здарыцца тое, што пазбавіць яго грошай, але быў у гэтым упэўнены.

Яўгенія Максімаўна паспрабавала прыбраць дыпламат, які ляжаў пасярод пакоя і замінаў ёй. З вялікімі высілкамі, зноў цяжка крэкчучы, жанчына змясціла рэч у інтэрнатаўскую шафу.

– Пець, а Пець, – звярнулася прыбіральшчыца да госця, які ў роздуме сядзеў на яе ложку. – Як ты давалок сюды гэты цяжар? Я напачатку думала, што там поўна цэглы.

Пеця няспешна ўстаў ды паспрабаваў падняць кейс. Толькі з трэцяй спробы ён змог зрабіць гэта.

– Сам не ведаю, – пацісінуў плячыма хлопец. – У той момант ніякага цяжару не адчувалася.

– А гэта заўжды так, калі што-небудзь крадзеш, – пагадзілася

старая. – Папера сапраўды цяжкая. Памятаю, як я разам з камісарам Паўлам Антанюком несла ў мястэчка лістоўкі. Во намучыліся. Колькі разоў спыняліся. Не толькі, каб адпачыць, вядома. Справа маладая, на потым адкладваць нельга.

Успаміны слаўнага мінулага баявой падпольшчыцы адлюстраваліся ў гэты момант на яе твары. Ён азарыўся полымем шчырай усмешкі.

– Адным словам, так, Пецечка. Слова я сваё стрымала. Тваё даручэнне выканала. Пакуль каўбаска яшчэ свежая, – пры слове "каўбаска" ранішняя турэмная баланда памкнула назад, але Пецяі заціснуў рот рукамі, – гані ў краму. Літар. І памятай: крашанай не п'ю.

Мармулак паспешліва выцягнуў з кейса стодаляравую купюру і памкнуў з пакоя.

Ля абменнага пункта валюты па вуліцы імя Карла Маркса, які так шальмаваў атрыманую капіталістамі дабаўленую вартасць, стаялі два барадатыя і картавыя дзядзькі. Адзін з іх – рыжы і ў акулярах – запытаў у Пятра:

– Пр-радаеш?

– Прадаю.

– Колькі?

– Сто.

– Юзік, – паклікаў рыжы свайго барадатага калегу з бел-чырвона-белым значком. – Дуй сюды. Бабкі выгараюць.

Барадаты з належнаю пыхаю местачковага нацыяналіста, з былым гонарам тутэйшага шляхціца спаважна падышоў да іх.

– Колькі? – азіраючыся па баках, прыцішана запытаў нацыяналіст.

– Стольнік.

– Бяром, – не павышаючы голасу, пагадзіўся Юзік.

Мармулак падаў купюру ў сто даляраў.

– Віця, – звярнуўся Юзік да рыжага. – Глядзі, падробка... Пэўна, падр-робка.

Сівабароды нацыяналіст з недаверам стаў вывучаць знешняе аблічча Пятра.

– Віця, – незадаволена чмыхнуў ён. – Навошта... Нам хопіць.

Як толькі Матыль адышоў, Юзік пачаў махаць рукамі, круціць пальцам ля скроні ды штосьці выгаворваць свайму напарніку. Той моўчкі калупаўся пальцам у носе. Чуваць былі толькі асобныя словы:

– Пень!.. Выгляд... паглядзі... сметніку...

Не варта было мець настаўнікам Кашпіроўскага, каб зразумець сэнс гэтых выказванняў.

Дзяўчына ў пункце абмену валюты ўзяла купюру, прабеглася па ёй пальцамі, паклала на нейкую машыну, прасвяціла ды ўзялася лічыць беларускія рублі. Потым схамянулася і ўважліва паглядзела на кліента.

– Прашу прабачэння, – зашчабятала дзяўчына, – у нас брак наяўнай беларускай валюты.

Матыль, як толькі стаў падымацца па лесвіцы на выхад, пачуў перамовы дзяўчыны з ахоўнікам.

– Неабходна патэлефанаваць у міліцыю. Ён, пэўна, украў гэтыя сто баксаў. Надта ўжо выгляд у яго хіповы, быццам толькі-толькі выцягнулі са сметніцы.

– Не варта нам звязвацца з лягавымі. Можа, яны нам і падаслалі гэтага кента.

Матыль як апараны выскачыў на вуліцу імя знакамітага камуністычнага тэарэтыка ды подбягам паспяшаў на вуліцу імя не менш знакамітага камуністычнага практыка. Тут яго спыніў рыжабароды Віця:

– Крадзеныя.

У Мармулка перахапіла дых.

– Калі не пазначаныя, дык давай па абменнаму курсу.

– Глядзі, падзаляціш, сухар-ры насіць не буду, – пракартавіў нацыяналіст.

Такую колькасць наяўнай беларускай валюты Мармулак ніколі за свае дваццаць чатыры гады жыцця не трымаў у руках. Ён адразу памкнуў у краму, што знаходзілася тут жа на скрыжаванні вуліц знакамітых барацьбітоў за светлую будучыню чалавецтва. Тут ён расплаціўся за пакупку нацыянальнай валютай і, надзіва, ніхто не стаў правяраць яе сапраўднасць. Адно толькі, на што звярнулі ўвагу дзяўчаты за

прылаўкам, што жабрацкага выгляду чалавек купляе такія дарагія каўбасы. Самы багаты ў дзяржаве чалавек паспешліва выскачыў на вуліцу. Там Мармулак быў свой. Працягні руку – і сустрэчныя адразу пачнуць класці туды скамечаных "звяроў".

Яўгенія Максімаўна цярпліва чакала Пецечку. Парэзала знакамітую каўбаску. Падзяліла сухарык і нават памыла шклянку.

Пяць пляшак гарэлкі, некалькі кілаграмаў розных гатункаў каўбасы ды торт расхвалявалі жанчыну так, што яна схапілася за грудзі. Штосьці кальнула пад сэрцам ды перахапіла дых. Ёй адразу ўспомнілася маладосць, калі яны куплялі дзесятак тоўстых тлустых селядцоў, магчыма, яшчэ болей пляшак гарэлкі ды "завальвалі" – якое цудоўнае вызначэнне спосабу хадзіць без запрашэння ў госці! – да каго-небудзь у інтэрнатаўскі пакой. І гулялі!..

Аб тым, што адвакат гаварыў праўду, Мармулак яшчэ раз упэўніўся на вуліцы. Грошы прыносяць клопат – як поўная іх адсутнасць, гэтак і неабмежаваная іх наяўнасць. Як знайсці залатую сярэдзіну, каб жыць без турбот ды клопату, шчаслівы ўладальнік "Банка Манхэтан" не ведаў. Патрэбны дарадца. Можна было звярнуцца да адваката, але, як апошні недвухсэнсоўна папярэджваў, давядзецца плаціць. Прызвычаены лічыць кожную капейку ды трэсціся за кожны рубель, Мармулак жадаў мець параду, за якую не ўзнікла б неабходнасці плаціць "зялёненькімі".

Было ад чаго засумаваць. Пасля першай чаркі сум узмацніўся. Пасля другой – пачало трэсці, быццам у ліхаманцы. Былая падпольшчыца заўважыла непакой госця ды распачала суцяшаць: "Што ты, дзіцятка маё, лупы надуў? Можа, лярва якая пакрыўдзіла цябе? Адмовіла такому волату?" Мармулак заплакаў, і чым болей яго суцяшала жанчына, тым больш ліліся слёзы. Не дапамагло і тое, што яго, як малое дзіцё, пачалі гладзіць па галаве. Баявой падпольшчыцы надакучыла бачыць слёзы мужчыны, і яна рашуча перайшла ў наступ. Наліла поўную шклянку гарэлкі, падала яе Пятру Іванавічу ды грозна загадала:

– Пі!

Ну хто адмовіць жанчыне, нават калі яна на пенсіі, выпіць прапанаванае ёю?

Пецечка толькі з трыма перадыхамі асушыў посуд.

– Слабыя мужыкі цяпер пайшлі, – канстатавала Яўгенія Максімаўна. – А цяпер кажы, што ў цябе здарылася.

Мармулак, хлюпаючы носам, прамовіў:

– Што мне рабіць з гэтымі грашыма? Адбяруць.

– Хто?

– Тыя, хто ведае, як карыстацца імі. Яны ведаюць, а я — не. Вось адвакат так і сказаў: сам прынясеш мне грошы. А я не хачу проста так нікому іх аддаваць. Што мне рабіць, баба Жэня? Падкажыце.

– Знайшоў мне задачу, – старая адным глытком каўтнула шклянку “Пасольскай” беластоцка-лясной вытворчасці ды ляпнула далонню па плячы хлопца. – Грошы не даюць толькі дурні.

– Ну і што?

– Як што?! Здабудзь даведку, што ты дурань, і ўсе праблемы твае будуць вырашаны. Закон будзе на тваім баку, а не супраць цябе.

– Як гэта зрабіць? – шмаргануў носам бедалага.

– Як зрабіць? Вельмі проста. Даць "на лапу", – жанчына гаварыла цвёрда, самаўпэўнена. Па ўсім бачна, мела ў такіх справах багаты вопыт.

– Ідэя! – пагадзіўся п’яны госць, ды рука сама пацягнулася па пляшку.

– Быў і ў мяне такі выпадак. У свой час не хацелі мяне браць на адну працу. Сакратаром-машыністкай у райвыканкам. Мала партыйнага стажу. Я і так, я і сяк. Нічога не атрымліваецца. Я да Пашкі Антанюка— дапамажы. Ён патэлефанаваў куды трэба – прынялі. Потым выклікае мяне і кажа: “Каб у будучым ты не мела клопату, выдам я табе адну даведку”. І выдаў паперку, што я былая падпольшчыца. Папраўдзе табе кажу, што я такой не была. Паўгода ў партызанскім атрадзе кашаварыла, а падпольшчыцай не была. Так што запомні: паперка – моц.

Потым яны зноў пілі, потым спявалі – кожны на свой лад, пакуль іх не супакоіў камендант ды не стаў трэцім у іх нялёгкай справе.

Праз колькі гадзін распачаліся расказы пра партызанскія баі.

Камендант і Мармулак мірна храплі ў ложку баявой падпольшчыцы.

# НА ШЛЯХУ ДА СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ

Натан Якаўлевіч Абрамовіч, як толькі падзьмуў вецер пераменаў у былым Савецкім Саюзе, адразу заняўся прыватнаю практыкаю. Не! Дзяржаўную службу ён таксама не пакінуў. Быў у Натана Якаўлевіча кабінецік у гарадской паліклініцы. Былі гадзіны прыёму. Не міналі і хворыя. Тут жа, у гэтым будынку, толькі з другога боку, вісела яшчэ адна шыльда. На ёй красаваўся такі надпіс: “Гаспадарча-разліковае міжраённае тэрытарыяльнае медыцынскае прадпрыемства”. На самым-самым нізе шыльды дробненькімі літарамі ў дужках стаяў допіс: “Прыватная паліклініка”.

І тут Натан Якаўлевіч таксама меў кабінет. Ён, як і ўсе астатнія дактары, хворых прымаў у дзяржаўным кабінеце ў рабочы час. Ён аднолькава выслухваў ды выстукваў хворых, пісаў бюлетэні ды выпісваў лекі. Розніца паміж кабінетамі была ў тым, што ў першы кабінет заходзілі ўсе, а ў другі – тыя, хто хацеў вылечыцца. Пасля абеду яны туды звычайна неслі грошы ды атрымлівалі дэфіцытныя лекі, што меліся ў дзяржаўнай аптэцы, дзе працавала яго жонка Роза Ільінічна. Бізнес быў, вядома, невялікі, але хворым было прыемна, што Натан Якаўлевіч прыкладае ўсе намаганні (ён заўжды казаў так хворым і вымушаў іх звяртацца да сябе па некалькі разоў), каб здабыць патрэбныя парашкі ці мікстуру.

У той дзень псіхіятр Натан Якаўлевіч Абрамовіч быў у скрусе. На прыёме нікога не было. Людзі чамусьці не хварэлі. Доктар маліў Бога, каб той наслаў на жыхароў сталіцы нейкае ліха ды яны валам павалілі ў лякарню, і толькі ў яго кабінет. Бог яго не слухаў, людзі не хварэлі і абставіны складваліся так, што сёння зноў давядзецца апраўдвацца перад жонкай ды слёзна цвердзіць, што не займаўся блудам з медсястрой Алінаю і не аддаў ёй дзённы “гешэфт”.

Дзверы адчыніліся якраз у той момант, калі Натан Якаўлевіч збіраўся патэлефанаваць жонцы ды паскардзіцца на адсутнасць пацыентаў, каб вечарам не мець непатрэбнай гутаркі са сваёю “Голдай Меір”. На парозе з’явіўся нізкарослы малады чалавек. Выгляд ён меў даволі непрывабны.

Павіталіся. Доктар запрасіў пацыента сесці. Было такое адчуванне, што з гэтым жабрацкага выгляду чалавекам яму даводзілася сутыкацца. – Натан Якаўлевіч, – сказаў пацыент. — я хачу мець пенсію.

Іншага пажадання прыдумаць было нельга. Мармулак сам не разумеў, чаму так распачаў размову. Сказаць: "Доктар! Дайце мне даведку, што я дурань", – мог толькі сапраўды хворы на галаву чалавек.

– Атрымаць пенсію вельмі проста. Гадоў, так сказаць, праз трыццаць вы яе будзеце мець. На жаль, не ведаю дакладна вашага ўзросту.

– Хачу зараз, – стаў настойліва патрабаваць кліент.

– Хіба толькі па інваліднасці.

– Як гэта?

– А вельмі проста. Адрэжце нагу ці руку, скруціце шыю – і пенсія вам гарантавана.

– Э-э! У такім выпадку я пайшоў бы на прыём да хірурга. Такі варыянт мяне не задавальняе.

– Мае спачуванні, – уздыхнуў доктар. – Увогуле я вас разумею: адсутнасць працы, неўладкаванасць у жыцці. Пенсія – хоць нейкая крыніца грашовых паступленняў...

– Ды не патрэбныя мне вашы грошы! – ускрыкнуў у адчаі будучы кліент аддзела сацыяльнага забеспячэння. – У мяне сваіх няма куды падзець.

З гэтымі словамі Мармулак кінуў на стол перад доктарам пяць стодаляравых купюр.

– Ну выдайце мне даведку, што я хворы на галаву.

– Вы, выпадкам, не з КДБ? – прыцішана запытаў Натан Якаўлевіч.

– Ды не ж! Мне параіла звярнуцца да вас баба Жэня, даруйце, Яўгенія Максімаўна.

– А! – усмешка была шчыраю. – Старая падпольшчыца. Хлопчыкі яе яшчэ не забываюць. Веру, што вы не з органаў. Распавядайце сутнасць вашай справы...

– А можна без падрабязнасцяў?

– Можна, – неяк своеасабліва ўсміхнуўся доктар. – Але...

Яшчэ адна купюра легла побач.

– Адчуваю, што мы знойдзем паразуменне... Тут справа вось у чым. Скажам, партрэт Машэ Даяна вам не падыходзіць, – Натан Якаўлевіч добра ведаў гісторыю сваёй спрадвечнай Айчыны. – Інваліднасць, як вы сказалі, таксама не падыходзіць. Сапраўды, самы прымальны варыянт: даведка аб тым, што вы дурань. Кім вам даспадобы быць: буйным, ціхім? Параноікам, шызафрэнікам?

– На ваша меркаванне. Але толькі не надта страшнае. Людзі і сапраўды могуць падумаць, што я дурань. Што-небудзь простае на лацінскай мове, каб ніхто не зразумеў.

– Вам яшчэ неабходна будзе прайсці тэсты, здаць аналізы. Самі разумееце – цэлая медыцынская бюракратыя...

Мармулак палез у кішэню па грошы. Дзверы прачыніліся. Доктар неўпрыкмет задрыгаў пальцамі, паказваючы, каб кліент зараз жа прыбраў усё непатрэбнае са стала. Мармулак згроб даляры ў кулак і паспешна прыклаў яго да сэрца ды скрывіў твар, каб наведвальнік прыняў тое за боль... Увайшла медсястра Аліна. Цырк, які паказваў абарванец, не ўвёў яе ў зман. Не такое даводзілася бачыць. Дзяўчына ўзрадавалася: сёння можна выдурыць у гэтага куркуля сабе на добрыя зімовыя боты.

– Натан Якаўлевіч! Я сёння вам патрэбная?

– Ды не, золатца маё! Як бачыш, на прыёме нікога няма.

– Я тут буду, у суседнім кабінеце. Як будзеце вольныя – паклічаце.

Натан Якаўлевіч агледзеў ладны стан медсястры ды ад задавальнення закруціў галавою.

– Жыццё, жыццё, – як толькі Аліна зачыніла за сабою дзверы, развёў рукамі Абрамовіч. – Давайце цяпер вернемся да нашай справы... Даруйце, вашай. Вы гэта, калі ласка, схавайце, бо да мяне ў любы момант могуць зайсці хворыя. Я вам веру. Бачу, вы чалавек сур'ёзны.

– Я вам, доктар, адразу аб гэтым сказаў, – адказаў Пётр Матыль і тут жа, на вачах у Натана Якаўлевіча, дастаў з кішэні пук грошай, даклаў да іх той прэзент, што меўся даць.

Абрамовіч з усіх колераў і адценняў больш за ўсё на свеце паважаў шэра-зялёны.

– Зараз мы ў вас возьмем неабходныя аналізы, правядзём шырокі кансіліум...

– Я хацеў бы, каб гэты кансіліум быў як мага вузейшы, – заўважыў кліент. – Нікому з нас лішняя пагалоска непатрэбна. Так ці не?

– Бачу, бачу цвярозыя меркаванні... дурня. Выбачайце за такі каламбур... Кансіліум будзе вельмі вузкі. Я і мая медыцынская сястра. Думаю, вы не супраць?

Адчуўшы падатлівасць доктара, Мармулак пачуўся ўпэўнена і нават дазволіў сабе пакпіць з Абрамовіча:

– Ды не, я нікольki. Можа, хіба ваша жонка будзе супраць.

– Пагадзіцеся, малады чалавек, – уздыхнуў Натан Якаўлевіч ды пагладзіў сваю лысіну, – усё ж прыемна трымаць прыгожую кветку ў руках, хоць і абыходзіцца яна дорага... Мы зноў адышлі ад тэмы. Пакіньце свае дадзеныя і прыходзьце гадзіны праз тры. Уваход з супрацьлеглага боку будынка.

– Цудоўна! – ледзь не ўскрыкнуў добраахвотны кандыдат у дурні. – Так мы з вамі зробім натуральны абмен: я вам – грошы, вы мне – даведку.

– Згодзен, – выказаў сваё задавальненне доктар ды неяк няўцямна дадаў: – Я хацеў бы задатак.

Мармулак адчуў сябе яшчэ больш упэўнена і стаў паводзіць сябе нахабна. Паклаў на стол стодаляравую купюру ды зазначыў:

– Тое аплата вашаму асістэнту за станоўчыя аналізы. Спадзяюся на яе добрасумленную працу.

Натан Якаўлевіч хіхікнуў ад задавальнення ды пастукаў у сценку.

## ВЫПРАБАВАННЕ НАДЗЕЙНАСЦІ

Пётр Іванавіч Матыль прыйшоў у “Гаспадарча-разліковае міжраённае тэрытарыяльнае медыцынскае прадпрыемства” ці, карацей кажучы, у прыватную паліклініку роўна ў вызначаны тэрмін. У кабінеце знаходзіліся доктар і медыцынская сястра. Натан Якаўлевіч выціраў насоўкаю ўпрэлую лысіну ды трымаў у руках нейкую паперку. Аліна стаяла ля акна і весела ўсміхалася.

– Не перашкодзіў? – запытаўся Матыль.

– Не! Вось мы тут з Алінаю Міхайлаўнаю абмяркоўваем вашыя аналізы. Як ні сумна мне вам гаварыць, але ў вас назіраецца вельмі рэдкае захворванне. Вялікай сацыяльнай небяспекі для грамадства вы не ўяўляеце, але тым не менш неабходна прыняць нейкія пэўныя захады для перасцярогі... Алінка, золатца маё, пакінь нас на некалькі хвілінаў... я павінен хвораму штосьці сказаць адзін на адзін. Прафесійная этыка вымушае мяне рабіць менавіта так.

Медсястра сталася незадаволенаю:

– Звычайна фінансавыя пытанні з кліентамі вы вырашаеце ў маёй прысутнасці.

– Якія фінансавыя пытанні, золатца маё? Да гэтага яшчэ далёка; – Натан Якаўлевіч меў намер хоць нейкую частку грошай прынесці дадому, бо паўгадзіны таму меў па тэлефоне гутарку з жонкаю, якая катэгарычна папярэдзіла наконт грошай. Маглі быць вялікія непрыемнасці. – Ды хіба можна што-небудзь узяць з гэтага бедалагі? Паглядзі на яго вопратку.

– Не хвалюйцеся за яго. Назбіраў, седзячы ў падземным пераходзе ля ГУМа.

Мармулак здзівіўся: сапраўды, колькі людзей ведае яго!

Медсястра Аліна вымушана была ўсё ж выйсці.

Яна далёка не пайшла, а спынілася адразу тут жа, за дзвярыма. Пачуць размову паміж доктарам і пацыентам не давялося – занадта тоўстыя былі дзверы.

Праз пару хвілінаў хворы з радаснаю ўсмешкаю на вуснах выйшаў з кабінета.

– Можа, мне што-небудзь заплаціш? – сціпла запытала дзяўчына.

Душа спявала серэнады. З такім настроем можна рашыцца на любую авантуру, але перабягаць дарогу доктару Мармулак не адважыўся.

– Натан Якаўлевіч мяне не зразумее.

—Добра! – рашуча прамовіла Аліна. – Тады мне стары хрыч усё да капейкі аддасць сам.

З гэтымі словамі яна рушыла ў кабінет.

Пётр Іванавіч, перш чым распачаць новае жыццё новага беларуса, вырашыў праверыць моц свайго дакумента, які, па словах

знакамітай падпольшчыцы, павінен быў гарантаваць яму бестурботную светлую будучыню. Адразу пасля паліклінікі ён памкнуў ва універсам. Да касы, выгінаючыся гадзюкаю, стаяла доўгая калейка. Эксперыментатар узяў бохан хлеба, дзве пляшкі мінеральнай вады і пашыбаваў да касы.

– Ты куды рогам прэш, карантыш?! – паклаў руку на плячо двухметровы граміла. – Не бачыш, дзе канец чаргі?

– Я магу і не плаціць, – спакойна адказаў Мармулак, – калі вы так хочаце.

Касірка адразу паклікала зальную.

– Чаму гэта ты не будзеш плаціць? – узяла ў рукі металёвую карзіну дзесяціпудовая жанчына.

– Ды вось яны, – нахабнік паказаў на людзей, што стаялі ў калейцы, – не даюць магчымасці заплаціць за пакупку.

– Станьце ў калейку.

– Не лічы сябе самым разумным.

– Бач, які хітры знайшоўся.

Загула зладжана, у адзін голас, калейка.

– Я маю права. У мяне даведка, – і Мармулак паказаў паперку.

Высокі і мажны мужчына выхапіў яе з рук карантыша ды стаў чытаць. Праз хвіліну ён зазначыў:

– Нічога не разумею, што тут напісана.

– Там напісана, што я дурань, – цвёрда ды ўпэўнена адказаў уладальнік паперкі ды з гонарам паклаў дакумент у кішэню.

– Таварыш, – сказала старэнькая кабета, што дагэтуль паўгадзіны вымушана была стаяць у калейцы, – не звяртайце на іх увагі, разлічвайцеся.

– Давайце сюды грошы за тавар, – звярнулася ветліва да Мармулка зальная.

Калейка аціхла. Толькі адзін неразумны ды недавучаны студэнт пакруціў пальцам ля скроні, але яго зараз жа спынілі:

– Супакойся, дурань.

У гэтым выпадку Пётр Іванавіч не прамінуў зазначыць:

– Правільна кажаце, людзі. І ён дурань. Толькі ён дурань без даведкі, а я — дурань з даведкаю.

Мармулак выйшаў з крамы ды адразу наўскасяк стаў

пераходзіць праспект. Машын было вельмі шмат. Яны сігналілі, каб пазбегнуць наезду на вельмі дзіўнага пешахода. На супрацьлеглым баку аўтамабільнай магістралі яго чакаў міліцыянт ды нецярпліва пастукваў дубінкаю па далоні. Яму на дапамогу спяшаўся яшчэ адзін супрацоўнік ДАІ.

– Сяржант Пэ-эп, – хутка ды незразумела прадставіўся ахоўнік парадку і зароў на ўсю ваколіцу: – Ты што, дурань, пераходу не бачыш? Правілаў дарожнага руху не ведаеш?

– Дурань я, дурань! – уздрыгнуў пешаход. – Вось мой дакумент. Толькі навошта тым папракаць ды палохаць? Я са страху піпі захацеў.

Мармулак аддаў міліцыянту паперку, а сам пашыбаваў да слупка ды пачаў яго арашаць. Падаспеўшы на дапамогу, калега замахнуўся ўжо дубінаю, каб агрэць мярзотніка, што прылюдна парушаў грамадскі парадак, але першы міліцыянт спыніў яго. Пакруціў ля скроні ды зазначыў:

– Не чапай! Хворы. Гэта ён са страху.

Шматлікія прахожыя ў другой палове таго дня са здзіўленнем назіралі, як у самым цэнтры сталіцы незалежнай дзяржавы, на галоўнай яе магістралі, пад аховаю двух міліцыянтаў спраўляў сваю патрэбу невысокага росту чалавек у пажмаканым гарнітуры.

Паперку міліцыянты вярнулі чалавеку, як толькі ён скончыў справу. Адзін з іх хацеў быў прачытаць лекцыю аб правілах вулічнага руху, але яго напарнік напаўголасу зазначыў, што тое дарэмная справа і няварта марнаваць час, бо ўсё роўна нічога не зразумее і не засвоіць, а лепш схавацца за вугал дома ды падпільнаваць новага рызыканта, з якога можна будзе спагнаць штраф.

Паперка дзейнічала адмыслова. Рызыкаваць здароўем, дражніць людзей і міліцыянтаў не мела болей ніякага сэнсу. Можна было распачынаць новае жыццё, асабліва не клапоцячыся аб тым, што давядзецца ўласнаручна несці грошы адвакату, што надарыцца мець справу з законам.

Мармулак спыніўся ля вялізнага рэкламнага шчыта. На ім красаваўся прыгожы мужчына ў элегантным касцюме. Надпіс сцвярджаў: “Толькі ў нас – самае элегантнае адзенне ад лепшых фірмаў свету. Заходзьце. Глядзіце. Купляйце”.

Салон моднага адзення месціўся за сотню метраў ад таго месца, дзе цяпер знаходзіўся падпольны багацей.

У салоне было бязлюдна і ціха. З цыбатаю дзяўчынаю шчабятаў адмыслова апрануты клерк. З'яўленне ў зале жабрацкага выгляду чалавека выклікала ў іх здзіўленне:

– Тут не падаюць.

Мармулак нахабна прайшоўся па зале ды сеў у фатэль насупраць іх.

– Мне вашыя падачкі не патрэбныя. Я проста хачу апрануцца. Згодна з вашаю рэкламаю, тут можна набыць самыя модныя рэчы. Калі гэта не так, дык я вымушаны буду звярнуцца ў іншы салон.

Кліент заўжды мае рацыю, а грошы не пахнуць. Якая справядлівая заўвага!

Кліент дастаў пачку зялёненькіх і паклаў перад сабою. Прадаўшчыцы-кансультанты неймаверна ўзрадаваліся. За ўвесь бягучы тыдзень гэта быў першы багаты наведвальнік.

– Ды не! Што вы, што вы, – залямантавала дзяўчына, – калі ласка! Мы да вашых паслугаў.

– Што вы жадаеце набыць? – лісліва запытаў франтаваты клерк. – Вось каталог нашых тавараў.

– Я маю намер апрануцца. Набыць таксама абутак. Мне неабходна усё.

– Я крыху вас не разумею, – нахіліў галаву ў паклоне клерк.

– Антуан, – узмахнула рукою ды, як тая фотамадэль, што прапануе лётаць самалётамі "Боінг", выставіла ўперад доўгія пальцы дзяўчына. – Наш наведвальнік хоча апрануцца ў нашым салоне з ног да галавы. Я вас так зразумела, шаноўны?

– Іменна так.

– Нават бялізну?

– І бялізну таксама.

– Што ж, пачынаем справу, – дзяўчына разгарнула на патрэбнай старонцы каталог і прапанавала: – Апошнія навінкі сезона. Глядзіце, што вам даспадобы.

– Адну хвіліну, – Мармулак засяродзіўся на фотаздымках мужчын, што рэкламавалі бялізну ў кампаніі распранутых прыгажунь.

– Вось гэта даволі арыгінальная мадэль, – прапанавала цыбатая. – Я вельмі хацела б пабачыць яе на вас у інтымнай абстаноўцы.

– Калі жадаеце, то давайце, – пагадзіўся кліент.

– Цудоўна! Вы давяраеце майму густу. Значыць, так: я вас абуваю, апранаю, а вы за гэта сёння вечарам запрашаеце мяне ў рэстаран.

– Згодзен, – задаволена адказаў Пётр. Ён быў рады. Упершыню за дваццаць чатыры гады жыцця дзяўчына сама напрошвалася на спатканне.

– Ой, зараз упаду, – незадаволена хмыкнуў клерк. – Што ты ў ім знайшла? Як казаў адзін стары, калі ён стане на сваё партманэ ды дастане антэну ў радыётэлефоне, то, можа, будзе роўны табе.

– Што ты разумееш у каханні, Антуан! – высока ўзняла галаву дзяўчына ды пайшла з кліентам за фіранку – прымерваць бялізну.

## СУСТРЭЧА

Пётр Іванавіч як ні хацеў, але ўсё ж вымушаны быў памяняць месца жыхарства. Неяк не падыходзіў яго шыкоўны касцюм да падвальнага інтэрнатаўскага памяшкання. Не кожная знаёмая, якіх зараз у яго было мноства (і кожны дзень – новыя), магла зразумець экзотыку такога прыстанішча. Гатэль “Беларусь” ён абраў з тае прычыны, што будынак знаходзіўся ў самым цэнтры горада і зручна было дабірацца да знакамітых рэстаранаў, у якіх ён бываў штовечар. Увогуле праблемы дабрацца куды-небудзь, як і іншых, паколькі ў яго былі грошы, не існавала. Бестурботна праляцела два тыдні, але аднастайны малюнак кожнага дня паспеў яму надакучыць. Штовечар – нейкія шумныя кампаніі з мала знаёмымі яму людзьмі, карагод расфарбаваных дзявочых твараў, што пілі не менш за яго, а ў п’яным стане тварылі неверагоднае. Дзяўчаты трапляліся рослыя, магутнага целаскладу – за паўночы не абцалуеш. Заўжды здаралася так, што нейкая з іх неверагодным чынам праходзіла да яго ў гатэль ды, паколькі звычайна быў позні час,

заставалася начаваць. Кожную раніцу такое стварэнне ён знаходзіў на сваім ложку. Надаралася цэлая трагедыя. Ён блытаў іх імёны. Галю называў Любаю, Аню – Светаю. Тут Мармулак упершыню адкрыў для сябе, што жанчыны – зусім не пяшчотныя істоты, а занудлівыя, капрызныя стварэнні. Як толькі прачыналіся, яны пачыналі паказваць сваю натуру: патрабавалі гарэлку, шампанскае, піва, цыгарэты.Грошы патрабавалі ўсе, але Пятро знайшоў выдатны выраз, каб супакоіць чарговую наведвальніцу свайго ложка ды не плаціць. Ён заўжды ў такіх выпадках казаў: "А я цябе сюды не клікаў. Учора ўвесь вечар піла-ела на дармаўшчыну, а цяпер яшчэ платы патрабуеш? Ідзі, адкуль прыйшла". Наведвальніцы ісці нікуды не хацелі. Казалі, што пажартавалі. Такім чынам, пытанне пра грошы пераставала існаваць, але даводзілася ісці па цыгарэты ды шампанскае.

Свае грошы Матыль трымаў яшчэ ў бабы Жэні. І тое было апраўдана.У яго адсутнасць мілыя ды пяшчотныя некалькі разоў рабілі вобыск з надзеяю адшукаць "залаты запас" гасціннага гаспадара.

Папіўшы піва ці, папросту, пахмяліўшыся, ды выкурыўшы цыгарэту, Галі – Тані – Светы прагнулі пяшчоты і ласкі. Ім хацелася цалавацца. Мармулак не курыў і не пераносіў цыгарэтнага дыму. Сумесь цыгарэтнага дыму, гарэлкі, парфумы, якою дыхала чарговая прыгажуня, прымушала гаспадара шукаць магчымасці, каб унікнуць такіх пацалункаў.

Пеця быў не супраць дзяўчат. Ён меў цвёрды намер ажаніцца, але не сустрэў тае, што адпавядала б ягонаму густу, тае, што сагрэла б ягонае сэрца. Новыя знаёмыя нават ростам не адпавядалі яму. Ён мог ехаць адпачываць на Канарскія астравы. Ён мог... Мог рабіць, што пажадае душа. Замінала ўсяму адна акалічнасць – адсутнасць побач мілай, адзінай, каханай.

Тае раніцы, пазбавіўшыся ад чарговай начной здані, Матыль дзве гадзіны падрамаў у ложку. Потым устаў. Нечакана душу ахапіла самота. Пэўна, усё ад таго, што не было ніякага занятку. Стала шкада сябе. Ён адчуваў, што з кожным днём бадзяжнае жыццё засмоктвае яго болей і болей. Яшчэ месяц-другі – і ён канчаткова вызначыцца як п'яніца, калі не сядзе на "белага каня". Плакалі тады ягоныя грошыкі.

І – як вынік усяго – яго чакае ўсё тая ж жабрацкая доля. Трэба штосьці змяніць. Уладкавацца на працу. Болей смешнага нічога не прыдумаеш! З яго грашыма ды працаваць – курам на смех. Заняцца ж справаю – патрэбен кампаньён. Тут варта падумаць. А перш-наперш не трэба піць. Не трэба столькі піць. Хоць ратуе пакуль што яго ўсемагутная паперка, але збан да пары ваду носіць. Усё можа здарыцца.

Мармулак памыўся, пагаліўся ды вырашыў паабедаць. Калі выходзіў з гасцініцы, даў сабе цвёрды зарок: "Сёння не піць!" Вырашыў пасядзець у "Патсдаме". Моцна балела галава. Каб хоць неяк супакоіць боль, вырашыў дазволіць сабе пляшку піва. Насупраць колеру "дзіцячай нечаканасці" будынка КДБ зайшоў у гастраном. У кафетэрыі з вялікім задавальненнем асушыў пляшку "Мінскага бровару". Палягчэла. Быццам невядомы эліксір уліўся ў кожную клетку цела. Ён пайшоў шпарчэй. Здавалася, што павесялела ўсё наваколле: пачалі ўсміхацца не толькі людзі, але і будынкі, асветленыя слупы, нават сметніцы. У рэстаране яго ўжо ведалі. Афіцыянт тэрмінова ўзяў замову, і перш чым з кухні меліся падаць гарачыя стравы, на стале з'явілася пляшка каньяку. Сказаць, што пачаў сёння новае жыццё, ды адмовіцца было нейк няёмка. Знаёмыя маглі не зразумець. Пяцьдзесят грамаў каньяку – дробязь для нармальнага, не хворага мужчыны! – толькі ўзнялі апетыт. Учарашняя салата з кальмараў, аздобленая свежаю зелянінаю, умомант апынулася ў страўніку. Потым да яго за столік падсеў нейкі Вадзік. Пятро чуў дзесьці гэтае імя, але чалавека з такім абліччам, яму здавалася, бачыў упершыню. Вадзік выжлукціў каньяк і без сораму пажадаў выпіць гарэлкі. Адкульсьці з'явілася чорнавалосая Аксана. Яна тыдзень таму завітала ноччу да Матыля ў нумар ды ўсё цвердзіла, што дзяўчына. Потым высветлілася, што афіцыйна два разы брала шлюб. Аксане захацелася шампанскага. Давялося выканаць пажаданне чарнявай. І гэты дзень стаў нагадваць усе мінулыя. Вадзік запрасіў да іх кампаніі незнаёмую Рыту. Рыта добра ведала ўсіх, акрамя Пятра, і таму ўсю сваю ўвагу скіравала на шыкоўна апранутага незнаёмца. Аксана стала раўнаваць, казала гучна пра Рыту, што тая апошняя б... і што з ёю спалі ў Мінску ўсе, акрамя імпатэнтаў. Рыта на п'янае плявузганне не звяртала ніякай увагі, а рабіла настойлівыя захады ў бок новага знаёмца. Увогуле, як і ў мінулыя разы, вялася аднатэмная гутарка: шмоткі-бабкі.

Мармулак адчуў, што ягоны намер можа ляснуцца. А калі так, то сённяшні вечар закончыцца паводле сцэнара мінулых. Ён папрасіў прабачэння ў кампаніі, падышоў да афіцыянта, замовіў яшчэ пляшку гарэлкі, разлічыўся за абед ды выйшаў на вуліцу.

Быў ужо вечар. Ціхі, цёплы, якіх у жніўні бывае мала. На лаўках сям-там сядзелі людзі.

Пётр сеў на першую трапіўшую яму лаўку, цяжка ўздыхнуў і абхапіў галаву рукамі. Невядома, колькі часу працягвалася б самакатаванне, каб не пяшчотны галасок, што прагучаў побач.

– Не разумею, навошта піць, каб потым пакутаваць. Вядома, піць ці не піць – справа выключна вашая, але іншы раз усё ж варта прыслухацца да парады. Можа, будзе карыснаю, – дзяўчына гаварыла, не павышаючы голасу, і ў словах яе не было ані кроплі дакору.

Мармулак узняў галаву. Незнаёмка сядзела амаль што побач. У яе руках быў нейкі часопіс. Прывабны тварык, на якім адсутнічала парфума. Магчыма, яна была, але была нанесена з розумам і густам. Пятро адразу адзначыў, што дзяўчына дзесьці ягоных росту і ўзросту.

– Што чытаеце? – запытаў ён.

– Каталог выставы імпрэсіяністаў.

– Сіяністаў?

– Ды не! – рассмяялася дзяўчына. – Ім-прэ-сі-я-ні-стаў.

– Чуў, чуў пра такіх, – зачырванеўся Мармулак. – Манэ адзін, Манэ другі...

– Абавязкова раю наведаць.

– Хадзем, – прапанаваў хлопец. – Прашу вас быць маім гідам. Згодны?

Дзяўчына рассмяялася яшчэ гучней:

– Зірніце на гадзіннік!.. А вось калі вы сапраўды жадаеце там пабываць, то заўтра наведайце Палац мастацтваў.

Мармулак яшчэ раз уважліва паглядзеў на дзяўчыну. Сцягнутыя на патыліцы гумкаю валасы нагадвалі аб даўно забытым ды такім утульным хатнім побыце.

Адчыніліся дзверы рэстарана, і на парозе з'явілася Аксана. Яе хрыплы бас агаласіў вуліцу:

– Пеця! Дзе ты падзеўся?

– Вас, пэўна, шукаюць? – паказала на Аксану дзяўчына.

– Не! Гэта не мяне, – схлусіў Пятро.

– А вы няпросты... Паклікалі дзяўчыну ў рэстаран, а самі ўцяклі. Хіба так можна?!

– Нікуды я не ўцякаў, – пакрыўджана адказаў хлопец. – Прыйшоў паабедаць, а яны падселі.

– І часта вы ходзіце ў рэстараны абедаць?

– Кожны дзень.

– Дык вы "новы беларус"? І які ў вас бізнес, калі не сакрэт?

Смешная нейкая. "Які ў вас бізнес?" Ніякі. А сапраўды, праз колькі гадоў, калі не заняцца сапраўднаю справай, грошы скончацца. І што далей? Зноў жабраваць?

Дзяўчына ўстала:

– Мне пара ісці дамоў.

– Пазней мама гуляць не дазваляе? – пажартаваў Мармулак і тут жа прапанаваў: – Можна, я вас правяду?

– Калі ласка, калі вы зможаце ўстаяць на нагах.

– Дзе вы жывяце? – праважаты падняўся і са здзіўленнем адзначыў, што хмель з яго выветрыўся.

– Жыву ля Юбілейнай плошчы. Не прапаноўвайце метро. Люблю гуляць. Тым болей – нікуды не спяшаюся.

Яны няспешна перайшлі мост цераз Нямігу. Тут Пеця падумаў, што не ведае, як зваць дзяўчыну.

– Вось мяне клічуць Пятром. Вы гэта ведаеце. А вас?

– Вольга. Сушчэня.

Прозвішча было знаёмае. Мармулак напружваў памяць. Каторага дня яму выпадкова трапіла ў рукі газета, а ў той газеце была гутарка ці то з міністрам, ці то з намеснікам міністра, ці то з нейкім начальнікам у міністэрстве. Мармулак запомніў назву публікацыі – "Праблемы эканомікі ўпіраюцца ў фінансы", – а вось цяпер выплыла і прозвішча таго начальніка. Мармулак у душы прысвіснуў: "Куды я трапіў і дзе мае рэчы?"

Хвіліна разгубленасці прайшла, і ён больш цвяроза ацаніў сітуацыю.

Няспешна яны выйшлі на былую Паркавую магістраль. Мармулак нечакана для сябе прапанаваў дзяўчыне:

– Можа, заглянем у рэстаран? Пасядзім крыху.

– Я б не адмовілася выпіць кавы. Кавы і не болей. Але ці пусцяць туды?

– Мяне, і не пусцяць?..

Яна сядзела насупраць Матыля, і ён упершыню мог бачыць яе твар. Ён бачыў прыгажэйшых дзяўчат, але Вольга адрознівалася ад іншых тым, што нос, вочы, бровы, лоб, вушы – усё адпавядала пэўным прапорцыям, і таму твар меў сваю прывабнасць і адпаведную прыгажосць. Яна штосьці распавядала, а ён не мог адарваць позірку ад мілага твару.

## НЯПРОШАНЫ ГОСЦЬ – САМЫ ЖАДАНЫ

Госці бываюць розныя: жаданыя, нежаданыя, няпрошаныя і проста нахабнікі.

У Мармулка вынікла праблема з адрасам. Ён ніяк не мог знайсці цыдулку, якую ўчора дала яму Вольга. Памятаў вуліцу, ведаў нумар дома, пад'езд, а вось з кватэраю – правал памяці. І не піў жа, а зацьменне поўнае ды беспрасветнае. Адно, што трымалася ў галаве: як выйдзеш з ліфта – дзверы насупраць. Заставалася толькі маленькая дробязь: успомніць паверх. Можна было, вядома, забыць пра гэтае выпадковае знаёмства, але ўжо вельмі ўпадабаў ён гэтую дзяўчыну. А яшчэ муляла тое, што бацька дзяўчыны – міністэрскі чыноўнік. Калі да грошай дадаць такі падмурак, як жонка – дачка высокага начальніка, то ў нашым грамадстве адразу можна заняць адпаведнае становішча.

З гадзіну ён тупаў ля пад'езда, поўны надзеі, што пабачыць сваю знаёмую. Добры дзесятак маладых ды прыгожых працюпалі міма; у рэшце рэшт Матылю надакучыла бадзяцца ля дома, і ён вырашыў ісці наўдачу: палічыць, колькі прыступак у першым лесвічным маршы, і спыніць ліфт на паверсе, які адпавядае гэтай лічбе. Прыступак было роўна дзевяць. Матыль папраівіў гальштук, знешне агледзеў свой гарнітур "ад Валянціна" і смела рушыў наперад.

Дзверы адчыніў незнаёмы мужчына, на дзве галавы

вышэйшы за нязванага госця. Ён, па ўсім было бачна, адпачываў пасля напружанага працоўнага дня і бавіў час за чытаннем газеты. Каб лепш разгледзець чалавека, што стаяў на парозе кватэры, гаспадар прыклаў да вачэй акуляры. Прагнаць прэч няпрошанага карантыша яму перашкодзіў зухаваты выгляд госця.

– Вам каго? – далікатна запытаў ён у незнаёмца.

– Вашу дачку, – адрапартаваў Мармулак, бо, папраўдзе кажучы, імя дзяўчыны ён на момант забыў.

Сёння зранку дачка гаспадара, Кацярына Зюкіна, мела з бацькамі непрыемную гутарку з тае прычыны, што вярнулася дамоў толькі пад раніцу. Хоць яна і сцвярджала, што ў іх была прыстойная кампанія і засядзеліся доўга выключна з-за вострага абмеркавання новага рамана маладога таленавітага пісьменніка пра сучасную рэчаіснасць, што ніякай гутаркі там пра групавы секс ці практычных заняткаў ім не магло быць, ёй усё роўна ніхто не верыў. З'яўленне на парозе элегантнага карантыша карэнным чынам мяняла сітуацыю. У дзяўчыны раптоўна з'явіўся шанец рэабілітавацца.

– Аб чым я калякала вам, мае продкі? – ірванулася наперад Кацярына і, задраўшы ногі ўгару, павісла на шыі нізкаослага госця. – Вось ён. Малады, таленавіты... Будучая зорка нашай літаратуры.

Мармулак лыпаў вачыма і нічога не разумеў. Нейкае цыбатаногае стварэнне мкнецца ўдушыць яго ў сваіх абдымках. Ён канчаткова вырашыў запытаць яе пра сястру, такую ж невялічкую, як і ён, ды чарнявую. Рыжавалосая не дазваляла яму зрабіць гэта.

– Радая пазнаёміць. Мае шаноўныя бацькі. Татулька – Сцяпан Патапавіч Зюкін, мамулька – Алімпіяда Флораўна.

Заспеты ў такім выглядзе татулька стаў падцягваць вышэй свае зрэбна-паласатыя нагавіцы, мамулька спехам выцірала аб фартух рукі.

– Пётр Іванавіч Матыль, – намагаючыся не выдаць свайго хвалявання, няспешна адказаў госць.

– Што ты стаіш на парозе, як быццам у сваты прыйшоў?

Праходзь у кватэру, – узмахнула сваімі доўгімі рукамі цыбатае стварэнне. – Продкі! Запрашайце госця ў хату. Пецечка, даруй, хвілінку, я па-хуткаму апрануся і мы пойдзем... на выставу. Ты ж абяцаў пазнаёміць мяне з Марачкіным. Пагутарце крыху пра літаратуру... паэзію...

На здзіўленне, кватэра міністра мела толькі два пакоі. Мяркуючы па мэблі, жыў ён даволі сціпла. Аб сціпласці набыткаў гаварылі яшчэ дзіўныя хатнія нагавіцы гаспадара, што былі ва ўжытку, пэўна, гадоў дваццаць. Гаспадар сеў у старамодны фатэль і нервова працягваў тузаць гумкаю ў паясніцы. Гаспадыня паспешліва зняла фартух ды старалася надаць свайму стану прывабны выгляд, пагладжваючы яго зверху ўніз далонямі.

– Як вам пішацца? – каб парушыць маўчанне, пракашляў міністр.

Мармулак, які ведаў прозвішчы тутэйшых паэтаў і празаікаў, здагадаўся, што шаноўны гаспадар іх не ведае ўвогуле, хіба акрамя двух памерлых ды двух яшчэ жывых класікаў, чые імёны на слыху нават у немаўлят. А яшчэ ён зразумеў адведзеную даўганогаю яму ролю ды вырашыў не парушаць правілаў гульні.

– Літаратура – гэта вельмі складаная рэч, – распачаў сваю лекцыю Мармулак. – Яна шматгранная, яна шматтэмная. Літаратурны занятак больш, чым які іншы творчы працэс, патрабуе натхнення. Калі кажуць, што натхненне прыходзіць само, прыходзіць знянацку, нечакана, – не верце, вас уводзяць у зман зусім далёкія ад літаратуры людзі. Яны не ведаюць, што такое творчасць. Што такое Праметэеў агонь, што такое Яе Вялікасць Муза. Гутарка пісьменніка з Музаю – гэта ўсё роўна, што гутарка з прыгожаю, культурнаю, выхаванаю дзяўчынаю...

– Як наша Кацька, – міжволі вырвалася ў гаспадыні.

Пісьменнік на імгненне спыніў свой позірк на радасным твары матулькі і працягваў гаварыць далей.

– Як наркаману трэба злое зелле, як алкаголіку трэба гарэлка, так творчаму чалавеку патрэбныя рамантычнае спатканне з прыгожаю дзяўчынаю, палкае прызнанне ў каханні, келіх добрага віна, ціхая музыка ды прыцемак...

Мармулку было даспадобы казаць такія прыгожыя ды разумныя словы, і ён не заўважыў, як пачаў мяняць накірунак гутаркі.

Алімпіяда Флораўна, слухаючы творчага чалавека, быццам загіпнатызаваная, падалася наперад. Жанчыне падалося, што тыя словы адрасуюцца ёй толькі ёй, і болей нікому. Сцяпан Патапавіч, адчуваючы нядобрыя памкненні жонкі, грозна закашляў. Жанчына паволі апусцілася на канапу і цяжка ўздыхнула. Пераляканая Муза вымушаная была ў гэтых абставінах шукаць іншага пісьменніка, каб трэнькаць яму на сваёй цудоўнай ліры і дарыць нектар натхнення.

– Вы часам не ведаеце... э-э-э... над чым зараз працуе... э-э-э.. – гаспадар баяўся памыліцца з прозвішчам, – Шэрлак...

– Шамякін, – дапамагла мужу жонка.

– Вы ведаеце, даўно, даўно не даводзілася сустракацца з Іванам Пятровічам. Быў заняты.

– Каця нам усю раніцу распавядала пра ваш новы раман. Гэта такая цудоўная рэч, – гаспадыня з захапленнем ляпнула ў далоні.

– Вось з гэтай нагоды нам даўненька давялося бачыцца апошні раз. А так, бывала, зойдзем у “Пнуху” ці “Гуркі” ды прапусцім па шкляначцы... пад піўко. І пытае Іван Пятровіч, паклаўшы руку мне на плячо: “Што новага ў цябе, Мармулак?”

– Як вы сказалі? – насцярожана перапытаў гаспадар.

– Продкі, вы людзі ў мяне культурныя і, канечне, ведаеце, што ў кожнага сур’ёзнага пісьменніка існуе літаратурны псеўданім, – выглянула з-за дзвярэй галава Кацькі.

– Сцяпан, – жонка далікатна папракнула мужа. – Гэта ўсім вядомыя ісціны. А вось каго б вы хацелі адзначыць з маладых? Вы... гэта вядомая асоба... А вось такіх, хто піша ў арыгінальным жанры?

З прозвішчамі маладых пісьменнікаў у госця былі пэўныя цяжкасці, але тут ён успомніў, што ўчора новая знаёмая паказвала яму аднаго пісьменніка і распавядала пра апошнюю яго кніжку, дзе стала абгрунтоўваецца, чаму дочкі не хочуць, каб ведалі іх мамы, чым яны займаюцца ў іх адсутнасць.

– Я ў першую чаргу хацеў бы адзначыць Адама... Мячыка...

 





э-э-э... Глёбуса з яго навэламі пра іспанскі тэмперамент койданаўскіх дзяўчат.

Тут Пётр Матыль устаў. У дзвярах з'явілася апранутая Кацярына, і таму размову неабходна было канчаць, тым болей што ўсе літаратурныя тэмы былі вычарпаныя.

– Шчыра ўдзячны за цікавую гутарку. Вельмі рады быў пазнаёміцца, – Мармулак пакланіўся гаспадарам, зрабіў крок наперад і ўзяў Кацю пад руку. – На жаль, нам неабходна ісці. Непрыгожа спазняцца на спатканне са знакамітасцямі.

– Адзью, – узмахнула рукою на развітанне бацькам дачка.

– Вы заходзьце да нас. Заходзьце як мага часцей, – выказала сваё шчырае пажаданне гаспадыня.

У ліфце Мармулак пачаў даставаць насоўку, і з кішэні выпала невялічкая паперка. Хлопец падняў яе і прачытаў напісаны на ёй адрас. Усё правільна: той самы дом, той самы пад'езд, але зусім іншая кватэ-ра – на паверхі два ніжэй.

## ПАМЫЛАК БОЛЕЙ НЕ БУДЗЕ

На гэты раз дзверы Пятру адчыніла пяцідзесяцігадовая кабета. На твары яе было засмучэнне.

– Абяцалі зайсці на наступны дзень, а самі з'явіліся толькі на трэці. Хіба так можна?

– Прабачце! – павінаваціўся Матыль. – Згубіў запіску і памыліўся паверхам. А Вольга дома?

– Дома-дома. Праходзьце. Самыя апошнія дзверы, налева. Пастукайце.

Мармулка здзівіла папярэджанне "пастукайце", але ён адразу звярнуў увагу на колькасць дзвярэй у кватэры і зазначыў, што не памыліўся. Так многа пакояў можа быць толькі ў міністра ці ў іншага бонзы. Душу ахапіла радасць. Ён паправіў гальштук і смела пакрочыў у вызначаным накірунку.

На імгненне затрымаўся і пастукаў у дзверы.

– Заходзьце, – пачуўся кволы, але ўсё ж знаёмы галасок.

Дзяўчына стаяла ля мальберта і малявала гарадскі пейзаж, што бачыўся ёй з акна.



 

Апранута яна была па-хатняму проста: джынсы ды шэрая швэда. Валасы на патыліцы сцягвала гумка. Гэты ўбор надаваў ёй прывабнасць і нейкую своеасаблівую прыгажосць, ад якой нельга было адвесці позірк. Пятро захапіўся і ад такой неспадзяванкі раскрыў рот ды не мог вымавіць ані слова.

– Добры дзень, – шчыра і адначасова пяшчотна павіталася дзяўчына.

– Добры, – толькі і змог сказаць Мармулак.

—Я думала, што ты забыў свае абяцанні і болей ніколі я цябе не пабачу.

Матыль сапраўды не помніў, што абяцаў Вользе, бо апошнім часам ён шмат каму і шмат чаго абяцаў. Зараз гэта яму хацелася рабіць зноў і зноў. Невыказна падабалася яму дзяўчына.

– Калі ты не супраць – прагуляемся.

– З задавальненнем.

Вольга не пераапранулася і не распачала доўгія зборы, а толькі сказала бацькам, што яе дома не будзе. Усмешка надавала ёй яшчэ большую прывабнасць. Другі раз хлопец адчуў, што з гэтаю дзяўчынаю хораша, лёгка і проста. Нейкая невядомая сіла цягнула яго да яе.

– Пятро, – сказала Вольга, калі яны спускаліся ў падземны пераход ля ГУМа. – Мне ўвесь час здаецца, што мы дзесьці бачыліся з табою.

На тым месцы, дзе здабываў грошы Мармулак, сядзеў Гена Патоніч. Левая нага ў яго была падвязана, а правае вока перабінтавана нейкай бруднай анучай. “Малапраўдападобна”, – адзначыў для сябе былы інвалід са стажам.

– Магчыма, вось тут, – Пятро паказаў на тое месца, дзе сядзеў Патоніч.

– Не, – засмяялася Вольга. – Гэтага чалавека я таксама дзесьці бачыла. Да гэтага часу тут сядзеў нейкі аднаногі абарванец. Іншым разам я, бывала, давала яму колькі рублёў. Шкада людзей. Я ўвогуле не толькі людзей шкадую. Не магу глядзець на галубоў з абмарожанымі нагамі. А калі чалавек такі калека!

– Хто? Гена Патоніч? – вырвалася ў Мармулка. – Вольга! У яго дзве здаровыя нагі і стопрацэнтовы зрок кожнага вока.

– Гена Патоніч, кажаш? У нас на філалагічным вучыўся хлопец з такім прозвішчам.

– Дык ты вучышся на філфаку? Мне таксама здавалася, што я з табою дзесьці сустракаўся. Я з Генаю вучыўся у адной групе.

– Дзіўна. Як здарылася так, што мы з табою не змаглі пазнаёміцца?

– Вядома, чаму, – ці то жартам, ці то ўсур'ёз адказаў Мармулак. – Я маленькі, і таму ты мяне не заўважыла.

– Скажаш яшчэ такое, – пакрыўдзілася Вольга. – Ты крыху ніжэй сярэдняга росту.

"Зараз ці ніколі", – вырашыў Матыль.

Яны зайшлі ў краму, і Матыль адразу накіраваўся ў аддзел залатых вырабаў. Дзяўчына са здзіўленнем глядзела на спадарожніка. Ён паклікаў дзяўчыну, што стаяла па той бок прылаўка, і папрасіў:

– Дапамажыце нам падабраць два шлюбныя пярсцёнкі.

Вольга ні словам не запярэчыла Пятру, а толькі моцна сціснула яго за локаць. І распачала выбар. Яна, як любая жанчына, доўга прымярала пярсцёнкі, пакуль не знайшла той самы-самы.

Калі пакупка была зроблена, яна прама запытала ў хлопца:

– А далей куды?

– Вядома, у ЗАГС, калі ты не супраць.

– Я? Ды не.

– Тады хадзем.

– Хадзем. Пашпарт у мяне з сабою. А ці зможам мы вось так, зараз, узяць шлюб? Пэўна, давядзецца чакаць.

– Ніякіх "чакаць". Сёння і зараз, – самаўпэўнена адказаў жаніх.

Палала нязгаснае полымя кахання. Матылю ўжо бачыліся Гавайскія выспы, залацісты пясок пляжаў ды яна – адзіная, непаўторная, каханая – побач.

Аркестранты прадувалі трубы, і вось-вось павінен быў загучаць марш Мендэльсона.

Пётр купіў букет пунсовых ружаў.

На свеце бываюць цуды, бываюць вельмі рэдка, але бываюць. І такі цуд меўся адбыцца зараз.

– Ты ведаеш, Пеця, а я сапраўды ніколі не хацела шумнага вяселля, – радасна шчабятала звар'яцелая ад нечаканага шчасця нявеста. – Вось так, па-хатняму, толькі свае, блізкія сябры, а лепш за ўсё – удваіх...

– Ні ў якім разе.

– Хіба не так? Бацька ўсё ж пры пасадзе. Што скажуць калегі па службе?..

– Дарэчы, чаму ён дома? Пэўна, у адпачынку?

– Ён болей не працуе ў міністэрстве.

– Як так?

– З сённяшняга дня пайшоў па ўласным жаданні.

Мармулак ад нечаканасці ледзьве не прысеў. Перад вачыма заскакалі сонечныя зайчыкі.

– ...Мой бацька – самы сумленны чалавек на свеце. І пайшоў ён з пасады таму, што быў не згодзен з агульнымі, як ён кажа, метадамі кіравання. Ён спецыяліст, якому няма роўных. Вось, – Вольга паказала на шыльду, што вісела на будынку на супрацьлеглым баку праспекта, – гэтая фірма прагарэла, а тата мой казаў, што можа падняць яе і ўжо праз два месяцы мець прыбытак. Яму нават прапаноўвалі ісці туды генеральным дырэктарам і грошы давалі, крэдыт, праўда, пад дзікі працэнт. Ён думае.

Тут Мармулак успомніў адзін залаты выраз, пачуты ад бацькі: "Самы вялікі капітал – мазгі". "Цудоўна! Калі ён мае такую галаву, дык чаго тады сядзець без справы? Няхай працуе".

– Нумар тэлефона, – ускрыкнуў Матыль.

– Чый нумар тэлефона? – збянтэжана запытала дзяўчына.

– Ваш. Хатні.

Вольга з недаверам назвала нумар.

– Як бацьку твайго зваць?

– Я ж табе казала, – у голасе адчуваўся дакор.

– Вольга! Родненькая, даруй! – прасіў літасці Мармулак.

На твары дзяўчыны з'явілася ўсмешка.

– Мікалай Антонавіч, а маці – Вераніка Станіславаўна.

– Хадзем да тэлефона.

Мікалай Антонавіч уважліва выслухаў дачку, а потым – Пятра і без лішніх слоў пагадзіўся быць праз пятнаццаць хвілін ды паабяцаў прывесці з сабою жонку.

Пятро павярнуўся да Вольгі, абняў за плечы і пяшчотна пацалаваў у шыю. Пачуццё віны пасялілася ў душы хлопца.

Роўна праз пятнаццаць хвілін з'явіліся бацькі. Маці, як толькі пабачыла дачку з букетам, адразу ўсё зразумела.

– Выбачайце, – звярнуўся Матыль да Вольгі і Веранікі Станіславаўны. – Я хачу абмеркаваць з Мікалаем Антонавічам адну праблему.

Калі яны адышлі на колькі крокаў убок, Мармулак, намагаючыся ўвесь час глядзець яму ў вочы, запытаўся:

– Мікалай Антонавіч, ці маглі б вы як спецыяліст экстра-класа аднавіць дзейнасць "Комплекс компані"?

Мікалаю Антонавічу вельмі спадабаўся выраз "спецыяліст экстра-класа", і ён з гонарам адказаў:

– Магу, вядома, але для гэтага патрабуецца... – вытрымаў пэўную паўзу і прамовіў: – Капітал. Патрэбен капітал, а папросту – грошы.

– Колькі? – запыт быў маланкава хуткі.

– Прыкладна сто тысяч даляраў, – не задумваючыся, адказаў Мікалай Антонавіч.

– Я магу іх прапанаваць.

– На якіх умовах вы прапануеце?

– Без працэнтаў.

– Я падачак не бяру.

– А калі такое прапануе вам Вольга? Скажам, выступіць вашым спонсарам?

– Вольга – мая дачка, і я, вядома, магу скарыстаць яе грошы. Толькі такіх грошай у яе няма.

– Будуць.

– Якім чынам?

– Вось мы і пераходзім да вырашэння самага галоўнага пытання...

– Ну што? – ледзь не ў адзін голас спыталіся Вольга і Вераніка Станіславаўна, калі мужчыны падышлі да іх.

– Мы з Пятром Іванавічам у прынцыпе дамовіліся. Як я здагадваюся, – звярнуўся Сушчэня да дачкі, – ты таксама дамовілася. Застаецца абгаварыць дэталі. Вы, маладыя, пагуляйце, а заўтра з раніцы пасядзім, пагаворым.

Ад пачутага Вольга ледзь не падскочыла, ажно тонкі хвосцік сцягнутых гумкаю валасоў заскакаў.

Шумны праспект Скарыны не заўважаў радасных твараў шчаслівых маладых людзей. Кожны падарожны меў свой клопат, свае праблемы. Пятро і Вольга таксама ішлі быццам праз густы туман, нікога не заўважаючы.

Ля ГУМа Матыль сутыкнууся з нейкім чалавекам.

– Выбачайце, – павініўся ён.

– Вось ён, Мармулак, – пачулася ў адказ.

Маладыя вярнуліся з нябёсаў на зямлю. Перад імі, чаўкаючы гумкаю, стаяў Засушаны Геракл.

– Куды ты знік, цмок балотны? Паўгорада перашукаў, а цябе няма. Як, справу пачынаем?

Іх гутарка нагадвала размову добрых старых знаёмых.

– Геракл, пазнаёмся. Гэта Вольга! Мая нявеста.

– Клас! За той час, што мы не бачыліся, ты паспеў здурнець.

– Не здурнеў я, а за розум узяўся.

– А як жа справа? Не знайшоў кампаньёна?

– Кажу, цябе шукаў.

– Прапаную замену. Чалавек справы. Хадзем, пазнаёмлю.

Яны спусціліся ў падземны пераход і спыніліся перад інвалідам.

Гена Патоніч, заплюшчыўшы адзінае вока, ледзь чутна шаптаў:

– Людзі добрыя! Падайце сляпому, бязногаму чалавеку.

Геракл кінуў у шапку каменьчык. Генадзь расплюшчыў сваё пірацкае вока.

– Што трэба? – перапуджана запытаў ён.

– Гена, – Пятро гаварыў як мага цішэй. – У гэтага хлопца да цябе ёсць прапанова. Яна вартая тваіх высілкаў. Пагамані з ім. Бай-бай!

Вольга памахала на развітанне Патонічу рукою, і яны зноў апынуліся на праспекце.

– Пятро, – звярнулася Вольга да Мармулка, – ты болей не будзеш памыляцца паверхам?

Матыль моцна прытуліў яе да сябе і запэўніў:

– Не! Памылак болей не будзе.

Francois JACQMIN




# Франсуа Жакмэн

*Што б сталася са светам,*
*калі б вясна была верная свайму*
*абяцанню?*

# ПРА ЯГО

**Франсуа ЖАКМЭН (1929– 1992)** – нарадзіўся ў Гар'ён-Газэмоне (*Horion-Hozémont*), мястэчка Гэсбінён (*Hesbignon*) пад Льежам у сям'і багатага камерсанта.

**1940–1943** – згодна з рашэннем бацькі разам з усёй сям'ёй апынаецца ў Лондане, дзе ў адчыненай іспанскімі езуітамі вучэльні для дзяцей эмігрантаў вывучае ангельскую мову; працягвае вучобу ў пратэстанцкім каледжы; ахвотна акунаецца ў адметную, моцную ангельскую культуру, зачытваецца Шэкспірам, Тэнісанам і Шэлі; знаёміцца ў ангельскай версіі з "Татэмам і табу" З.Фрэйда, які моцна паўздзейнічаў на фармаванне светапогляду паэта, гэтаксама як і стоікі Эпіктэт ды Марк Аўрэлі; першыя вершы піша па-ангельску, аднак ніколі не публікуе іх.

**1948** – вяртанне ў Бельгію, улучванне ў родную франкамоўную стыхію і культуру.

**1949** – ваенная служба ў Брусэлі, знаёмства і сяброўства з Жазэфам Нуарэ, а праз яго – з літаратурным гуртом "Кобра", вызнаўцамі авангардысцкага пост-сюррэалізму.

**1950** – знаёмства і дзесяцігадовае сяброўства з Жазэфам Дазонем, заўзятым фрэйдыстам, запачаткоўцам "клуба геніяў", сябрамі якога былі шмат хто з інтэлектуалаў Льежа; сталая, аж да выхаду на пенсію, праца перакладчыкам пры льежскім сталеліцейным заводзе *Cockerill*.

**1954** – выхад першага паэтычнага зборніка "Любоў зямля" (Льеж), за якім пайшлі наступныя:

**1959** – "Снежаньская ружа" (Брусэль);

**1967** – "Службовец" (Вэрв'е);

**1976** – "Камера абскура" (Вэрв'е);

**1978** – "Грэтрынскі мак-самасейка" (Брусэль);

**1970** – "Поры году" (выд. "Фантамас");

**1984** – "Шэрае даміно (Лялуўер), прэмія французкай супольнасці Брусэля (1986), што ўручаецца раз на тры гады;

**1986** – "Водстань" (Парыж);

**1988** – перавыданне ў Брусэлі "Пораў году" (*Francois Jacqmin. Les Saisons. Éditions Labor, Bruxelles*), найзначнейшай, на думку літаратуразнаўцаў, кнігі ў творчасці паэта і ва ўсёй пасляваеннай бельгійскай літаратуры. Паэма "Вясна" з гэтай кнігі ў перакладзе на беларускую мову прапануецца ўвазе чытача "Крыніцы".

**Падрыхтавала Ніна МАЦЯШ.**

# *ВЯСНА*

## (З кнігі “Поры году”)

***

Тое, што можна сказаць пра вясну,
кажа сама вясна.

Няма прыкметаў, каб выпукліць
пустку, таемна чапаную.

Рост узгадняецца з
уласным лірызмам.

Каб напраўду пачуць, сэрцу патрэбна
хутчэй забыццё, чым захапленне.

***

Вецер весціць вяселлі
няшчадныя.

Нейкі апакаліпсісны бляск
ува ўсім, што раджаецца.

Трава пахітвае
небыць.

Небяспечна не
быць маладым.

***

На пачатку кожнай вясны
я забываюся імя кізіла.

Ягонае квецце застае мяне знячаку,

бы гімн, складзены
ўпохват.

Калісьці я прысягнуў яму
быць нястомным яго перайманцам.

З таго часу ён не прамінае спавяшчаць пра
маю ерась.

***

Балаканне фіялак
цьміць пагрозлівую прамову
наступнасці.

Будзе азначаны плод,
які стане штандарам роду.

Усё цьмянае станецца
выяўным і пройдзе праз сіта
жаданняў.

Вада сілаю рушыць на клямкі
зямлі.

***

Усё рыхтуецца да
апантанага шчасця.

Святкавацьмецца хвіля — прэтэндэнтка на
непаміранне.

Туга пабагачала,
а пакута сталася годнаю най-
вытанчанай ухвалы.

Зязюля ўжо радуецца рыхтык
дурнічка.

***

Лёгкасць ступае вагома,
быццам канвой пры зброі.

Кожны ёсць вартавы собскай
плоці.

Чуюцца грозныя распараджэнні
прыроды.

***

Няшмат што патрэбна дзеля
будовы, калі ўсё ўжо ўва
ўладзе немінучага.

Часцінкі найэтэрнейшыя
краявіду маюць магчымасці
невычарпальныя.

Слоўнік абновы паўстае ў
значэннях чыстых і
адвечна хуткаспелых.

Час, калі ўтопія
апачывае на падснежніку.

***

Душа дзён поўніцца пяшчотай
і жывёльнасцю.

Нешта накшталт расчаравання
шчаснага праймае мройнасць.

Улучваешся ў нейкую абраднасць, нашэптваную
голасам якімсьці млявым і настойлівым.

Час гэты прыгадаецца па часе
якоюсьці скаланальнай мілатою.

***

Ручаі спяшаюцца ў
нетры.

Накрэсліваюць генеалогію
свежасці на бягу.

Калі яны паміраюць, застаецца
крыніца, якая перайначвае іх
даастатку.

***

Бруд ёсць першым этапам
экстазу.

Гразь спявае, як
тлустая плоць, ашалелая ад свайго
лою.

Метафары любаярлівасці
адчуваюцца зараз нагамі.

***

Ставок вычарпаны.
Патрэбна вылучная далікатнасць,
каб прамацаць ягоны пабліск.

Нават неба вагаецца
пры выбары
варыянтаў суб'екта і
аб'екта.

Веснавая вада
адладзіць яму аблічча.

***

Зона ўсмешлівае
кунегі, праява без
цела і думкі, якой
прызначаецца быць вясной.

Сукупнасць такіх няпэўнасцяў
здатная сфармаваць і
ружу, і пытанне.

***

Упершыню ў
гісторыі свету цяпер
прыўкрасней, чым калі-кольвек.

Дзеці га́рдзяць усімі
законамі прыцяжэння.

Яны адчуваюць, што ў абсалюту
вібрацыі юрка.

***

Ці магчыма апрануць у слова
тое, што сама галізна?

Гэта я пра вясновы дождж,
які паджыўляе гліну і сініць
плячо кардаміну.

Вада ўгадвае найневыразныя
формы вясны.

 





***

Жыццё спачывае ў гронках
бэзу.

Якая слодычная ўяўнасць!

Ты пад аховаю самога лёсу,
калі ясі сунічку...

Мяккай дуплетнасцю свайго кування
зязюля важыцца нясмела
папярэдзіць.

***

Штоserved, кожная вясна
тхне водарнасцю абяцанняў
прахлых.

У яе смак адвечных
конаў.

Уразлівая затха
старых калодзежаў, адчыненых
знячэўку.

Ды хто б адважыўся не давяраць усмешцы
лёхаў?

***

Напружаная цнота неба.

Выява высі ў
ейнай дасканаласці, і незабыўнай і,
вядома ж, небяспечнай.



 

Агромністы абсяг, дзе прыхаваная
сінь ляза.

***

Лугу знаёмае далікатнае
паўстанне кардамінаў.

У іхным тлуме правата
няўступлівай макрэчы поплава.

Вагае вецер сінь
журлівую іх перамогі.

***

У клопатаў пра цела прысмак
мýкі.

Жаданне падабацца прагне
зліцця з бязмежным.

Краса проціўстае ўсяму,
што не ўспрымае надзвычайнасці.

Праз тое й мусіш выслухоўваць цела,
як толькі вечар настае!

***

Пануе мімалётная раскоша,
абрыс якое вось-вось расплывецца.

Этэр праняты весялосцю
дзіўнай, якую дар да
абнаўлення робіць ледзь прыкметнай.

Вышукваючы засень дрэваў,
барвінак цьмяна адчувае,
што мае справу з нейкай таямніцай.

***

Першая пладавіна́ йдзе
асцярожна.

Сціплая плоць яе
шчэ зацнатлівая, каб месціць у сабе
намёкі часу.

Распаняволеныя птушкі
кладуць усмешлівыя яйкі
на сподкі голля.

***

Бярэзіна распыльвае святло.

Зрок разнявольваецца і запыняецца
на плячы лесу.

Сцежкі бухмацеюць
адвечным.

***

Гожыя дні абдухмяньваюць
на́шчадзь.

Маладзічкі купаюцца ў
гэтай эсэнцыі, вечна
дыстыляванай.

Яны ўмеюць рабіць гэта зусім незаўважна.
Таму й усміхаюцца.

***

Сэрца прагне перамовіцца з
лісцем.

Ды лістота ўсё ўпарціцца
быць відавочнаю і
трымклівай.

Я ніяк не магу засведчыць,
што прайшоўся лесам.

***

Сад злегкадумнеў.

Усё тут чары й забава.

Ганарыстыя й вытанчаныя купы
квецця ўгінаюць
галіны.

Звычайная доля сядзіць
пад лістком.

***

Спачатку сягаеш у таямніцу
роду.

Потым валодаеш той таямніцай.

Напаследак стаешся яе крыніцай.

***

Святло дасягае свайго
найвышэйшага поўдня.

Утворваецца жуковіна зыбкая і
мігатлівая ўкола дрэў
у квецені.

Няма часу пабыць
ісціва новым.

***

Крыніца вяртаецца з пустаты.

Яе сустракаюць з балейкамі
анэмонаў.

Некалькі сталых кіслотаў шчыруюць
на падвалінах першацвету.

Чарнахмыз ужо не пярэчыць
блакіту.

***

Працяг узнаўляецца разам
з усмешкаю тых, што былі ў роспачы.

Зноў трава зелянее наўкола
магілаў.

Імпэту ўва ўсім — цераз край.

***

Дрэва адладжвае карону сваю.

Яно напінае пупышку аж па
беражочкі смалы й
улучвае подзівам.

Паранены ім,
сцякае жаданнем спрыяння.

***

Глыбокі смутак апаноўвае ўсё
цела пры думцы пра ўзнаўленне нейкай
справы, бескарыснай і бясконцай.

Яно баіцца гожага надвор’я, якое
бесцырымонна ўсядаецца на
раны зімы.

Яно не падзяляе
заблудзі несусветнай
соку.

***

Няма нічога больш смутлівага, чым
веда, як дапясці
асалоды.

Радасць, вядомая загадзя, – радасць
прыпсутая.

Падобны знаўца бачыць толькі
жоўты абадок у зеве
нарцыса.

***

Хто ўзгадае, што вішня
была кветкай?

Хто скажа, што дрэва было
букетам, які перавысіў

чаканні свету?

Ці існуе званочак, каб
папярэдзіць пра гэтую смерць, што
прыходзіць у вобліку прыгажосці?

***

Рана ці позна, кожны зведвае
вясну, якая перапраўляе
на іншы бераг часу.

Там любáя шчаслівая згадка
мае рысы непапраўнай бяды.

Найумелыя птушкі
там толькі прылады
вусцішы й моўчы.

***

Што б сталася са светам, калі б
вясна была верная свайму
абяцанню?

Гоман крыніцаў
быў бы акрэслены, як бесталковае
царства.

Раскутасць дыхання была б
абцяжараная шумавіннем
флоры.

Разгубленасць нараджэння
была б на ўсіхных абліччах.

**З французкай пераклала
Ніна МАЦЯШ.**

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# НЕ КАЗКА, А МІФ

У свой час канцэпцыя эдыпавага комплексу сп.Фрэйда аказала глыбокае ўражанне на сп.Юнга, які быў на дзевятнаццаць гадоў маладзейшы за свайго настаўніка (грунтуючыся на старажытнагрэцкім міфе пра караля Эдыпа, што ненаўмысна забіў роднага бацьку Лая і ажаніўся, не ведаючы таго, на сваёй матцы Іякасце, якая, калі таямніца раскрылася, здзейсніла самазабойства (сам Эдып выкалаў сабе вочы), Фрэйд цалкам слушна лічыў, што паколькі падобная сітуацыя знайшла адлюстраванне ў міфах і старажытнай літаратуры, яна з'яўляецца агульначалавечай, а табу на інцэст закладзена ў кожным з нас. Але Фрэйд быў дагматыкам. Ён пачаў сцвярджаць, што падобны канфлікт паўтараецца ў жыцці кожнага хлопчыка ва ўзросце ад чатырох да пяці гадоў і з'ўляецца асновай развіцця асобы (пазней ён знайшоў адпаведнік для дзяўчынак таксама ў старажытнагрэцкім міфе пра Электру). Юнг жа ўпарта адмаўляўся бачыць у гісторыі пра караля Эдыпа апісанне ўсяго працэсу духоўнага станаўлення асобы, але толькі адзін з прыкладаў мноства ўласцівых кожнаму чалавеку псіхічных архетыпаў. (Архетыпамі – ад грэцк. "першасны адбітак"– Юнг называў "несвядомыя вобразы... інстынктаў, ...мадэлі інстынктыўных паводзінаў". Зараз пад архетыпам прынята разумець універсальныя мысліцельныя формы (ідэі), якія ўтрымліваюць моцны эмацыйны запал і ствараюць вобразы ці мроі, якія ў стане не-

---

*(Працяг. Пачатак у № 63, 64.)*

сну адпавядаюць некаторым усведамляемым фактарам рэчаіснасці: напрыклад, архетып бацькі стварае вобраз бацькі, які пасля ідэнтыфікуецца з бацькам сапраўдным.) Юнг зразумеў, што Фрэйд вынайшаў адзін з прыкладаў таго, як псіхалогія можа выйсці за межы гісторыі асобы і прыадкрыць гісторыю ўсёй расы, адлюстраваную ў міфалогіі. Падчас клінічных даследаванняў гэта давала магчымасць уздзейнічаць на душу пацыента, выкарыстоўваючы сродкі, што знаходзіліся па-за ёю (Фрэйд такую магчымасць упарта адмаўляў і ўсе прычыны псіхапаталагічнага стану чалавека заклікаў шукаць выключна ў яго ўласных успамінах). Першыя высновы Юнг апублікаваў у 1912 годзе пад назвай "Трансфармацыі і сімвалы лібіда" (лац. *libido* – цяга, пажада, страсць, імкненне). Пасля моцнай аўтарскай перапрацоўкі гэтая кніга выйшла ў 1952 годзе пад назвай "Сімвалы трансфармацыі". У сваёй працы ён сцвярджаў, што паняцце лібіда азначае не проста сексуальную, згодна Фрэйду, энергію, а ўсю псіхічную энергію цалкам. У якасці доказу Юнг спасылаўся на вобразы сноў нейкай "міс Франк Мілер" – пацыенткі сп.Тэадора Флурнаў, што апублікаваў у 1906 годзе яе мроі, якія паўтаралі вобразы і тэмы цэлага шэрагу старажытных міфаў розных культураў і эпохаў, пра якія сама малаадукаваная жанчына ў свядомым стане не мела ніякага ўяўлення. Прааналізаваўшы змену вобразаў тых мрояў у часе, Юнг аднавіў ход падзеяў, якія непазбежна прывялі пацыентку да шызафрэніі (расслаенне душы). Калі ж праз некаторы час ён абмеркаваў свае высновы з самім Флурнаў, той пацвердзіў, што развіццё хваробы "міс Мілер" дакладна супала з карцінай, намаляванай Юнгам. Усё гэта ніяк не ўкладвалася ў тэорыю Фрэйда, які ўспрыняў самастойнае даследаванне вучня не інакш як здраду.

Але затое сам Юнг здолеў пераканацца, што ў міфалогіі і літаратуры па праблеме чалавечых архетыпаў здаўна існуюць "выпрацаваныя пункты гледжання, на якія мы ў нашай псіхалагічнай навуцы толькі зараз пачынаем звяртаць увагу". Гэта паклала пачатак даследаванням "несвядомага як аб'ектыўнай і калектыўнай душы" (пазней Юнг скараціў гэтае паняцце да "калектыўнага несвядомага": калектыўнага таму, што складаецца з вобразаў і мадэляў паводзінаў, якія не набываюцца асобай на працягу жыцця, але, нягледзячы на тое, даступныя ўсім індывідам і ва ўсе часы; несвядомага таму, што яго немагчыма ўсвядоміць),

што зрэшты прывялі да стварэння ягонай тэорыі псіхатыпаў. Паколькі мэтай тых даследаванняў было вывучэнне катэгорыі нематэрыяльнай, якую ўсвядоміць напраcткі нашым недасканалым розумам немагчыма, ён (падобна фізіку-ядзершчыку, які вывучае нябачныя элементарныя часцінкі атама па слядах, што тыя пакідаюць у пухірковай каморы ці адмыслова створанай крышталёвай структуры) назіраў праявы-сляды несвядомага, якія яно пакідае ў чалавечых снах, мроях і, зрэшты, літаратуры. “Сон... – пісаў Юнг, – не ў стане выклікаць пэўную думку – дзеля гэтага ён мусіць перастаць быць сном... Сон... праяўляецца на мяжы свядомасці, быццам бляклае міргаценне зорак падчас поўнага сонечнага зацьмення”.

Але каб паглыбіцца ў сутнасць тыпалогіі Юнга, неабходна найперш пазнаёміцца са структурай чалавечай душы, як яе вызначаў сам спадар.

Для гэтага варта ўявіць двухсхільны дах. Тады адразу ўздоўж уяўнага вільчыка будзе цягнуцца сфера свядомасці, што сімвалізуе лінію разумовых паводзінаў. Яна займае вельмі невялікую частку душы і ўзнікла параўнаўча нядаўна. Крыху глыбей, непахісна пашыраючыся ўнізе, ідзе невялікі слой асабістага несвядомага (проста “несвядомага”, згодна Фрэйду, бо менавіта наяўнасць наступнага слоя – калектыўнага несвядомага – “майстар” псіхааналізу і адмаўляў. Да таго ж, як пісаў Юнг, “Фрэйд... высноўвае несвядомае са свядомага... Я пайшоў бы ад адваротнага: я сказаў бы, што на першым месцы, бясспрэчна, знаходзіцца несвядомае... У раннім дзяцінстве мы пазбаўлены свядомасці; самыя істотныя функцыі інстынктыўнага характару з’яўляюцца несвядомымі, і слушна будзе сказаць, што свядомасць ёсць прадуктам несвядомага”.) Гэтая частка душы ўтрымлівае ўсе ўражанні незалежна ад таго, трапілі яны ў нашу свядомасць, ці не. (Напрыклад, гукі, пахі, змены тэмпературы адзначаюцца ўсім целам. Па ідэі, мозг няспынна рэгіструе ў сукупнасці цалкам усё, што адбываецца вакол нас і што свядома мы можам ніяк не заўважаць). Асабістае несвядомае паступова пераходзіць у сферу калектыўнага несвядомага, якая працягвае разыходзіцца і цягнецца ў глыбіню да бясконцасці. Калектыўнае несвядомае складаецца з архетыпаў, праз якія першапачаткова пракочваецца ўвесь наш пачуццёвы вопыт.

Пасля таго, як архетыпы ўбіраюць у сябе ўсе нашыя жыццёвыя ўражанні, яны ствараюць комплексы.

Каб растлумачыць гэта апошняе паняцце, варта зрабіць нелірычны водступ.

Калі на пачатку XX стагоддзя Юнг працаваў лекарам у псіхіятрычнай клініцы ў мястэчку Бургхольцлі (Швейцарыя), ён займаўся вывучэннем дынамічнага працэсу ўзаемазалежнасці паміж свядомым і несвядомым, які, напрыклад, мае месца падчас чытання, кіравання аўтамабілем і да т.п. (менавіта дадзеная праца прыцягнула да асобы Юнга ўвагу сп.Фрэйда). Дзеля гэтага Юнг эксперыментаваў з вербальнымі асацыяцыямі, адзначаючы рэакцыю пацыента на слова-стымул і вымяраючы працягласць дадзенай рэакцыі. Такім чынам ён вынайшаў, што найдаўжэйшыя перыяды рэагавання групаваліся вакол прадметаў, што мелі для пацыентаў эмацыйную значнасць. Напрыклад, закаханы чалавек будзе даўжэй рэагаваць на любое паняцце, якое асацыюецца ў яго з аб'ектам пачуцця, а таму аўтаматычна становіцца словам-стымулам. Групы такіх паняццяў, якія маюць эмацыйны запал, Юнг і абазваў комплексамі. Варта адзначыць, што дадзеныя эксперыменты маладога тады псіхіятра прывялі да вельмі буйных наступстваў. Па-першае, высновамі Юнга скарысталіся вынаходнікі "дэтэктара хлусні", да стварэння якога сам мысляр мае дачыненне нават меншае, чым сп.Эйнштэйн – да стварэння атамнай бомбы. Па-другое, вынікі тых даследаванняў разам з вынайдзенай Юнгам структурай чалавечай душы дапамаглі зразумець механізмы кіравання чалавечай псіхікай, што прывяло да стварэння практычных метадаў замбавання і нейралінгвістычнага праграмавання (НЛП) (у першым выпадку структура душы змяняецца такім чынам, што "двухсхільны дах" ператвараецца ў "піраміду", а таму свядомасць зомбі зводзіцца ў кропку; у другім з дапамогай словаў-стымулаў, якія маюць эмацыйны запал, структурны "дах" душы звужаецца настолькі, што ператвараецца амаль у плоскасць, у выніку чаго для свядомасці застаецца толькі адна лінія запраграмаваных паводзінаў – метад, які вельмі шырока выкарыстоўваецца ў рэкламе, у першую чаргу палітычнай). Вось, магчыма, тыя самыя словы Юнга, што справакавалі аматараў пакіраваць сабе на карысць натоўпам: "Свядомы розум характарызуецца адноснай вузкасцю. У дадзены канкрэтны момант ён у стане ўтрымліваць адначасова толькі некалькі змястоўных

элементаў. Усё астатняе ў гэты час з'яўляецца несвядомым, і мы атрымліваем толькі нешта накшталт працягу ці агульнага разумення, альбо адчування свядомага свету праз паслядоўнасць свядомых момантаў. Нам не дадзена ўтрымліваць вобраз суцэльнасці, бо наша свядомасць задужа вузкая... Сфера несвядомага вялізная і няспынная, у той час як вобласць свядомасці – гэта абмежаванае поле аднамомантнага бачання".

Гэта адкрыццё Юнга мае практычна неабмежаванае поле для тлумачэння псіхічных працэсаў. Скарыстаўшы яго, мы ў стане, між іншым, патлумачыць папулярнасць рыторыкі аднаго палітыка ў адрозненне ад непапулярнасці рыторыкі другога. Зразумела, што вербальныя метады апрацоўкі мазгоў электарата пабудаваныя на словах-стымулах, задача якіх – прымусіць выбухнуць эмацыйны запал комплексаў, уласцівых як мага большай частцы насельніцтва. Таму няцяжка здагадацца, што такія гукаспалучэнні, як "гарэлка", "сала", "каўбаса", "рубель", "братнія народы", "вялікая перамога" і да т.п. у сучаснай Беларусі будуць па папулярнасці значна пераўзыходзіць паняцці кшталту "Макдоналдс", "кока-кола", "адраджэнне", "дэмакратыя", "свабода", "незалежнасць", "Еўрасаюз", "НАТА"... А значыцца, тыя палітыкі, хто выкарыстоўвае для праграмавання натоўпу рыторыку другога кшталту, маючы пэўную падтрымку сярод заангажаваных адукаванай моладзі і невялікай часткі інтэлігенцыі, бойку за электарат асуджаны прайграць. Калі яны самі таго не разумеюць, гэта не на іх карысць. Калі разумеюць, значыцца, яны скончаныя цынікі, роля якіх толькі ў тым, каб адваёўваць паступова і пакрысе папулярнасць для кодавых словаў-паняццяў, што выкрываюць для "пасвечаных" прысутнасць пэўных груповак, якія нікуды не спяшаюцца, бо іх мэты, што цалкам натуральна, – зусім не свабода і незалежнасць Беларусі, а нешта больш маштабнае. (Напрыклад, "вольныя муляры" – масоны – назваліся так на ўзор сярэднявечных будаўнікоў храмаў, будаўніцтва якіх у часе жыццём аднаго пакалення не вымяралася). Але за такую ролю працадаўцы шчодра, даруйце за слэнг, "башляюць", і таму на ролю лідэраў "адраджэння" трапляюць тыя, хто заўсёды крочыць у першых шэрагах, бо яны "ўмеюць жыць", "трымаюць нос па ветры", умеюць "разводзіць лохаў" і г.д. (на зэкаўскай "фені" падобных здатных штукароў вельмі трапна вызначаюць як "кідалаў"). Карацей, гэта ўсё аматары таго

“шчасця”, што купляецца за грошы. (Тых наіўных людзей, якія з-за вузкасці ўласнага кругагляду “не даганяюць” і свята вераць у прапагандуемыя палітыкамі “ідэалы” і якіх перыпетыі лёсу выпадкова заносяць на ролю “лідэраў”, паступова пасля таго, як яны выконваюць усю чарнавую працу, адсоўваюць на другасныя ролі. Так адбываецца не толькі ў палітыцы, але і ў бізнесе, дзе, натуральна, таксама пануюць “кідалы”). Менавіта таму за апошнія сто гадоў “лідэраў адраджэння” ў беларусаў было аж зашмат, вось толькі само адраджэнне пакуль ніяк не адбудзецца.

Каб апярэдзіць непазбежныя (у першую чаргу з боку тых, хто “не даганяе”) абвінавачанні ў “антыпатрыятызме”, “пражыдоўстве”, “прамаскальстве”, “прабаркашоўстве” і г.д., спынімся падрабязней на дзейнасці любых (а значыцца, абстрактных) лідэраў любога (а значыцца, абстрактнага) адраджэння з пункту гледжання псіхалагічнай навукі (усе рэлігіі, а таксама любыя “ізмы” і ідэі, раней ці пазней перажываюць перыяды адраджэння).

Каб зразумець механізм уздзеяння псіхалагічнага намаўлення на сходках так званых “адраджэнцаў”, неабходна яшчэ раз акрэсліць асноўныя палажэнні псіхалогіі натоўпу, якая ў навуцы разглядаецца як адзінае цэлае, што істотна адрозніваецца ад псіхалогіі асобных індывідаў, з якіх складаецца натоўп, бо эмацыйная прырода яго складнікаў у такім выпадку змешваецца і злучаецца ў адзінае цэлае (у псіхалогіі натоўп вызначаецца не проста як вялікае зборышча людзей, а як вялікая слаба арганізаваная група, што надае адчуванне ідэнтычнасці, заснаванай на агульным стэрэатыпе групы, індывідам са слаба развітым адчуваннем ідэнтычнасці ўласнай). З-за моцнай эмацыйнай прыцягальнасці і агульнасці інтарэсаў на сходцы адбываецца трансфармацыя з натоўпу першаснага ў натоўп другой ступені, калі пачынае пераважаць агульнамысленне, натоўп становіцца як бы сукупнай асобай, у якой ступень разважлівасці і кантролю над эмоцыямі адпавядае ўзроўню характарыстыкаў самага псіхічна і разумова слабога яе прадстаўніка. У выніку гэтага працэсу натоўп набывае такія ўласцівасці, як лёгкая ўнушальнасць, успрымальнасць да эмоцыяў, дынамічнасць уяўлення, а таксама пераймальнасць у дзеяннях. Усё гэта універсальныя рысы, характэрныя для першабытнага чалавека. Калі правесці аналогію з ланцугом, дык можна сцвярджаць, што здатнасць да крытычнага

мыслення ў натоўпу вызначаецца станам найбольш слабога яго звяна, у выніку чаго ён мае вельмі саслабелы адпор на ўздзеянне эфектыўных формаў псіхалагічнага ўнушэння: акрамя магутнага ўнушэння з боку харызматычнага "лідэра", які, падобна прафесійнаму гіпнатызёру, вядзе натоўп у патрэбным яму накірунку, кожнаму асобнаму індывіду ўнушаецца імітацыя роўнасці ўсіх членаў натоўпу.

Механізм падобнага ўздзеяння даўно вядомы: увага і інтарэс прыцягваюцца нязвыкласцю падзеі, манатонныя словы з уладарнымі інтанацыямі ў голасе і ўпэўненыя рухі "правадыра" ствараюць сітуацыю таямнічасці ці трымцення, прытупляюць уласныя пачуцці, а ў апагеі гучаць загады ці прапановы, што не прымаюць адмаўлення: "Хто за тое, каб?!..."; "Устанем шчыльнымі шыхтамі!" Такім чынам, аб'екты пастадыйна – ад простага да складанага – рыхтуюцца да самападначальвання. А таму, калі гучыць фінальны загад: "Рушым на!..." – ён вымушае тых, хто паддаўся ўнушэнню, ускочыць з месца і бегчы. Усё гэта асновы гіпнозу, а таму з кожнага "лідэра" пры жаданні можа атрымацца някепскі цыркач.

Падобнай форме эмацыйнага ўздзеяння найболей паддаюцца моладзь, бо ў падлеткавым узросце ў свядомасці чалавека адбываюцца пастаянныя істотныя змены, і істэрычныя жанчыны, а таксама псіхічна неўраўнаважаныя людзі кшталту п'янтосаў і да т.п. Іх пачуцці ўзрушаюцца, а воля падначальваецца лідэру таксама з дапамогай сентыментальных вершаў і песняў, аповедаў пра дзяцінства (ці, што амаль тое ж самае, згадак пра так званы "залаты век"), персанальных зваротаў з боку паплечнікаў "адраджэнца". Апрацаваныя такім чынам людзі з лёгкасцю адмаўляюцца ад уласнай волі і аддаюцца на "літасць Божую" ці волю правадыра.

Прафесійныя "лідэры адраджэння" натуральна разумеюць, што псіхалагічнае ўнушэнне адыгрывае найістотнейшую ролю ў іх руху, але апраўдваюцца тым, што яно можа ўжывацца як з дрэннымі, так і з добрымі намерамі. Яны сцвярджаюць, што псіхалагічнае ўнушэнне – цалкам законны сродак і зброя супраць "ворагаў", д'ябла і да т.п. Але ці ўяўляюць яны сабе адказнасць за маштабы падобнага ўздзеяння на людзей і ягоныя магчымыя наступствы? Калі не, тады яны вартыя жалю эпігоны, усяго толькі інструмент у руках уласных "куратараў" (што не вызваляе, між іншым, іх ад адказнасці). Калі так, значыцца, яны скончаныя цынікі, якія за духоўны ўздым дзеля аднаўлення "маральных асноваў" і "гістарычнай справядлівасці"

выдаюць павышаныя эмацыйны, неўратычны і істэрычны станы розуму масаў, выкліканыя ўжываннем імі "адраджэнцкіх" метадаў.

Некаторая частка людзей, якіх эмацыйна захапіла "адраджэнцкае" ўзбуджэнне, сапраўды пасля, засвоіўшы "ідэалы адраджэння", у стане вярнуцца да нармальнага ладу жыцця. Але часцей за ўсё "адраджэнне" аказвае вельмі кароткатэрміновы дабратворны ўплыў на індывідаў у стане ўзбуджэння, пасля чаго яны, перажыўшы стрэс, апускаюцца ў стан глыбокай абыякавасці, а часам пачынаюць паступаць нават насуперак першапачатковым "адраджэнцкім" пачуццям. Прычым адваротная рэакцыя нярэдка роўная па моцы ўзбуджэнню, што выклікала яе. Падобны "адкат" мы назіраем зараз на ўласныя вочы ў нашым грамадстве.

І нічога дзіўнага ў тым няма. Бо любое "адраджэнне", правакуемае асобамі, якія ў экзістэнцыі дбаюць толькі пра ўласны дабрабыт, а таму не маюць і кроплі мужнасці, каб ісці "да канца", гатовыя абезгаловіць "адраджэнцкі рух" і драпануць за мяжу, як толькі з'яўляецца небяспека іхняму жыццю (чым даказваюць, што з'яўляюцца не сапраўднымі лідэрамі, а ўсяго толькі прыватнымі асобамі), аказвае нацыі вельмі шкодную "паслугу", значна паскараючы працэс разбурэння нацыянальнага характару. (У звязку з гэтым хочацца перафразаваць словы Хасэ Марці – рамантычнага паэта і змагара за свабоду і незалежнасць Кубы: "Беларусь павінна быць для нас алтаром, на які мы прыносім нашы жыцці, а не п'едэсталам, на які мы хацелі б ускараскацца".)

Псіхолагам вядома, што людзі, аднойчы выведзеныя са стану адноснай раўнавагі "адраджэнцкай" рыторыкай, пасля ў выніку расхістанай псіхікі значна лягчэй паддаюцца замбіроўцы і праграмаванню з боку розных авантурыстаў і махляроў. Цудоўна ведаюць пра гэтое таксама авантурысты і махляры (узгадайце, як пасля развалу СССР і знішчэння КПСС на постсавецкай прасторы буялі фінансавыя піраміды, "аумы сенрыкё", "гербалайфы" і інш.) Акрамя таго, у псіхалогіі існуюць даследаванні ўзаемасувязі паміж анармальным "адраджэнцкім" узбуджэннем і адхіленнямі ў сексуальнай арыентацыі.

Кім жа ёсць сапраўдны лідэр сапраўднага адраджэння? Тое няцяжка вызначыць метадам ад супрацьлеглага: гэта чалавек, які спрыяе выхаванню характару нацыі. Характар жа нацыі выхоўваецца праз творчую самаідэнтыфікацыю кожнай асобы, што

разбурае стэрэатыпы груповак і як наступства – натоўпы індывідаў. А гэта азначае, што лідэрам можа стаць толькі чалавек, які дасягнуў найвышэйшых поспехаў ва ўласнай творчай самаідэнтыфікацыі. І абавязкова той, хто нясе ў сабе вялікі станоўчы энергетычны запал, а не той, хто, адчуваючы хуткую фізічную смерць, енчыць пра паміранне нацыі (спытайцеся лепей у моладзі, ці адчувае яна сябе ў перадсмяротным духоўным стане). Нацыя існавала тысячагоддзямі да нас (не будзем распачынаць дыскурс на тэму палітэканамічных і навукова-гістарычных вызначэнняў дадзенага паняцця), і столькі ж праіснуе пасля нас. І пакуль мы не навучымся ставіцца памяркоўна да тых, хто з намі не заўсёды згодзен, пакуль мы не выпрацуем у сабе звычку казаць толькі добрае пра тых, хто нам не падабаецца, пакуль мы не пачнём бачыць у іншых толькі добрае, а не дрэннае, мы не даможамся ні сапраўднага поспеху, ні шчасця. Бо не трэба забывацца на старую праўду: што чалавек, які паселіць у другім адну-адзіную цудоўную думку, зробіць для ўсяго свету значна болей, чым разам узятыя тыя, хто ўмее толькі лаяць.

Але такім лідэрам "прафесійны палітык" стаць не можа. Бо ў палітыку якраз і ідуць людзі, што не здолелі спатоліць уласнае гіпертрафаванае "эга" ў творчасці. А паколькі яны не ў стане пераканаць саміх сябе ва ўласнай выключнасці, яны спрабуюць пераканаць у гэтым іншых, як мага болей людзей, з якіх ствараюць натоўп сваіх прыхільнікаў, цынічна выкарыстоўваючы супраць іх псіхалагічную "зброю". У гэтым сэнс іх палітыкі.

Варта адзначыць, што метады НЛП у мінулым дзесяцігоддзі сталі шырока ўжываць не толькі ў палітыцы і рэкламе, але і ў літаратурным бізнесе, што ўвасобілася ў брутальных праектах, на фасадзе які пазначаны імёны, напрыклад, брытанскага аўтара Ірвіна Уэлша (раман *Trainspotting* ("На іголцы"), па якім у 1993 годзе быў зняты шырокавядомы аднайменны фільм; кніга "хімічных казак" *Ecstasy*), ці расійскага аўтара Уладзіміра Пялевіна ("Пакаленне Пі"). Наркотыкі, брудная лаянка, выхалашчаны секс, разбэшчанасць і да т.п. – вось асноўны іх змест.

Не будзем лічыць блуканні ў нетрах сацыяльнай псіхалогіі адхіленнем ад асноўнай тэмы. Бо кожны літаратар, зрэшты, піша дзеля таго, каб яго чыталі. Чыталі як мага болей чытачоў. А значыцца, ён – патэнцыйны кандыдат на ролю духоўнага лідэра нацыі. Трэба ведаць ступень адказнасці...

На шчасце, не адныя "кідалы" ў стане скарыстаць высновы спадара Юнга. Напрыклад, дзякуючы ім мы можам цяпер не толькі зразумець сэнс асноўнай для ўсіх часоў і народаў формулы тых, хто шукае мудрасці: "Спазнай сябе, і ты спазнаеш свет" (гэтыя словы былі накрэсленыя, напрыклад, над уваходам у слынную Дэльфійскую бажніцу), – але і візуальна ўявіць яе дзеянне: калі паглядзець на структуру душы ў разрэзе, лінія свядомасці ператворыцца ў кропку фокуса, у якой сыходзяцца лініі сувязі паміж усведамляемым матэрыяльным светам і неўсведамляемым несвядомым. Гэта азначае, што чым глыбей мы звяртаемся да сваёй душы, тым болей пачынаем разумець і ў рэчаіснасці. І наадварот – пры ўмове, што даследчык матэрыяльнага (інакш кажучы, грубаматэрыяльнага) свету не адмаўляе існавання свету тонкіх матэрыяў (свету нематэрыяльнага). "Кожны крок на шляху да вышэйшай свядомасці, – пісаў Юнг, – падобны на правіннасць Праметэя: любое веданне так ці інакш пазбаўляе багоў агню, іншымі словамі, кожны раз нешта належнае несвядомаму выхопліваецца са свайго натуральнага кантэксту і падначальваецца свядомаму розуму".

Але вернемся да тыпалогіі. Трэба ж, нарэшце, парупіцца і пра нашых будучых літаратурных герояў...

Як ужо адзначалася раней, асноўныя псіхатыпы людзей узнікаюць, згодна Юнгу, пры спалучэнні экстра- і інтравертыўнай установак з функцыямі мыслення, адчування, пачуцця і інтуіцыі, якімі мы карыстаемся ў сваіх стасунках з рэчаісным светам. Каб зразумець механізм такога спалучэння, уявім кола, рассечанае двума дыяметрамі на чатыры аднолькавыя сектары. Гэта функцыі. Калі ісці па стрэлцы гадзінніка, яны размеркаваныя так:

1) мысленне;
2) інтуіцыя;
3) пачуццё;
4) адчуванне.

У верхнім сектары заўсёды месціцца вядучая функцыя, па баках – другасныя, а знізу – падначаленая. Такім чынам, напрыклад, для мысляра інтуіцыя і адчуванне выконваюць другасную ролю, а пачуццё з'яўляецца функцыяй падначаленай.

Адчуванне і інтуіцыя з'яўляюцца функцыямі перцэптыўнымі – з дапамогай іх мы ўспрымаем дадзеныя пра аб'ектыўную

рэчаіснасць, што паступаюць ад органаў пачуццяў. Яны апрацоўваюцца з дапамогай мыслення і пачуцця: функцыя мыслення ідэнтыфікуе і класіфікуе інфармацыю, атрыманую ад адчування і інтуіцыі, а пачуццё ацэньвае гэтую інфармацыю, вызначае, што чаго вартае.

Паколькі мысленне і пачуццё выкарыстоўваюць розум і разам здатныя да вызначэння адрозненняў, Юнг называў іх функцыямі рацыянальнымі (нельга блытаць у дадзеным выпадку пачуццё з ягоным фонам, фізічнай праявай, – эмоцыяй).

Паколькі адчуванне і інтуіцыя толькі даюць інфармацыю для мыслення і пачуцця, Юнг называў іх функцыямі ірацыянальнымі.

Чатыры функцыі, прапанаваныя Юнгам, падзяляюцца на дзве пары: мысленне, супрацьлеглае пачуццю, і адчуванне, супрацьлеглае інтуіцыі. Такім чынам, яны ўзаемавыключальныя разам: мы не ў стане, напрыклад, адначасова класіфікаваць з'яву і ацэньваць яе, ці адчуваць з'яву сенсорна і адначасова ўнутрана візіяніраваць яе з дапамогай інтуіцыі.

Паколькі грамадства вымагае ад нас актыўнага дзеяння з мэтай атрымання сродкаў да існавання, людзі вымушаны часцей звяртацца да таго, што ў іх лепей атрымліваецца. У выніку яны ўсяляк развіваюць адну з чатырох функцыяў, якая з часам становіцца дамінуючай – вядучай. Супрацьлеглая ёй па адпаведнай пары функцыя ператвараецца ў функцыю падначаленую (ніжэйшую) і адсоўваецца ў несвядомае. Гэтае вельмі і вельмі істотнае адкрыццё Юнга мае для літаратара выключнае значэнне. Бо атрымліваецца, што сувязь з несвядомым (іншымі словамі – з душой) у чалавека адбываецца пры ўдзеле другасных функцыяў (другая пара) праз функцыю падначаленую, якая ўсяляк прыгнятаецца ў грамадскім жыцці. А гэта азначае, што працэс усведамлення сябе асобай, працэс выхаду з натоўпу (шлях індывідуалізацыі, згодна Юнгу) заўсёды будзе супрацьстаяць імкненню грамадства зменшыць імпэт дзёрзкага непаслушэнца. Незалежна ад таго, хто пануе ў тым грамадстве, – левыя ці правыя, праўсходнікі ці празаходнікі альбо скончаныя нацыяналісты. А таму творчай асобе, якая будзе непазбежна імкнуцца да цэласнасці ўласнай натуры, да ўраўнаважанага развіцця ўласных функцыяў, па вялікім рахунку індыферэнтна, хто будзе ўсяляк імкнуцца зламіць ягоную волю да асабістай свабоды.

Але ёсць у гэтым адкрыцці сп.Юнга і вельмі аптымістычны

тон, бо яно ўшчэнт разбівае банальнае ўяўленне пра тое, быццам чалавек не ў стане змяніцца. Не, не змяняюцца толькі архетыпы, а чалавек можа стаць іншым. Памятаеце, Юнг казаў, што лёс кожнага літаратурнага героя – гэта спроба прарвацца за межы ўласнага архетыпу?

У каго атрымліваецца, у каго не... Але пра таго, хто нават не спрабуе, і пісаць не варта.

Пра тое ж, якія перашкоды чакаюць нашых віртуальных герояў на гэтым небяспечным шляху, чытайце ў наступным нумары “Крыніцы”.

**Алесь АСТРАЎЦОЎ**

## *Post Scriptum*

**Уільям Самерсэт Моэм:**

“Жыццё насычана неверагоднымі падзеямі, літаратура ж іх не трывае... Грошы, страх і помста – самыя верагодныя матывы, якія можа ўзяць на ўзбраенне аўтар дэтэктыўных раманаў... класічныя метады (забойства) застаюцца непераўзыдзенымі: у нож, агнястрэльную зброю, атруту дагэтуль верыш, і ў тым іх перавага. Усе мы можам напаткаць смерць ад іх ці ў якім выпадку скарыстаць іх самі...

Спачуванне – рэч капрызная. Нярэдка той ці іншы персанаж выклікае яго насуперак намеру аўтара... Нашаму спачуванню ўласціва яшчэ адна цікавая рыса, пра якую, мне здаецца, не ўсе ведаюць. *Чытач аддае сваё спачуванне тым персанажам, з якімі яго знаёмяць у пачатку кнігі, і гэта тычыцца не толькі крымінальных, але і ўсіх іншых раманаў: у чытача застаецца адчуванне, што яго падманулі, калі пазней увагу ягоную будуць займаць персанажы, што не сустрэліся на першых старонках* (курсіў мой, – А.А.)...

Я лічу памылкай змешваць дэтэктыўны аповед з гумарам, але я магу... прымірыцца з гэтым; любоўную ж лінію я не прымаю катэгарычна. Я гатовы дапусціць, што любоў кіруе светам, але толькі не светам дэтэктыўных раманаў; гэты свет яна, відавочна, кіруе не ў той бок. Мне рашуча ўсё роўна, каму аддасць сваё сэрца гераіня рамана – следчаму, які строіць з сябе джэнтльмена, галоўнаму інспектару ці бязвінна пацярпеламу герою. У дэтэктыве мяне

цікавіць дэтэктыўнае следства. Дзея павінна адбывацца па намечаным плане – ад забойства да следства, падозрання, выкрыцця і пакарання; мне прыкра, калі пусі-пусі юных дзяўчатаў, хай сабе самых прывабных, і хлапцоў з самымі што ні на ёсць квадратнымі падбароддзямі адцягваюць маю ўвагу ад асноўнай тэмы. Не буду спрачацца, любоў – адна са спружынаў чалавечых учынкаў і, калі яна яшчэ замяшаная на рэўнасці, страху ці зганьбаваным самалюбстве, цалкам можа прыдацца для пісьменніка, але яна не дае раскруціцца следству па-сапраўднаму, бо яе чарам у рамане могуць быць падначаленыя два, максімум тры чалавекі; ну, а калі на забойства падштурхнула любоў, гэта ўжо *crime passionel* (фр. – "злачынства ў стане афекту"), і забойца не будзе выклікаць у нас жаху. Увесці ж у аповед для разблытвання таямніцы шчымлівы раманчык – пачварная безгустоўшчына, апраўданняў якой не існуе. Вясельнаму звону няма месца ў дэтэктыве...

Лепшыя з дэтэктывістаў тыя, хто даводзіць да нас факты і высновы з іх на зручначытэльным *English* без прысмакаў моўнае вытанчанасці. Прыгажосць стылю ў дэтэктыве непатрэбная...

Дэтэктывістаў, натуральна, павінна засмучаць, што людзі, якія прагна паглынаюць іх кнігі, да іх саміх ставяцца паблажліва, таму не прамінаюць пры выпадку прадэманстраваць, што яны і болей вытанчаныя, і болей эрудзіраваныя, чым прызвычаіліся меркаваць. Па-чалавечы тое цалкам зразумела: ім карціць давесці эпігонам, што яны не саступаюць у адукаванасці любому сапраўднаму члену Каралеўскага літаратурнага таварыства, а ў паэтычнасці – сябру Рады Саюза пісьменнікаў. І вось тут яны робяць памылку. Ім не зашкодзіла б павучыцца непахіснасці ў сваіх інспектараў. Гэта цудоўна, што яны валодаюць шырокімі звесткамі з самых розных галін ведаў, яны ім скрайне неабходныя, але дазволю сабе заўважыць, што *добра апрануты той, чыйго ўбрання не заўважаеш* (курсіў мой. – *А.А.*); аўтарам дэтэктываў няварта адцягваць увагу чытача ўласнай адукаванасцю ад сапраўднай справы, а менавіта ад высвятлення, хто ж насамрэч здзейсніў забойства...

Дэтэктывістам ёсць што распавесці, і таму яны не зацягваюць свой аповед. Яны павінны завабліваць і ўтрымліваць увагу чытача і таму мусяць апавядаць у добрым тэмпе, павінны выклікаць цікавасць, узбудзіць падазранне, некаторымі эпізодамі распаліць інтарэс чытача.

Яны павінны выклікаць прыхільнасць у чытача да тых герояў, да якіх трэба, з чым і спраўляюцца надзвычай спраўна. І гэта не самая апошняя з іх вартасцяў. Яны, нарэшце, павінны прывесці дзеянне да пераканаўчага разблытвання. Карацей, яны павінны захаваць правілы, якіх здаўна прытрымліваліся апавядальнікі з тых самых часоў, калі нейкі спрытны малец распачаў у намётах Ізраіля аповед пра лёс Язэпа.

Сёння ж "сур'ёзным" сучасным раманістам амаль, а то і зусім няма чаго распавесці чытачу; яны дазволілі сябе пераканаць, што ў іх мастацтве аповед не іграе істотнай ролі. Тым самым яны пазбавілі сябе магутнага сродку ўздзеяння на нас, бо любоў да аповедаў уласцівая самой чалавечай прыродзе і старая, як свет; яны самі вінаватыя ў тым, што іх чытачоў перацягнулі дэтэктывісты. І, што яшчэ горш, часам яны невыносна гаваркія. Яны амаль ніколі не разумеюць, што тэму можна разгортваць толькі да пэўнай мяжы, і таму пішуць чатырыста старонак там, дзе пагатоў хапіла б і сотні... Карацей, дэтэктывістаў чытаюць з-за іх вартасцяў, нягледзячы на іх недахопы, што часам кідаюцца ў вочы; "сур'ёзных" жа раманістаў чытаюць параўнаўча мала з-за іх недахопаў, нягледзячы на іх часам цалкам відавочныя вартасці".

**Джон Д. Мак-Дональд** (амерыканскі аўтар бестселераў):

"На вечарынах (якіх я па меры магчымасці імкнуся пазбягаць) мяне часта абдорваюць усмешкамі і моцнымі поціскамі рукі самыя розныя людзі, якія пасля са шматзначным таямнічым выглядам прамаўляюць:

"Ведаеце, мне заўсёды хацелася пісаць".

Раней кожны раз я спрабаваў быць ветлівым з імі.

Але цяпер з такой жа захапляльна-загадкавай усмешкай я адказваю ім:

"А мне, ведаеце, заўсёды хацелася стаць нейрахірургам".

У тое ж імгненне ў іх на тварах з'яўляецца разгубленасць. Але гэта неістотна. Навокал багата дзіўных разгубленых людзей, якія не ведаюць, куды сябе прытуліць і чым заняцца.

Калі вы жадаеце пісаць, дык пішыце.

І навучыцца пісаць можна толькі ў працэсе. Не дужа прыдатны спосаб для засваення прафесіі нейрахірурга...

Руплівасць і працаздольнасць – выдатныя якасці. Але іх

недастаткова. Трэба мець густ да слова. Упівацца, аб'ядацца словамі. Патанаць у іх, смакаваць на языку. Перачытаць мільёны словаў, напісаных іншымі.

Чытаць усё, што толькі трапіцца пад руку, з пачуццём вар'яцкай зайздрасці або паблажлівай знявагі.

А самую раз'юшаную знявагу варта зберагаць для людзей, што хаваюць суцэльную бездапаможнасць і бяздарнасць за шматслоўем, жорсткай структурай сказа, уласцівай германскім мовам, недарэчнымі сімваламі, а таксама суцэльнай адсутнасцю разумення таго, чым ёсць сюжэт, гістарычны кантэкст, рытм і вобраз.

Толькі калі навучыцеся разумець, чым ёсць вы самі, вы навучыцеся разумець іншых людзей. Бо ў любым сустрэчным ёсць часцінка вашага ўласнага "я".

Ну вось, у прынцыпе, і ўсё. Такім чынам, яшчэ раз: што нам неабходна? Руплівасць і працаздольнасць плюс любоў да слова, плюс выразнасць – і, нарэшце, з усяго гэтага з цяжкасцю прабіваецца на свет Божы частковая аб'ектыўнасць.

Бо суцэльнай аб'ектыўнасці не існуе ўвогуле...

Аб'ектыўнасць... яна выпрацоўваецца вельмі павольна і балюча...

Добра. Пра што гэта я?...

Працаздольнасць, любоў да слова, выразнасць, аб'ектыўнасць... А што яшчэ?

Гісторыя! Ну канечне, гісторыя, што ж яшчэ, халера яго бяры!

Гісторыя – гэта нешта, што здарылася з тым, за кім вы назіраеце і да каго неабыякавыя. Здарыцца яна можа ў любым вымярэнні – фізічным, ментальным, духоўным. А таксама ў камбінацыі ўсіх трох вымярэнняў.

І без ублытвання аўтара...

Ублытванне аўтара – гэта глупства ці недарэчны выраз, які вымушае чытача імгненна ўсвядоміць, што ён заняты працэсам чытання, і адарваць тым самым яго ад самой гісторыі. У бедалагі шок, і ён тут жа забываецца на тое, пра што ішла гаворка.

Іншай разнавіднасцю аўтарскага ўблытвання з'яўляюцца гэткія міні-лекцыі, унітаваныя ў тканіну аповеду. Дарэчы, адзін з самых скрушных маіх недахопаў.

Вобраз мусіць быць выпісаны дакладна, утрымліваць нечаканае і трапнае назіранне і не парушаць зачаравання аповедам...

І яшчэ. Дзве самыя складаныя для пісьменніка сферы – гэта гумар і містыка. Пад няўклюдным пяром гумар ператвараецца ў пахавальны спеў, а містыка выклікае смех.

Але калі пяро спрактыкаванае, вы можаце пісаць пра што заўгодна".

**Хорхэ Луіс Борхес, Сільвіна Акампо,**
**Адольфа Б'ёй Касарэс**

## СПІС ЗАБАРОНАЎ ДЛЯ МАЛАДОГА ЛІТАРАТАРА

У літаратуры варта пазбягаць...

Псіхалагічных нечуванасцяў і парадоксаў: забойстваў дзеля спагады, самагубстваў дзеля асалоды. Хто ж не ведае, што ў псіхалогіі няма немагчымага?

Залішне нечаканых інтэрпрэтацыяў вядомых твораў і герояў: агіда Дон Жуана да кабетаў і да т.п.

Нетыповасцяў, складанасцяў, надзвычайных здольнасцяў, уласцівых другасным і амаль незаўважным персанажам. Не забывацца, што літаратурны герой цалкам складаецца са словаў, якімі ён намаляваны (Стывенсан).

Стварэння параў кідка не падобных між сабою дзейных асобаў: Дон Кіхот і Санча, Шэрлак Холмс і Ватсан.

Стварэння навэлаў з парай герояў наогул. Цяжкасць для аўтара тут у наступным: калі ён дазваляе сабе заўвагу наконт аднога з персанажаў, дык мусіць выдумляць нешта сіметрычнае для другога, злоўжываючы, такім чынам, кантрастамі і бляклым падабенствам: Бювар і Пекюшэ.

Класіфікацыі персанажаў паводле іхніх маніяў. Гл. Дзікенса.

Ганяцца за найноўшасцю й неспадзевам: *trick-stories*. Пошук яшчэ не сказанага падаецца нявартым паэта ў адукаваным грамадстве; цывілізаваны чытач не стане вітаць брутальную нечаканасць.

У развіцці сюжэта пазбягайце самаўпэўненых гульняў з часам і прасторай: Фолкнер, Прыстлі, Борхес, Б'ёй і інш.

Такіх адкрыццяў напрыканцы твора, як: што ягоным сапраўдным героем ёсць пампа, джунглі, мора, дождж, дадатковы кошт. Рэдагавання і чытання твораў, пра якія хто-небудзь мог бы сказаць штосьці падобнае.

Вершаў, сітуацыяў, дзейных асобаў, з якімі чытач можа сябе атаясаміць.

Сказаў з усеагульнай прыдатнасцю альбо рызыкай ператварыцца ў прымаўкі ці стацца крылатымі (неспалучальныя са звязаным і паслядоўным дыскурсам).

Персанажаў, што могуць стацца мітамі.

Персанажаў, сцэнаў, выказванняў, наўмысна запазычаных у нейкіх часе ці месцы. Местачковага каларыту.

Прынаджвання чытача словамі й рэчамі. *Sex-* і *death-*апільнасці, анёлаў, статуяў, усялякага *bric-a-brac*[1].

Хаатычнага пералічэння.

Багацця слоўніка. Ужывання якога заўгодна слова ў якасці сіноніма. Наадварот. *Le mot juste*[2]. Усё дзеля дакладнасці.

Жывасці апісанняў. Светаў з падкрэслена фізічнай прыродай. Гл. Фолкнера.

Апісанняў асяроддзя, клімату. Трапічнай спёкі, перапітку, радыё, выразаў, што паўтараюцца, накшталт прыпеву.

Метэаралагічных пачаткаў і заканчэнняў. Прыпадабнення станаў надвор'я станам душы. *Узняўся вецер!... Трэба паспрабаваць жыць далей!*

Метафараў увогуле. У прыватнасці, візуальных; яшчэ больш – сельскагаспадарчых, ваенна-марскіх, датычных банкаўскай справы. Гл. Пруста.

Усялякага антрапамарфізму.

Пісання твораў, сюжэт якіх утрымлівае ў сабе паралель з нейкім іншым творам. Джойсаў "Уліс".

Стварэння кніг, што імкнуцца нагадваць меню, альбомы, турыстычныя планы, канцэрты.

Магчымых зацемкаў на ілюстрацыі. Магчымых зацемкаў на кінаадаптацыю.

Цэнзуры ці ўхвалы ў крытыцы (згодна з правілам Менара).

# Для нас

Дастаткова зазначыць літаратурныя наступствы. Няма нічога больш вартага смеху за гэтых *dealers in the obvious*[3], што абвяшчаюць неактуальнымі Гамера, Сервантэса, Мілтана, Мальера.

У крытыцы – усіх спасылак на гісторыю й біяграфію. Цікавасці да асобы аўтара. Псіхааналізу.

Хатніх і эратычных сцэнаў у дэтэктывах. Тэатральных сцэнаў у філасофскіх дыялогах.

Відавочна чаканага. Патэтыкі і эротыкі ў навэлах пра каханне, таямнічасцяў і смерцяў у дэтэктывах, прывідаў у навэлах аб прывідах.

Славахціўства, сціпласці, педэрастыі, адсутнасці педэрастыі, самагубстваў.

**Пераклаў з іспанскай мовы**
**Максім ШЧУР.**

---

[1] **Bric-a-brac** *(фр.)* – ламачча.
[2] **Le mot juste** *(фр.)* – дакладнае слова.
[3] **Dealers in the obvious** *(анг.)* – пасярэднікаў у відавочным.